23 красавіка 2021 | № 16 (724)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

**«Гэта ўсё патрэбна для беларусаў»**

**Стар. 6,19**



# Кожны з нас адказны за будучыню краіны

Аксана КОЛБ

**Сюр кожнага дня нашай беларускай рэчаіснасці можа загнаць у ступар. Але дакладна не можа пакінуць у роспачы. Бо тое, што адбываецца цяпер у нашай краіне, — гэта шанец на ачышчэнне. Ад смецця, тлуму і, як не дзіўна, крывадушнасці.**

Кожны наш крок і кожны ўчынак робяць нас тымі, кім мы ёсць. Людзьмі добрымі, спагадлівымі і шчырымі. Ці істотамі — злымі, зайздроснымі і хлуслівымі. Кожны наш крок і кожны ўчынак фарміруе будучыню нашай краіны. І таму ад нас залежыць, якой яна стане — лунаючай у ясным небе ці пазяхаючай у лужыне.

І вось я чытаю навіны: «41-гадовы мінчук два гады працуе кіроўцам прыгараднага аўтобуса ў адным са сталічных аўтапаркаў. 12 красавіка, каля 7.30, раніцы падчас маршруту, на якім ездзіць шмат пастаянных пасажыраў, знаёмых з ім, мужчына па гучнай сувязі перадаў прывітанне ад палітвязняў. Зрабіў ён гэта, таму што ў снежні яго сына асудзілі на тры гады "хіміі" за жніўеньскія пратэсты. Сярод пасажыраў той раніцай быў супрацоўнік службы бяспекі Мінскага метрапалітэна, які паскардзіўся на кіроўцу ў міліцыю. Мужчыну затрымалі праз некалькі дзён і склалі пратакол па артыкуле 24.23 КаАП. У выніку суддзя Мінскага раёна Аляксей Крапочаў прызнаў кіроўцу аўтобуса вінаватым і прысудзіў яму 15 дзён арышту».

Цікава, якую будучыню хоча для Беларусі гэты «супрацоўнік службы бяспекі Мінскага метрапалітэна»? А мілая жанчына, што ў Брэсце пазваніла ў міліцыю і паскардзілася на пудзілы, за якія цяпер людзей кідаюць за краты ўжо не на суткі, а на гады? А той дзядзька, што данёс на музыку ў пераходзе?

Ці разумеюць гэтыя людзі, што робяць шкоду найперш сабе? Хутчэй за ўсе, не. Яны жывуць з усведамленнем таго, што вакол адны злыдні і ворагі, што жыццё — гэта цяжар. Іх крэда: «не шкада, што карова падохла, шкада, што ў суседа жывая». Яны могуць радавацца толькі кавалку кілбасы, новай машыне ці прэміі за данос. За іх яны гатовыя перагрызці глотку хоць сябру, хоць сваяку. І ад гэтага мне іх шкада яшчэ больш.

У 1940 годзе за маім дзедам, Лявонам Гембіцкім, прыйшоў сусед, які пабег на службу ў НКУС. Дзеда ў хаце не было, ён схаваўся ў лесе, іншы сусед яго папярэдзіў — і, магчыма, выратаваў ад расстрэлу. У чэрвені 1941-га, калі прыйшлі немцы, той нкусавец не паспеў збегчы, і ад расстрэлу яго выратаваў мой дзед.

Усведамленне слушнасці таго дзедавага ўчынку прыйшло да мяне не адразу. А сапраўдны сэнс, магчыма, стаў зразумелы толькі сёлета. Бо кожны наш крок і кожны ўчынак фарміруе будучыню нашай краіны.

І будучыня тая надыдзе абавязкова светлая, лунаючая сцягам у ясным небе. Пацверджанне гэтаму я бачу штодня і паўсюль. Бо на кожнага «супрацоўніка службы бяспекі Мінскага метрапалітэна» ёсць тысячы тых, хто гатовы прыйсці на дапамогу. Збіраць грошы на штрафы ці на перадачы палітвязням, пісаць лісты ў турмы ці прыходзіць падтрымаць на суды. Ці проста купіць торбу садавіны бабулі, якой на касе не хапіла грошай на два яблыкі.

І гэту штодзённасць у нас не адабраць. А тыя, хто сёння ад злосці пырскаюць слінай, робяць памылку за памылкай. Ствараючы ўжо толькі сваю будучыню, а не будучыню краіны. Мне іх шкада... А Беларусь жыве!

**Шаноўныя чытачы! Наступны нумар «Новага Часу» выйдзе 7 траўня 2021 года**

## Прышчэпкі ад COVID-19 будуць рабіць наўпрост на прадпрыемствах

**У сталіцы прышчэпкі ад COVID-19 будуць рабіць проста на прадпрыемствах. Пра гэта паведамляе тэлеграм-канал «Мінск. Официально» са спасылкай на старшыню гарвыканкама.**

Прышчапляць ад каронавіруса працоўныя калектывы ў сталіцы будуць з выездам на прадпрыемствы. Такая праца ўжо праводзіцца, піша Мінгарвыканкам.

На думку старшыні Мінгарвыканкама Уладзіміра Кухарава, такі спосаб для буйных калектываў будзе больш зручным, чым накіроўваць работнікаў у прышчэпачныя кабінеты гарадскіх паліклінік.

Нагадаем, на мінулым тыдні са спасылкай на прадстаўнікоў некалькіх гарадскіх паліклінік паведамлялася, што ёсць планы арганізаваць вакцынацыю ў буйных гандлёвых цэнтрах.

— Разглядаем розныя варыянты: Камароўскі рынак, ЦУМ і іншыя, у якіх маюцца медпункты, — казаў намеснік галоўнага ўрача па арганізацыйна-метадычнай рабоце 34-й цэнтральнай раённай клінічнай паліклінікі Савецкага раёна Вадзім Касцюкоў. — Бярэм у разлік і гандлёвыя цэнтры. Цяпер жыхарам сталіцы нязвыкла будзе даведацца, што прышчапляць ад каронавіруснай інфекцыі будуць не толькі ва ўстановах аховы здароўя, але і на плошчах гандлёвых аб'ектаў. Тым не менш, гэта праўда. За мяжой пад часовыя прышчэпачныя пункты спартыўныя залы аддаюць. І ўсё добра!

**tut.by**

# Закрыць усіх... і ўсё

**Мы жывем у часы, калі гісторыя ствараецца літаральна штодня. Таму ўзгадаем галоўныя падзеі мінулага тыдня ў нашым кароткім дайджэсце.**

Блогерам Сяргею Пятрухіну і Аляксандру Кабанаву завочна абвясцілі прысуд — тры гады пазбаўлення волі. Іх прызналі вінаватымі ў «арганізацыі групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, у абразе прадстаўніка ўлады ў сувязі з выкананнем службовых абавязкаў і ў абразе суддзі». Саміх блогераў у залу суда так і не пусцілі — прысуд зачыталі без іх.

З 21 красавіка стаўка рэфінансавання павялічыцца на 0,75 працэнтных пункта і складзе 8,5% гадавых. Стаўка па крэдыце овернайт павялічыцца да 9,5% гадавых, а па дэпазіце овернайт — да 7,5%. Нацбанк тлумачыць паскарэнне інфляцыі ўплывам аслаблення беларускага рубля, а таксама шокамі прапановы на асобных таварных рынках у 2020 годзе. Такая тэндэнцыя захавалася і ў пачатку гэтага года. Нацбанк чакае, што ў другім квартале тэмпы росту цэн будуць зніжацца. Аднак паскарэнне інфляцыі захавае свой уплыў на цэны на працягу ўсяго года. У снежні 2021 года прырост спажывецкіх цэн ацэньваецца каля 7%. Зніжэнне да мэтавага арыенціру ў 5% чакаецца толькі ў другім квартале 2022 года.

У сям'і фігурантаў «пінскай справы» Алены і Сяргея Маўшукоў у прытулак забралі дачку Карыну. Алену ўтрымліваюць пад вартай ужо восем месяцаў, а Сяргей знаходзіцца пад хатнім арыштам. Органы апекі, не дачакаўшыся прысуду, забралі дзяўчынку з дзіцячага садка. У верасні ў прытулак забралі 10-гадовую дачку Алены Ангеліну, бо муж жанчыны Сяргей з'яўляецца ёй айчымам. Пазней дзяўчынку да сябе ўзяла хросная маці. Дзяржабвінавачванне папрасіла суд пакараць Алену 6 гадамі калоніі агульнага рэжыму, а Сяргея — 6,5 года калоніі строгага рэжыму. Пракуроры лічаць, што віна мужа і жонкі ва ўдзеле ў масавых беспарадках у ноч з 9 на 10 жніўня ў Пінску цалкам даказаная. Абвяшчэнне прысуду па справе чакаецца 30 красавіка. Алена Маўшук, калі пачула, якія тэрміны для іх просяць пракуроры, напісала ў сшытку: «Я павешуся!».

Савет Міністраў усталяваў часовую забарону на вываз за межы Беларусі пшаніцы і месліна, жыта, ячменю, аўса, кукурузы, грэчкі, проса, трыцікале і іншых збожжавых. Забарона будзе дзейнічаць на працягу трох месяцаў. Іх нельга будзе вывозіць за межы Беларусі, нават у дзяржавы СНД. Выключэнне — гуманітарная дапамога, вываз у якасці харчоў, транзітныя перавозкі і гэтак далей.

Фотакор «Нашай Нівы» Надзея Бужан стала адной з пераможцаў самага вядомага конкурсу ў галіне прафесійнай фотажурналістыкі World Press Photo. Бужан заняла другое месца ў намінацыі «Spot News». На фота адлюстравана, як Вольга Севярынец чакае свайго мужа, палітыка Паўла Севярынца, ля следчага ізалятара на Акрэсціна, а ён так і не выйшаў на свабоду.

Таццяну Гацура-Яворскую вызвалілі з СІЗА без прад'яўлення абвінавачання праз 10 дзён знаходжання пад вартай. Пры гэтым яна застаецца ў статусе падазраванай. У той жа час яе мужа, украінскага праваабаронцу Уладзіміра Яворскага, абавязалі пакінуць Беларусь у трохдзённы тэрмін, яму забаранілі ўезд у нашу краіну на 10 гадоў. Ён з малодшым сынам Даніілам з'ехаў ва Украіну, нават не пабачыўшы жонку. Перад гэтым у кватэры сям'і прайшоўператрус, потым Уладзіміра Яворскага дапытвалі з ужываннем псіхалагічнага і фізічнага гвалту.

У першым чытанні прынялі законапраект «Аб змене законаў па пытаннях адвакацкай дзейнасці». Ён рыхтаваўся цішком ад саміх адвакатаў. У новым законе ад асобы, якая плануе стаць адвакатам, ужо не патрабуецца абавязковы трохгадовы стаж па спецыяльнасці. Уводзіцца спрошчаны парадак стажыроўкі і здачы кваліфікацыйнага іспыту для прэтэндэнтаў з ліку былых суддзяў, пракурораў ды іншых работнікаў праваахоўных органаў. Таксама ў новым законе адмяняецца дзейнасць адвакатаў у складзе адвакацкіх бюро і індывідуальна. Гэта значыць, што адвакаты будуць дзейнічаць толькі ў складзе дзяржаўных юрыдычных кансультацый.

У другім чытанні прынятыя законапраект «Аб змяненні законаў па пытаннях забеспячэння нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь». Ён прапануе аднесці органы ўнутраных спраў да ваенізаваных арганізацый, замацаваць падставы і межы абмежавання галоснасці рэалізацыі функцый органаў унутраных спраў, стварыць падраздзяленні па супрацьдзеянні кіберзлачыннасці і міжэрытарыяльныя падраздзяленні па грамадзянстве і міграцыі, удасканаліць падставы і парадак прымянення спецыяльных сродкаў, баявой і спецыяльнай тэхнікі, выкарыстання зброі. Акрамя таго, дакументам прапануецца надзяліць органы ўнутраных спраў правамі на бязвыплатнае атрыманне без пісьмовай згоды фізічных асоб звестак з інфармацыйных сістэм, у тым ліку тых, якія змяшчаюць персанальныя даныя.

У 2020 годзе ў Мінску захварэла на каронавірус і памёрла ад яго больш людзей, чым Міністэрства аховы здароўя паведамляла пра ўсю краіну — гэта паказалі звесткі мінскіх ЗАГСаў і ўстаноў аховы здароўя, доступ да якіх атрымала «Медыязона». З іх жа вынікае, што за мінулы год у Мінску памерлі на пяць тысяч чалавек больш, чым звычайна — смяротнасць вырасла на 29%. А асноўнай ахвярай эпідэміі сталі людзі, старэйшыя за 60 гадоў.

Эканамічны суд Брэсцкай вобласці разгледзеў справу па іскавай заяве пракурора Брэста аб ліквідацыі «Польскай школы». Установу закрыюць да 19 ліпеня 2021 года.

«Імагуру» ў Мінску больш не будзе: холдынг «Гарызонт», у якога стартап-хаб арандуе прастору, без тлумачэння прычын, у аднабаковым парадку, скасаваў кантракт. Памяшканне трэба вызваліць да 30 красавіка. Заснавальніца «Імагуру» Таццяна Марыніч, сябар асноўнага складу Каардынацыйнай рады, называе гэта загадам і палітычнай замовай.

І яшчэ. Лукашэнказаявіў, што рыхтуе самы важны за ўвесь час ягонага знаходжання ва ўладзе дакумент. Хутчэй за ўсё, сказаў ён, гэта будзе дэкрэт.

«Паколькі ў цяперашня сітуацыі размова можа ісці толькі пра закручванне гаек, ніякіх іншых варыянтаў выхаду з палітычнага крызісу ўлады не бачаць, гэта можа быць дэкрэт пра забарону ўсялякай грамадска-палітычнай дзейнасці, якая і так фактычна пад забаронай, — напісаў у фэйсбуку Уладзімір Някляеў. — Але, калі меркаваць па актывізацыі сілавікаў, па інтэнсіўнасці руху ў штабе Узброеных Сіл, ці не можа быць дэкрэту пра ўвядзенне ваеннага становішча? А тут яшчэ заявы пра амаль гатовыя да падпісання дакументы па цеснай (у якой нам не павярнуцца будзе) інтэграцыі... А тут яшчэ сцяганне па мяжу з Украінай войскаў Расійскай Федэрацыі, з якой РБ у саюзнай дамове. І калі што...Здавалася б, за чвэрць стагоддзя існавання Рэспублікі Беларусь мы павінны былі б забяспечыць яе будучыню як незалежнай краіны. Але не. Не менее, а более і более трывогі не толькі за лёс незалежнасці, а ўвогуле за наш беларускі лёс».

На момант сдачы нумара ў друк пра анансаваны Лкашэнкам дакумент і вынікі перамоваў у Маскве яшчэ не было нічога вядома.

## ЛІСТЫ ЗА КРАТЫ

# «Я пішу з Даніі»

**На працягу сакавіка і красавіка ў народнай школе Брандберг Хойсколе (Данія) каля дваццаці вучняў удзельнічалі ў семінарах па дэмакратыі. Падчас заняткаў яны таксама напісалі лісты салідарнасці беларускім палітвязням.**

### Ліст да Дзяніса Марусевіча

Прывітанне, Дзяніс. Мы з Даніі, і цяпер вучымся ў народнай школе. Тут мы вывучаем шмат розных рэчаў. Наша школа акружаная спакойнай прыродай, яна нам вельмі падабаецца. Мы таксама жадаем вам мірнай будучыні.

**З найлепшымі надзеямі на вашу будучыню, Каміла і Караліна**

### Ліст да Сафіі Малашэвіч

Прывітанне, мяне завуць Мікі. Мне 23 гады, і я з Японіі. Я цяпер вучуся ў Даніі. Я мяркую, што вы ў вельмі складанай сітуацыі. Я вельмі ганаруся вамі. У вас ёсць вялікая мужнасць змагацца за справядлівасць у вашай краіне. Я ведаю, што мой ліст — гэта проста дробязь, якую я магу зрабіць для вас. Але я ўвесь час хачу вас падбадзёрваць.

**З найлепшымі пажаданнямі, Мікі**

### Ліст да Кацярыны Барысевіч

Шаноўная Кацярына!

Пішу з Даніі, каб падтрымаць і ўзбадзёрыць вас. Разам са студэнтамі народнай школы Брандберг Хойсколе ў Даніі мы хацелі б падзяліцца сваімі думкамі з вамі і перадаць прывітанне жыхарам Беларусі, якія з'яўляюцца нашымі блізкімі суседзямі ў Еўропе. Народная школа — гэта месца, дзе моладзь жыве і вучыцца жыццю, ствараe моцную супольнасць і збліжаецца праз музыку, песні і прыроду. Гэта месца братэрства і навучання. Гэта таксама міжнароднае месца, і ў нас ёсць студэнты з усяго свету. Незалежна ад таго, дзе мы знаходзімся ў свеце, усе мы з'яўляемся часткай агульнага чалавецтва і падзяляем адну і тую ж будучыню. Мы спадзяемся, што вы аднойчы зможаце наведаць Данію і завітаць у нашу школу. І мы хацелі б запрасіць вас у якасці госця падзяліцца з намі сваім досведам. Будзьце ўпэўненыя, што вы ў нашых сэрцах і розумах, і мы адчуваем сувязь з народам Беларусі. Мы прайшлі праз цёмны час падчас лакдаўна, але мы з нецярпеннем чакаем лета, цяпла і магчымасці быць зноў разам і на свежым паветры.

**З найлепшымі пажаданнямі, Карым**

### Ліст да Віталіі Бандарэнка

Прывітанне, Віталія!

Мяне завуць Мары, і я пішу з Даніі. Я спадзяюся, што ў вас усё добра, нягледзячы на сітуацыю, у якой вы аказаліся. Я распавяду пра сябе і хацела б атрымаць ад вас адказ.

Як я ўжо казала, мяне завуць Мары, мне 21 год. На дадзены момант я наведваю «Хойсколе» — гэта як бы школа-пансіён, але замест таго, каб вывучаць звычайныя прадметы, такія, як граматыка і матэматыка, у кожнай школе ёсць свая спецыялізацыя. Школа, у якой я жыву, называецца Брандберг Хойсколе, і яна факусуецца на ўстойлівасці. Мой галоўны прадмет — гэта кіраўніцтва праектам, таму я вывучаю, як рабіць мерапрыемствы і падзеі для ўсёй школы. Мы таксама шмат спяваем разам, і гэта вельмі прыемна — чуць, як разам спяваюць 120 галасоў. Ці ёсць у вас ёсць любімая песня?

У апошнія дні надвор'е было вельмі прыемнае, таму мы бавілі вольны час у садзе, слухалі музыку. Прырода вакол школы проста чароўная, на нашым заднім двары ёсць вялікі лес, і кожную раніцу нас абуджаюць птушкі, якія спяваюць у кронах дрэў. Птушкі — дзіўныя істоты, ці не падаецца вам? Яны вольныя і проста лётаюць і спяваюць. Я толькі сёння даведалася, што ў Даніі (верагодна, і ў іншых краінах) ёсць птушка, дзе самец можа спяваць гадзінамі, і чым даўжэй і прыгажэй ён спявае, тым больш жаночай увагі ён атрымлівае. Прырода дзіўная, але мы ніколі не павінны прымаць яе як належнае.

**З любоўю, Мары**

**Шаноўныя палітвязні, вучні з задавальненнем атрымаюць ад вас лісты. Пішыце, калі ласка, на адрас школы: Brandbjerg Højskole, Att. Karim Pedersen, Brandbjergvej 12, 7300 Jelling, Denmark, Данія**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# «Замах» як барацьба за грошы

Сяргей САЛАЎЕЎ

**Безумоўна, адной з самых абмяркоўваемых тэмаў тыдня стаў «замах» на Лукашэнку, які, нібыта, арганізоўвалі літаратуразнаўца-пушкініст Аляксандр Фядута, амерыканскі юрыст беларускага паходжання Юрась Зянковіч і адмыслоўца ў сферы ЖКГ і старшыня Партыі БНФ Рыгор Кастусёў. Добрая кампанія для дзяржаўнага перавароту, праўда?**

Нестыковак у справе па замаху і захопе ўлады столькі, што нават справа «Белага легіёну» побач не стаяла. Улічваючы, што Фядуту і Зянковіча выкралі ў Маскве, «прыкрыцցём» аперацыі выступіла ФСБ. Але, паводле версіі расійскай спецслужбы, «замах» рыхтаваўся на 9 траўня. Паводле беларускай — на чэрвень-ліпень. Ініцыятарам мерапрыемства (пры такім складзе «замах» інакш як мерапрыемствам не назавеш), нібыта, выступала ЦРУ. Цікава, там з кадрамі праблема, што абралі «змоўшчыкамі» самых мірных і цывільных людзей?

Уражвае, што арыштаваны Кастусёў — адзіны з апазіцыйных палітыкаў, які, па-першае, хоць на імгненне, але прыняў удзел у праўладным «круглым стале» Васкрасенскага, а, па-другое, падаваў заяўкі на мітынгі, імкнучыся зрабіць іх легальнымі, нават у самых безнадзейных сітуацыях. Напрыклад, на сёлетні Дзень Волі і «Чарнобыльскі шлях».

Можа, недзе ў Мінгарвыканкаме ляжыць заяўка з яго подпісам на «арганізацыю замаху»?

Усе, хто знаёмы з Зянковічам, кажуць пра яго рознае. І што ён хітравыкручаны, і што ён любіць ствараць вакол сваёй асобы арэол значнасці, і што ён вялікі фантазёр. Аднак ніхто не можа аспрэчыць аднаго: чалавек, які ў ЗША падняўся ад разносчыка піцы да адваката, не можа быць неразумным. Аднак на «запісе ФСБ» Зянковіч з упэўненасцю кажа, што трэба адабраць у Лукашэнкі яго «скарбонку», якая (на поўным сур'ёзе!) знаходзіцца ў яго рэзідэнцыі ў Астрашыцкім гарадку.

Амерыканскі адвакат не ведае, што такое банкаўская картка? Ну і зусім не зразумела, навошта «арганізатару замаху ЦРУ» пушкініст Фядута?

Уся гэта сітуацыя змусіла ўзгадаць, што «замахаў», на Лукашэнку было ўжо шмат. Знакаміты «стрэл пад Лёзна». Калі быў забіты старшыня дзяржкантролю Магілёўскай вобласці Мікалуцкі, Лукашэнка казаў, што гэта было падрыхтоўкай для замаху на яго самога. У 2010 годзе нейкі «былы супрацоўнік расійскіх спецслужб» расказаў, што для ліквідацыі Лукашэнкі створана група адмыслоўцаў, а «заказаў» беларускага кіраўніка… Уладзімір Пуцін! Так, той самы Пуцін, да якога Рыгоравіч лётае гарбату піць.

Як кажуць, «ніколі такога не было — і вось зноў».

Увогуле, усё, што трэба ведаць пра «замах», — тое, што снайперская вінтоўка расійскай кампаніі Lobaev Arms б'е на 4 кіламетры.

Для чаго ж спецслужбы выдумалі гэта? Усё проста: грошы за проста так не плацяць. Яны разлічвалі на «гарачую вясну», але перастараліся ў рэпрэсіях — і масавых акцый у краіне не адбываецца. А таму, напэўна, у некаторых узнікла думка: грошы, што планавалася выдаткаваць на АМАП, можна пусціць на пасяўную. «Сілавікі» былі моцна гэтаму не радыя — і «выкрылі змову».

**Арышт грамадзяніна ЗША ў Расіі беларускім КДБ прымусіў Мінфін ЗША на тыдзень раней адклікаць ліцэнзію, што прыпыняла дзеянне санкцый у дачыненні да 9 беларускіх прадпрыемстваў**

Чаму тады гэтая «змова» выглядае так нягегла? А што яны робяць «гегла»? «Справу Бабарыкі», дзе дывідэнды выстаўляюцца як хабар? «Справу Ціханоўскага», які проста з турмы «рыхтаваў масавыя беспарадкі»? Абвінавачванне ў тэрарызме Святланы Ціханоўскай?

Ці вось такі прыклад: у Карэлічах Следчы камітэт даслаў позву Пякарскай Ганне Раманаўне. Супраць яе бацькі распачатая крымінальная справа за каментары ў тэлеграм-каналах. Падаецца, нічога дзіўнага па сённяшніх часах. Аднак ёсць «але».

Ганне Раманаўне Пякарскай — 8 гадоў. Яна нарадзілася і жыве за мяжой, то-бок не з'яўляецца грамадзянкай Беларусі. А сам Раман Пякарскі жыве па-за межамі Сінявокай з 2007 года.

Можа, следчыя будуць выпісваць позвы проста ў радзільні? З'явіўся на свет — адразу сведка. А сведка чаго — у СК потым прыдумаюць.

Але наступствы «барацьбы за рэсурсы» не прымусілі сябе чакаць. Арышт грамадзяніна ЗША ў Расіі беларускім КДБ прымусіў Міністэрства фінансаў ЗША на тыдзень раней, чым планавалася, адклікаць генеральную ліцэнзію, што прыпыняла дзеянне санкцый у дачыненні да 9 беларускіх прадпрыемстваў. Мінфін ЗША даў «ахоўны перыяд» у 45 дзён, каб кліенты санкцыйных прадпрыемстваў маглі скончыць з імі ўсе справы. Па заканчэнні гэтага перыяду — з 3 чэрвеня — санкцыі будуць адноўленыя. Яны распаўсюджваюцца на кампаніі «Беларускі нафтавы гандлёвы дом», «Белнафтахім» і яе амерыканскі філіял, «Белшына», «Гродна Азот», «Гродна Хімвалакно», «Лакафарба», «Нафтан» і «Полацк Шклавалакно».

Дарэчы, пасля выкрадання Фядуты і Зянковіча ў Маскве нечакана стала вядома, што 22 красавіка Лукашэнка, насуперак традыцыі, паедзе не ў «чарнобыльскія рэгіёны», як ён рабіў гэта штогод, а ў Маскву на сустрэчу з Пуціным. Думаю, ім будзе пра што паразмаўляць. Напрыклад, пра «падставу» ФСБ і свавольства беларускага КДБ у расійскай сталіцы.

Між тым, грошай больш не становіцца, і ўлада, падаецца, дзейнічае, як у старым анекдоце пра алкаголіка і падаражанне гарэлкі: «Тата, ты цяпер будзеш менш піць? — Не, сынок, ты будзеш менш есці!». Як сведчыць статыстыка, рознічны тавараздварот у першым квартале гэтага года ўпаў на 4,5%. Пры гэтым таваразварот па харчовых прадуктах, напоях і тытунёвых вырабах знізіўся за гэты перыяд на 0,6%, а нехарчовых таварах — на 8%. Падзенне рознічнага тавараабароту адбываецца на фоне зніжэння сярэдніх заробкаў (за два першыя месяцы гэтага года яны ўпалі на 197,5 рубля) і разагнанай да 8,5% гадавой інфляцыі.

Гэта азначае, што беларусы, заціснутыя інфляцыяй, ростам коштаў і прадзеннем заробкаў, сапраўды сталі «менш есці» — менш набываюць тавараў у крамах. А значыць — проста збяднелі.

А адкуль узяцца грошам пры такой палітыцы? Мы ж пасварыліся з усім светам — і, адпаведна, грошай узяць няма адкуль. Вось, напрыклад, чатыры загалоўкі запар з фінансавага парталу banki24.by: «Беларускія аграрыі пабілі гістарычны рэкорд па даўгах», «Даўгі па падатках і сацстрахаванні ў Беларусі выйшлі на максімум», «На беларускай прамысловасці вісяць даўгі ў дзясяткі мільярдаў», «У 2021 годзе беларусы зноў не плацяць расіянам»…

Карацей, грошай няма. А значыць, «барацьба за рэсурсы» будзе ўсё больш жорсткай. Чакаем выкрыцця «змовы» з боку марсіянаў.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Вольга Залатар

**У падтрымку палітзняволенай шматдзетнай маці паднялася каталіцкая грамада Беларусі.**

Каля 70 каталіцкіх святароў падпісалі два хадайніцтвы ў Следчы камітэт аб спыненні крымінальнага пераследу Вольгі Залатар. Акрамя таго, два каталіцкія святары напісалі паручальніцтвы за Вольгу, каб яе выпусцілі з турмы. Адзін з іх — ксёндз Аляксандр Фамяных, пробашч парафіі, да якой належыць Вольга.

Вольга Залатар — беларускамоўная жыхарка Ждановічаў. Яе называюць «маці-гераіняй», бо ў яе пяцёра непаўналетніх дзяцей: старэйшай дачцэ 17 гадоў, малодшаму — усяго чатыры. Жанчына была назіральніцай на выбарах 2020 года. Але, як і на шматлікіх іншых участках, незалежных назіральнікаў у Ждановічах сачыць за падлікам галасоў не дапусцілі. Пасля выбараў Вольга Залатар працягнула грамадскую дзейнасць: валанцёрыла каля Акрэсціна, у судах, дапамагала людзям рознымі спосабамі. Ёй інкрымінуюць «Заклікі да дзеянняў, накіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь».

Вольга тройчы пісьмова прасіла дазволу на сустрэчу са святаром, але ёй адмаўляюць нібыта за адмову супрацоўнічаць са следствам.



## Яўген Юшкевіч

**Былы следчы затрыманы і змешчаны ў СІЗА КДБ па падазрэнні ў «акце тэрарызму».**

Інфармацыю пра Яўгена Юшкевіча праваабаронцам падала яго адвакат Марыя Колесава-Гудзіліна. Яна ж распавяла, што ў яго кватэры быў праведзеныператрус «на падставе пастановы, у якой указаны 289 артыкул крымінальнага кодэкса — "Акт тэрарызму"».

Раней Юшкевіч працаваў старшым следчым аддзела па расследаванні эканамічных злачынстваў упраўлення Следчага камітэта па Мінску. У 2017 годзе ён звольніўся з органаў і перакваліфікаваўся ў праграмісты. Улетку 2020 года Юшкевіч ініцыяваў праект, які дапамагае ў навучанні і перападрыхтоўцы сілавікам і дзяржслужачым, што былі звольненыя або вырашылі звольніцца самі. У лістападзе 2020 года Юшкевіча затрымалі па падазрэнні ў «арганізацыі і падрыхтоўцы дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўным удзеле ў іх». У снежні яго адпусцілі з-пад варты пад падпіску аб нявыездзе.

## Кацярына Барысевіч

**Мінскі гарадскі суд разгледзеў апеляцыю на прысуд журналістцы TUT.BY Кацярыне Барысевіч, асуджанай па справе аб «0 праміле» разам з лекарам Арцёмам Сарокіным па артыкуле аб выдаванні медычнай таямніцы.**



Суд вырашыў пакінуць вырак журналістцы без зменаў. Такім чынам, Кацярына Барысевіч выйдзе на волю 19 траўня.

Нагадаем, Арцём Сарокін падаў журналістцы інфармацыю пра адсутнасць алкаголю ў крыві збітага да смерці Рамана Бандарэнкі, а Кацярына Барысевіч напісала пра гэта артыкул. Сваякі загінулага выступалі за публікацыю інфармацыі і далі на гэта дазвол. Але, на думку следства, дзеянні лекара і журналісткі пацягнулі цяжкія наступствы — стварылі «павышаную напружанасць у грамадстве», «атмасферу недаверу да дзяржаўных органаў», заахвоцілі грамадзян «да агрэсіі і супрацьпраўных дзеянняў».

Барысевіч і Сарокін з 19 лістапада знаходзіліся ў СІЗА. Суд быў закрытым. Прысуд быў вынесены ў сакавіку. Журналістка за «падбухторванне да выдавання таямніцы» атрымала паўгода калоніі (большую частку тэрміну яна ўжо правяла ў СІЗА) і штраф у 2900 рублёў. Лекар – два гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на год і штраф 1450 рублёў.

Прысуд абскарджвала пракуратура Мінска. Пакаранне для журналісткі яна палічыла занадта мяккім.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# З гісторыі сучаснай дзяржавы, якая не хоча быць сучаснай

**Адсутнасць сумленнага падліку галасоў азначае не нізкую якасць выбараў, а адсутнасць выбараў як такіх.**




Дзяржава, згодна з Марксам, не выказвае інтарэсаў грамадства, а сама іх прадукуе. Але барадаты класік, калі мне памяць не здраджвае, жыў у XIX стагоддзі. Таму механічна пераносіць яго ўяўленні пра дзяржаву і бюракратыю ў XXI стагоддзе было б некарэктна.

Аднак не варта кідацца і ў процілеглую крайнасць ды ўсе сучасныя дзяржавы (СД) лічыць... сучаснымі дзяржавамі. Пры гэтым адрозніць адны дзяржавы ад іншых не асабліва складана. Гадамі праціраць штаны ва ўніверсітэцкіх аўдыторыях для гэтага не трэба. СД, у адрозненне ад сваіх несучасных калегаў (несучасных дзяржаў — НД), — адкрытыя дзяржавы. Яны не перашкаджаюць зразумець усім ахвочым, як яны ўладкаваныя. Ідзі і глядзі, якое кола за якое чапляецца пры выпрацоўцы рашэнняў.

Развіццё інстытута дзяржавы паслядоўна рухаецца ад прынцыпу «дзяржава — гэта я» да прынцыпу «адзінай крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту з'яўляецца народ». Другі прынцып бюракратыю не адмяняе, але пазбаўляе яе магчымасці (не блытаць з жаданнем!) ператвараць дзяржаву ў інструмент для дасягнення ўласных мэтаў.

У дзяржаваў, выбудаваных згодна з другім (сучасным) прынцыпам, няма і не можа быць уласных інтарэсаў і мэтаў, што і дазваляе адрозніць СД ад НД.

Прасцей за ўсё гэта зрабіць, калі прааналізаваць ступень празрыстасці працэдуры падліку галасоў на выбарах. Запісвацца ў назіральнікі для гэтага не абавязкова, бо лепшага спосабу кантролю, чым магчымасці любому кандыдату бесперашкодна ўключаць свайго прадстаўніка ва ўчастковыя выбарчыя камісіі, ніхто яшчэ не прыдумаў. Калі кожны кандыдат на практыцы такой магчымасцю валодае, то няма патрэбы ва ўсіх іншых гарантыях сумленнага падліку галасоў.

Сумленны падлік галасоў — гэта абавязковая, але далёка не адзіная ўмова адпаведнасці выбараў сучасным патрабаванням. Аднак яе невыкананне не азначае нізкай якасці выбараў, гэта сведчыць пра адсутнасць выбараў як такіх. Пры гэтым робіцца бессэнсоўным не толькі спрэчкі на тэму «адпавядаюць — не адпавядаюць», але і ўсе іншыя заявы з боку дзяржавы. Як казаў Казьма Пруткоў, «калі зманіў аднойчы — хто табе паверыць?».

## Не ў лічбах справа

Праўда — як любіць паўтараць расійскі паліткансультант на пенсіі Станіслаў Бялкоўскі — гэта найбольш задавальняючая версія. Ці варта пасля гэтага здзіўляцца, што невыкананне электаральнага мінімуму ніяк не адлюстроўваецца на колькасці адэптаў выбараў без выбару. Ні наяўнасць вышэйшай адукацыі, ні шматгадовы досвед працы ва ўладных структурах, у тым ліку знешнепалітычнай, не адмяняюць здзіўленне метамарфозамі, якія адбываюцца з «нашымі паўднёвымі суседзямі», дый не толькі з імі.

Паслухаеш такіх спецыялістаў — і пачынаеш разумець усю безадказнасць і дробязнасць «нашых паўднёвых суседзяў». Колькі ім ні тлумачылі, што «не павінен і не можа хтосьці звонку» вызначаць пераможцаў электаральных кампаній у канкрэтнай краіне, што гэтым правам надзелены толькі народ, яны ўсё сваё: «бу-бу-бу, бу-бу-бу». Зразумела, дыскусіі з суседзямі не абмяжоўваюцца тым, што «ці тая гэта лічба, ці не тая гэтая лічба». Дый не ў лічбах справа, калі «факт застаецца фактам».

НД зацыкленыя на абароне суверэнітэту і незалежнасці. Ім усюды мрояцца сілы, якія імкнуцца «разгайдаць лодку». Папулярна і ўспрыманне сябе ў якасці косткі, захраслай у горле зайздроснікаў. Не дзіва, што любыя дзеянні знешніх партнёраў і ўнутраных апанентаў яны ўспрымаюць у якасці дэструктыўных. Як герой савецкага фільма «Дайце кнігу скаргаў» (1964), на пытанне пра тое, чаму яна ідзе супраць плыні, у НД заўсёды гатовы адказ: «Няправільная фармулёўка: гэта не я супраць плыні — гэта плынь супраць мяне!»

## А якая розніца?

У лірычнага героя песні Уладзіміра Высоцкага «Яна была ў Парыжы» не скlaліся асабістыя адносіны па прычыне няведання замежных моваў. У сучасным свеце няведанне мовы — не праблема. Перакладчыкаў хапае, у тым ліку і электронных. Але што рабіць, калі прычынай узаемнага непаразумення служыць не моўны бар'ер, а бар'ер этычны?

Калі верыць амерыканскаму псіхолагу і матэматыку Уладзіміру Лефеўру, існуюць дзве этычныя сістэмы. У першай мяжа паміж дабром і злом размытая і адсутнічае дыялог у якасці інструмента для вырашэння супярэчнасцяў. Гэта такі рай на зямлі. У раі, калі хто забыў, няма ні дабра, ні зла, і таму Адама і Еву, якія з'елі яблык з дрэва пазнання, неадкладна з яго выгналі.

Праілюструю гэту тэарэтычную ідэю на прыкладах імпічменту прэзідэнта Паўднёвай Карэі Пак Кын Хе і рэакцыі дэпутатаў Расійскай Думы на фільм Фонду барацьбы з карупцыяй «Ён вам не Дзімон».

Палітычны скандал у Паўднёвай Карэі здарыўся пасля таго, як да журналістаў трапілі дакументы, якія сведчылі пра актыўны ўдзел сяброўкі прэзідэнткі Чхве Сун Сіль, якая не займала ніякіх пасадаў, у прыняцці дзяржаўных рашэнняў. Акрамя таго, сяброўка кіраўніцы дзяржавы была западозраная ў тым, што выкарыстала свой уплыў для атрымання сродкаў ад паўднёвакарэйскіх бізнес-кангламератаў на суму ў 77 мільёнаў долараў, якія пераводзіліся на рахункі падкантрольных ёй грамадскіх фондаў.

За некалькі тыдняў рэйтынг прэзідэнткі знізіўся з 35% да 4%. На вуліцы карэйскіх гарадоў выйшлі сотні тысяч пратэстоўцаў. Парламент запусціў механізм імпічменту... У такой этычнай сістэме іншага і не варта было чакаць, бо ў карумпаванага палітыка няма ніякіх шанцаў заставацца ва ўладзе.

Калі карэйскую прэзідэнтку абвінавацілі ў прысваенні 77 мільёнаў долараў, то ў фільме «Ён вам не Дзімон» гаворка ішла пра суму, большую за мільярд долараў (74 мільярды расійскіх рублёў). Рэакцыі на абвінавачанні з боку прэм'ер-міністра Дзмітрыя Мядзведзева не было — што, зрэшты, цалкам чакана для другой этычнай сістэмы.

Але нам цікавая рэакцыя расійскай Дзярждумы. Фільм быў апублікаваны на партале YouTube 2 сакавіка. 19 красавіка прэм'ер-міністр меўся трымаць справаздачу перад парламентарыямі. Да гэтага часу фільм паглядзелі каля 20 мільёнаў чалавек. Але дэпутаты адмовіліся праводзіць праверку па фактах, выкладзеных у фільме. Факты іх не зацікавілі. Усё лагічна. Другая асоба ў дзяржаве можа быць сумленным чалавекам, а можа — і карупцыянерам. А якая розніца? Дзе тут нагода для правядзення парламенцкага расследавання? Нікому ж не прыйдзе ў галаву адхіляць прэм'ер-міністра з прычыны аблысення.

## Дзякуй царыцы Кацярыне

Два геніі рускай літаратуры Аляксандр Пушкін і Міхаіл Лермантаў загінулі на дуэлі. Адкрываем Вікіпедыю: «Дуэль — строга рэгламентаваны так званым дуэльным кодэксам узброены паядынак, мэта якога — задаволіць жаданне аднаго з дуэлянтаў (які выклікае на дуэль) адказаць на нанесеную яго гонару абразу з захаваннем загадзя абумоўленых і роўных умоваў двубою».

Дуэль — законнае дзіця другой этычнай сістэмы, бо першая паняцця асабістага гонару не прадугледжвае. З канца XVIII стагоддзя дваранства Расійскай імперыі пачынае вызваляцца ад усведамлення сябе царскімі халопамі. Дзякуй Кацярыне Другой, народжанай Сафіі Аўгусце Фрэдэрыцы Ангальт-Цэрбсцкай, дзякуй за тое, што яна разглядала заходніх (еўрапейскіх) партнёраў не толькі ў якасці ваенных супернікаў, але і ў якасці носьбітаў высокай культуры, вартай пераймання.

На жаль, сёння нават беглага позірку на так званую палітычную эліту Саюзнай дзяржавы дастаткова, каб зразумець сумную ісціну: бессэнсоўна спрабаваць адшукаць у іх шэрагах спадчыннікаў прынцэсы з маленькага нямецкага княства.

Але гэта паўбяды. Сапраўдная бяда — у тым, што шэрагавыя носьбіты першай этычнай сістэмы пазбаўленыя выразных крытэраў для ацэнкі не толькі палітычных, але і побытавых з'яў рэчаіснасці. Таму яны лёгка трапляюцца ў пасткі дзяржаўнай прапаганды.

# «Хачу, каб ведалі ўсе: мы Віцем ганарымся!»

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Маці палітзняволенага Віктара Акцістава Валянціна працуе настаўніцай матэматыкі ў адной з мінскіх гімназій. Усё часцей раніцамі ёй хочацца патэлефанаваць на працу і сказаць, што выйсці на яе яна не зможа праз уласны боль... Як жыве маці палітзняволенага, калі некаторыя працягваюць лічыць, што яе сын — злачынца, бо знаходзіцца за кратамі?**



### Віця, які сэрцам прысутны дома

У канцы снежня дваццацігадовага Віктара асудзілі на два з паловай гады пазбаўлення волі за тое, што 10 жніўня ён аказаў супраціў супрацоўнікам органаў унутраных спраў. Абскарджванне выраку нічога не дало — і хлопец ужо больш за месяц знаходзіцца ў Магілёўскай калоніі. «Віця ўявіў сябе Дон Кіхотам пэўна, калі вырашыў выратаваць чалавека ад АМАПу, бо заўжды верыў у цуды і справядлівасць, — сумна кажа маці Віктара Валянціна Мікалаеўна. — Той чалавек, за якога ён заступіўся, збег, а Віктар трапіў...»

З Валянцінай Мікалаеўнай мы сустрэліся ў яе здымнай кватэры, дзе яна жыве разам з дачкой Насцяй. Валянціна адразу кажа, што ў гэтую кватэру яны пераехалі хутка і нечакана. З мінулага арэнднага жылля гаспадары папрасілі з'ехаць пасля таго, як там прайшоўператрус. Пра тое, што іх з Насцяй высяляюць з кватэры, Валянціна даведалася на працы ў момант, калі туды прыйшлі сілавікі. Тады на яе навалілася ўсё: і арышт сына, і магчымае звальненне, і пошукі новага жылля... Яна кажа, што хоць у яе галаве тады і адбывалася нешта незразумелае, але паралельна з выкладаннем матэматыкі ў класе яна складала план дзеянняў. Літаральна за пару дзён сям'я пераехала ў новае жыллё.

Насця па адукацыі дызайнер. Пэўны яна час жыла ў інтэрнатах, таму стварыць утульнасць у памяшканні навучылася. Зрабіла ўтульнай і гэту кватэру. Сям'і хочацца, каб калі Віктар вярнуўся, то адчуў па-сапраўднаму, што ён — дома. Хоць Віктар сам фізічна ніколі не быў у кватэры, для блізкіх ён заўжды тут прысутны.

— На кухні ў нас стаіць канапа, на якой мы збіраем перадачы для Віці, — распавядае Валянціна. — Спачатку, калі перадача была гатовая, мы прыбіралі рэчы, каб на канапе можна было пасядзець. Цяпер рэчы з яе мы ўжо не прыбіраем. Падчас таго, як ходзім па краме і набываем прадукты сабе, усё адно думаем, што набыць і Віцю. Ён у нашай сям'і быў гаспадаром і адказным за бутэрброды. Так, як ён наразае хлеб, не наразае ніхто. Тонка-тонка! А цяпер Віці няма — і нажы ў нас затупіліся, няма каму навастрыць...

Муж Валянціны сышоў з сям'і ў мінулым годзе. А яшчэ адзін сын яе сын — Дзмітрый — жыве асобна.



### «Пабачыла яго — і сціснулася сэрца»

Першае спатканне з Віктарам у Валянціны Мікалаеўны было 31 снежня, адразу пасля суда.

— Пасля спаткання я наогул нічога не хацела: ні бачыцца ні з кім, ні размаўляць, — узгадвае Валянціна. — Якія святы? А пасля прыехала Насця. Мы крыху выпілі шампанскага, якое ўжо даўно ў нас стаяла. Наогул, цяпер Насця мяне ратуе. Бывае, набудзем нешта смачнае, з'ямо — і настрой ужо падымаецца.

Пасля таго, як Віктар падаў заяву на абскарджванне прысуду, яго перавялі ў Жодзіна.

— Калі яго пераводзілі, я не магла спаць, — узгадвае Валянціна. — Я не ведала гэтага факту, але сэрцам адчувала, што з Віцем адбываецца нешта не тое, бо мяне пастаянна трэсла. Пасля я ўжо даведалася, што менавіта ў той дзень яго этапавалі. Я не ведаю, што Віця там адчуваў, але думаю, што пакутаваў: яго паставілі на ўлік як схільнага да захопу закладнікаў і за непадпарадкаванне адміністрацыі. На свята 23 лютага, калі ён сядзеў у Жодзіна, я перадала яму пернік, на якім было напісана: «Абаронцу Айчыны». А Віця пасля ў лісце распавёў, што калі ён атрымаў перадачу, то гэты пернік ляжаў расколаты на дробныя кавалкі.

Другі раз Валянціна пабачыла сына трэцяга сакавіка ў СІЗА ў Жодзіна. Перад самай адпраўкай у калонію.

— У Жодзінскім СІЗА ён сядзеў перада мной як пабіты сабака, — узгадвае Валянціна. — Я пабачыла яго — і сціснулася сэрца... Уявіце, сядзіць перада мной сын, сагнуты, рукі ззаду ў кайданках, прытым, адну руку прычапілі да кратаў... А перад ім сядзіць мама.

**«Не ведаю, што пісаць у адказ, бо да чаго не дакранешся — усё, атрымліваецца, палітыка. Пачнеш распавядаць пра працу — палітыка, пра краму — палітыка, пра бацькоў і вучняў — палітыка... Дык я яму напісала яго гараскоп на красавік...»**

Насця, якая пабачылася з ім праз некалькі дзён пасля гэтага, дадае, што ў Віктара быў жоўты колер твару і вялікія фіялетавыя мяхі пад вачыма. Тады ж, калі Віктар быў у Жодзінскім СІЗА, ён пачаў сябе моцна дакараць, вінаваціў сябе і не бачыў у гэтым учынку сэнсу.

Акрамя словаў падбадзёрвання, якія блізкія пастаянна кажуць Віктару, Насця параіла яму маляваць, бо робіць гэта ён прафесійна. Насця падумала, што калі ён будзе заняты справай, у яго не будзе часу думаць пра кепскае. Маці ж у малюнках, што дасылае Віктар, бачыць большае, таму любіць іх расшыфроўваць.

— Ён у нас інтраверт: ціхі, спакойны, мала з кім наогул камунікаваў, — кажа Валянціна Мікалаеўна. — Я баюся, што з такой павольнасцю яму за кратамі вельмі цяжка. Дый сам ён пра гэта піша. Але ва ўсім ёсць і плюсы: у нечым ён становіцца цяпер больш самастойным.

### Лісты з калоніі

Віктар ужо адбыў каранцін у калоніі №15 у Магілёве. Зусім нядаўна Валянціна стала атрымліваць ад яго лісты.

— Мне стала лягчэй толькі апошнім часам, калі Віцю ўжо ў калонію перавялі. Да гэтага я жыла на аўтамаце: хадзіла, нешта рабіла, а думкі — недзе там... Калі мы атрымалі ад яго першы ліст з калоніі, адчула спакой. Адно бянтэжыць: не ведаю, што пісаць у адказ, бо да чаго не дакранешся — усё, атрымліваецца, палітыка. Пачнеш распавядаць пра працу — палітыка, пра краму — палітыка, пра бацькоў і вучняў — палітыка... Дык я яму на першы ліст напісала яго гараскоп на красавік.

Валянціна ўжо плануе першы прыезд да сына ў калонію. Яна звязалася ў тымі матулямі, дзеці якіх ужо адбываюць там тэрмін: «Нам пішуць, што трэба дачакацца яго званка. Каб сказаў, у якім ён атрадзе. Пасля мы зможам перадаць рэжымную, вітамінную перадачы, асобна можна паслаць па пошце каранцінную перадачу, у якую ўваходзіць цыбуля, часнык, лімон, апельсіны і яблыкі. Вопратку пакуль нам параілі не перадаваць, бо ім выдалі форму».

— Вельмі хачу, каб у Віці ў калоніі трапілася добрая кампанія, каб побач з ім былі тыя людзі, ад якіх ён мог нечаму навучыцца, — дадае Валянціна Мікалаеўна. — Я перакананая, што ён выйдзе адтуль раней, але разумею, што гэта адбудзецца не зараз. Таму да гэтага моманту яму там трэба пражыць так, каб гэта не было пеклам.

### «Калі Віця выйдзе...»

— Увесь гэты час, калі Віця за кратамі, я жыву на аўтамаце. Часам падаецца, што няма аніякіх сілаў выходзіць на працу. Але калі прыходзіш, пачынаеш кантактаваць з дзецьмі, то забываешся пра ўсё. Раней я любіла самастойныя працы, бо на іх магла адпачыць. А цяпер не магу трываць іх, бо тады застаюся сам-насам са сваімі думкамі.

Валянціна намагаецца распавядаць пра Віктара. Яна мяркуе, што яго імя мусіць быць навідавоку, каб там, за кратамі, з ім нічога не здарылася. Таксама яна кажа, што далёка не ўсе людзі ў яе атачэнні разумеюць, што палітычныя зняволеныя — гэта не злачынцы: «Я хачу, каб ведалі ўсе: мы Віцем ганарымся! Трэба, каб імёны палітзняволеных гучалі паўсюль, каб іх не лічылі крымінальнымі злачынцамі».

— А вы баіцеся страціць працу? — пытаю Валянціна Мікалаеўну.

— Працу настаўніцы матэматыкі? — разгубілася жанчына. — Думаю, што настаўніца матэматыкі сабе працу знойдзе.

Валянціна ўжо набыла слоік вяленых памідораў, якія вельмі любіць Віктар. Яна верыць, што хутка ўсёй сям'ёй яны яе нарэшце адкрыюць.

— Калі Віця вернецца, мы набудзем яму самай смачнай ежы, — усміхаецца матуля. — Ён у нас заўжды вельмі любіў паесці! Хоць ён і любіць самоту, але адразу ж мы навалімся і распытаем пра ўсё... Яго трэба адразу распытваць, пасля ўжо ён распавядаць не будзе, ведаю я яго. Пакажам газеты, артыкулы пра яго... Будзем слухаць яго аповеды. Пасля ён засне, а на раніцу прачнецца і пабачыць сябе ў іншым свеце...

11 траўня Віктар будзе святкаваць свой дваццаць першы дзень народзінаў. «Трымайся, Віця! — кажа маці. — Заставайся такім жа цвёрдым і прынцыповым, не здраджвай сваім перакананням і будзь шчырым перад самім сабою!»

Фота Яны Трусіла

Дзіяна СЕРАДЗЮК

# «Гэта ўсё патрэбна для беларусаў»

**Юлія Бука некалі вярнулася ў сваю родную вёску Валодзькава на Глыбоччыне, стала скупляць там хаты і першай пачала развіваць агратурызм у гэтым краі. Яна шчырая і мудрая, а да ўсіх жыццёвых перыпетый ставіцца са спакойнай упартасцю. Здаецца, мамін характар пераняла і 21-гадовая Алеся, студэнтка ПДУ, якую затрымалі ў інтэрнаце 26 сакавіка, правялі ператрус, трое сутак пратрымалі ў ІЧУ і цяпер падазраюць у абразе прадстаўніка ўлады.**



Аляксандра Бука з новай прычоскай, якую дапамагла зрабіць маці

На Глыбоччыне доўгі час трываў антыбальшавіцкі супраціў. Да 1939 года гэтыя землі былі пад Польшчай, і калі прыйшлі Саветы, мясцовыя жыхары вельмі хутка зразумелі, што нічога добрага яны не прынясуць. Але пачалася вайна — і да ўлады прыйшлі немцы, ад якіх, гаворыць Юлія Бука, моцнай шкоды тут не было. Ды толькі па вайне савецкая ўлада зноў стала ўводзіць свае парадкі.

— У 1950-х мамінаму бацьку сказалі ісці ў калгас, а ён сказаў, што не пойдзе. Тады яму пад самыя вокны абрэзалі зямлю. Ён мусіў прадаць усю маёмасць і паехаць у Глыбокае, — распавядае спадарыня Юлія.

Мама Юліі, як дзедава спадкаемца, засталася ў вёсцы Валодзькава, што за паўтара дзясятка кіламетраў ад Глыбокага, і тут нарадзілася Юлія.

Яна скончыла Віцебскі ветінстытут, працавала ветэрынарным урачом, нейкі час жыла ў Глыбокім, а ў 1989 годзе, калі нарадзіўся першы сын Лёша, вярнулася ў Валодзькава, бо працы ў горадзе не было, а плаціць за кватэру трэба. Юлія пайшла працаваць у калгас — яе, з вышэйшай адукацыяй, паставілі паіць цялятаў. Гэтаму, так бы мовіць, паспрыяў і канфлікт з маладым старшынёй, які спрабаваў яе дамагацца. Але доўга ў калгасе яна не пратрымалася і неўзабаве пайшла працаваць у клуб.

## «Юля, якая не любіць Лукашэнку»

Да выбараў 1994 года Юлія і ўся яе сям'я ўжо былі беларускамоўнымі. Яна ўзгадвае, што тады многія ўстановы перайшлі на беларускую мову. Але на прыхільнікаў нацыянальнага адраджэння працягвалі аказваць ціск.

— Я ўбачыла гэта па тэлевізары, і мяне так закранула гэтая несправядлівасць, што я паехала ў Глыбокае, прыйшла ў клуб і спытала, ці ёсць там суполка БНФ. Падчас перадвыбарчай кампаніі я збірала подпісы за Пазняка.

Спадарыня Юлія не прыгадае, што так моцна паўплывала на яе светапогляд, але гаворыць, што, магчыма, гены ўзялі сваё: яе дзед у свой час слухаў «Радыё Свабода», чытаў польскую прэсу, а Саветы забралі ў яго ўсё, што было.

А яшчэ Юлія заўсёды востра адчувае ману і несправядлівасць і абараняе тых, на каго аказваюць ціск.

— Ніхто не вучыў нічому, але тады па тэлевізары паказвалі пасяджэнні Вярхоўнага Савета, мітынгі, я гэта бачыла і сама па сабе да ўсяго дайшла, стала мясцовым дэпутатам. Потым у мяне дзеці пыталіся: «Мама, чаму ты не пайшла ў палітыку?» Таму што ў мяне асновай заўсёды была гаспадарка, я ведала, што яна мяне прагадуе. А калі б я пайшла ў палітыку, у мяне не было ніякіх гарантый, на што гадаваць дзяцей. Тады ўжо быў час, што да нас прыходзілі і глядзелі, як жывуць мае трое дзяцей. Хадзілі плёткі, мяне звалі «Юля, якая не любіць Лукашэнку».

Суразмоўца ўзгадвае, што за час яе палітычнай актыўнасці было ўсялякае. Так, калі яна збірала подпісы за Аляксандра Мілінкевіча на выбарах 2006 года, некаторыя людзі хаваліся ад яе ў хлявах. Калі ж сама вылучалася ў дэпутаты, казалі: хто табе будзе пенсію плаціць? Са знявагай і ціскам за прынцыповую пазіцыю і беларускую мову даводзілася сутыкацца пастаянна, але ратавалі сябры. Цяпер, гаворыць спадарыня Юлія, гэта стала мэйнстрымам, а для яе гэта заўсёды было жыццём, і так яна выхоўвала сваіх дзяцей.

## Раней магла зарэзаць цяля, цяпер падтрымлівае дачку-веганку

Сітуацыю ў краіне Юлія Бука можа ацаніць паводле выбарчых кампаній, за якімі даводзілася назіраць у роднай акрузе.

— Я кажу, што не трэба ніякая вайна. Калі я была назіральніцай на выбарах 25 гадоў таму, было больш за 500 чалавек выбаршчыкаў. Летась назіральніцай была мая Алеся, і там было каля 260 выбаршчыкаў. Дзе падзеліся людзі? Вёскі сталі пустыя. Я разумею, што магу закрануць пачуцці шматдзетных сем'яў. Але дурнейшай праграмы, чым гэтая дапамога шматдзетным, уявіць цяжка. Сацыяльнае жыллё будавалася толькі ў гарадах, і ў нас з вёсак павывозілі шматдзетныя сем'і. Я згодная, што ім трэба дапамагаць, але купіце ім трактар, карову, дапаможыце пабудаваць катэдж — і хай яны працуюць.

Спадарыня Юлія гаворыць, што, калі б цяпер ёй давялося працаваць ветурачом у калгасе, яна б «ашалела», бо гэта здзек з усяго жывога. Ёй вельмі балюча бачыць кадры, на якіх паказваюць кароў па калена ў гноі.

— Нас ніхто не вучыў шкадаваць жывёлу і гуманна ставіцца да яе. Жывёла — гэта тое, што трэба з'есці, — узгадвае жанчына ўстаноўкі, з якімі некалі ішла працаваць ветурачом.

Пэўны час Юлія трымала гаспадарку: былі ў яе і нутрыі, і свінні, і каровы, і птушка. Але цяпер сям'я адмовілася ад усяго, што трэба зарэзаць і з'есці: дачка Алеся — веганка, і маці падтрымлівае яе філасофію. Спачатку яна шкадавала пачуцці дачкі, а потым і сама прыйшла да яе поглядаў, хаця некалі магла зарэзаць і разабраць цяля. Цяпер гаспадыня яшчэ трымае кароў, курэй і кабылу, але гэта больш для забеспячэння патрэбаў гасцей яе сядзібы «Родны кут». А апошнім часам у сям'і з'явілася перапрымка сабак.

Тэму вегетарыянства і гуманнасці спадарыня Юлія экстрапалюе і на цяперашнюю палітычную сітуацыю ў Беларусі. Яна распавядае, што калі Алеся сядзела ў полацкім ІЧУ, пазнаёмілася з некалькімі дзяўчатамі, многія з якіх былі вегетарыянкамі.

— Чаму ў нас у турмах сядзяць найлепшыя, разумныя, адукаваныя, чаму яны супраць таго, што адбываецца, а не нейкія п'яніцы? Таму што ў іх ужо іншыя падыходы і іншыя патрабаванні, — разважае жанчына.

## Гаспадыня вёскі

Юлія Бука з дзяцінства захаплялася прыродай роднага краю і вясковым жыццём. У сталым узросце вывучала досвед літоўскіх і польскіх сядзібаў. А потым у 1990-х гадах хаты ў вёсцы сталі прадавацца. Першую хату ў Валодзькаве Юлія набыла больш за 20 гадоў таму. Смяецца, што, можа, спачатку гэта быў нейкі «пунктік», каб не прыехалі чужыя суседзі, бо людзі бываюць розныя, і прыезджыя часам уводзяць свае парадкі, сварацца. Потым купіла хату ў дзеда, і тады ўжо вырашыла заняцца турызмам. Першых гасцей сядзіба «Родны кут» прыняла з падачы вядомай дзяячкі Ады Элеўны Райчонак, якая арганізоўвала мастацкі пленэр. А потым стала працаваць «сарафаннае радыё» — і цяпер Юлія Бука, фактычна, «гаспадыня вёскі», дзе жыве які тузін чалавек.

Хоць гасцей тут размяшчаюць у простых вясковых хатах без усялякіх выкрутасаў, у кожнай з іх — свая гісторыя. У адной бальшавікі шукалі людзей, што не хацелі служыць у савецкім войску, другую, ледзь не стогадовую, калісьці разабралі і перавезлі з хутара... Некаторыя хаты яшчэ на стадыі рамонту, які сям'я Букаў робіць уласнаруч, але ў іх ужо праглядаецца свой характар — калі так можна сказаць пра дом. Атмасферу ў іх ствараюць адметныя прадметы мэблі, а яшчэ нешта зусім няўлоўнае, бо, нягледзячы на простую абстаноўку, знаходзіцца тут надзвычай камфортна і ўтульна.

Тут радыя гасцям-аднадумцам, і хоць за пражыванне бяруць і так няшмат, беларускамоўным яшчэ прадастаўляюць зніжку. З бліжэйшых атракцый — невераемная дзікая прырода (ля вёскі не дзіва сустрэць статак казуляў), возера Акунёва з пляжам ды горад Глыбокае са сваёй адметнай гісторыяй і вішнёвым фестывалем.

У планах гаспадыні зрабіць некалі ў адной з хат этнаграфічны музейчык, бо назбіралася досыць шмат старадаўніх рэчаў. Але пакуль іх не размяшчаюць у жылых дамах, бо госці бываюць розныя: была гісторыя, калі муж адной з пастаяліц з рэўнасці спаліў хату Букаў. Да таго ж гаспадары ніколі не кантралююць сваіх гасцей, не жывуць з імі і не навязваюцца, таму складана сачыць за тым, каб каштоўныя рэчы былі ў захаванасці.

Працяг на стар. 19 »



Юлія Бука з Паўлам Севярынцам падчас «хіміі» палітыка ў Малым Сітне



Маленькая Алеся з братам Данікам пад «Пагоняй», якую пашыла маці

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №4 (176)
(красавік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

## Змест

**АСОБА:** развагі Алеся КІРКЕВІЧА пра лёс і творчасць аўтара беларускага народнага гімна Макара КРАЎЦОВА ........ с. 2
**ПАМЯЦЬ:** юбілейнае слова Уладзіміра ЛАЙКОВА пра паэта і вучонага Алега ЛОЙКУ ........ с. 3
**ПРОЗА:** новыя «Фрэскі» Барыса ПЯТРОВІЧА ........ с. 4
**ПАЭЗІЯ:** нізка вершаў Сяргея ПАНІЗЬНІКА «Арбіта беларускасці» .. с. 5
**ЧЫТАЛЬНЯ:** раздзелы з аповесці Іны СНАРСКАЙ «Зачараваны скарб» ........ с. 6–7
**ПАЭЗІЯ:** нізка вершаў Веслава КАЗАНЕЦКАГА «Памяць маёй эпохі» .... с. 8
**ЭСЭ:** «Развагі на вясковай лаўцы» Васіля ГІГЕВІЧА ........ с. 9
**ВЯНОК:** вершаваны цыкл Алены ІГНАЦЮК «Такі, як неба» ........ с. 10
**КРЫТЫКА:** развагі Антона ШАРАНКЕВІЧА пра празаіка савецка-польскага памежжа Сяргея ПЯСЕЦКАГА і водгук Віктара МАРЦІНОВІЧА на чацвёртае выданне кнігі Уладзіміра АРЛОВА «Імёны свабоды» ...с. 11
**ГУТАРКА:** Людміла СІМАНЁНАК – «Будзем заставацца на баку дабра» ........ с. 12




Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

# Калі ўсё забаронена

Віктар МАРЦІНОВІЧ

**Я не памятаю такіх часоў.**

Хаця, здаецца, прайшоў поўны цыкл, быў відавочцам таго, як усё пачыналася.

Заўсёды была нейкая адтуліна.

Калі «бяруць» за мітынгі ў Курапатах — можаш пайсці на канцэрт Міхалка ў парку Горкага. Калі ўжо і Міхалка з Кулінковічам забаранілі (а былі такія часы) — збоч да мастацкай выставы, якая нагадае табе, што такіх, як ты, якія думаюць упоперак, — да халеры.

Я выдатна памятаю сваё здзіўленне, калі наведнікі маёй сустрэчы з чытачамі ў Нямеччыне асцярожна пыталіся, ці дазволена нам, жыхарам краіны шчасця, вольна выязджаць за жалезную заслону. Мне тады падавалася, што немцы «пераціскаюць».

Не ўсё так дрэнна.

І я, памятаю, даводзіў, што кнігу, напрыклад, немагчыма канчаткова забараніць у XXI стагоддзі, што таленавіты тэкст разумнейшы за забароны.

І вось мы тут.

У сусвеце тэкстаў, што прызнаныя экстрэмісцкімі.

У сусвеце мастацкіх выставаў на тэмы, далёкія ад палітыкі (медыцына і дактары, камон!), якія закрытыя — не, не камісіяй па супрацьдзеянні парнаграфіі, бо гэта было б артам, а МНС.

Год таму любы тэатральны рэжысёр, любы арганізатар культурніцкай імпрэзы, любы пісьменнік перад аўтограф-сесіяй хваляваліся: «Толькі б прыйшлі, толькі б прыйшлі, толькі б прыйшлі».

Бо гледачы, наведнікі, чытачы, перасычаныя разнастайнасцю культурніцкага жыцця, мелі нораў і хадзілі не да ўсіх.

Цяпер таксама хвалююцца.

Але не так.

А вось як: «Толькі б не прыйшлі, толькі б не прыйшлі».

І размова, зразумела, не пра гледачоў, наведнікаў і чытачоў.

Амаль не засталося мастацкіх дзеянняў, якія не заканчваліся б сінім бусам з таніраваным шклом.

І, галоўнае, абсалютна немагчыма прадказаць, дзе, у якім месцы, «паступіць сігнал».

Вось, здавалася б, ты мастак. Ці ўладальнік арт-прасторы. Дзе тут падстава для затрымання? Для крымінальнай справы?

Але ж, дзядзька! Але ж!

Усё як у той формуле: калі яны прыйшлі па камуністаў, я маўчаў, бо я не быў камуністам; калі яны прыйшлі па сяброў прафсаюза, я маўчаў, бо не быў сябрам прафсаюза. Калі яны прыйшлі па мяне, гаварыць за мяне ўжо не было каму.

Упершыню адтулінаў не засталося.

Чым бы ты ні займаўся, твая бяспека не гарантаваная. І так, калі ты проста зладзіў Масленіцу ў Крэве, ёсць шанец, што пасля, разабраўшыся, на цябе нават не завядуць крымінальную справу.

Праблема ў тым, што тых, хто хоча рызыкнуць і праверыць, больш няма.

Усе найбольш актыўныя з'ехалі. Іх настолькі шмат, што не так даўно я заўважыў, што за мяжой цяпер абсалютна ўсе беларускія музыкі, якіх я гадамі стáла слухаў у машыне. Астатнія яшчэ спрабавалі рухацца так, быццам новай сітуацыі не ўзнікла. Але хутка ўперліся ў столь.

І невінаватых не засталося.

Вы ж глядзіце: яны «выпальваюць гарачым жалезам» цэлыя напрамкі дзейнасці. І ты можаш гандляваць чэшскімі машынамі ці крэмам «Нівея», але гэтая сітуацыя агульнай забароны дойдзе і да цябе. Рана ці позна.

Пасля чарговай гучнай нарады. Ад якой халадзеюць нават тыя, каму належыць быць выканаўцамі.

Вінаватыя музыкі, бо не тое спяваюць.

Вінаватыя спартоўцы, бо не да таго заклікалі.

Вінаватыя рэкламадаўцы, бо не тым даюць рэкламу.

Вінаватыя гандляры, бо нібыта не гандлявалі беларускім?

Вінаватыя журналісты, бо яны ў гэтай краіне заўсёды вінаватыя.

Вінаватыя нават тэатралы! Тэатралы, вы чуеце? Тэатралы паўсюдна, ва ўсім свеце, з шэкспіраўскіх часоў, ніколі ні за што не адказваюць. Хіба за тое, што ніхто не смяецца, калі яны жартуюць.

А тут — вінаватыя ў нелаяльнасці.

І падлягаюць выкараненню.

Цябе, вольнага, самаўпэўненага, прагнага хіба што да добрай кавы з лаймам, ад вільгаці закратаванага скляпення аддзяляе толькі не так сказанае слова.

Адзін учынак, які б год таму нават не заўважылі.

Жыццё тут робіцца танцам над безданню.

І вымагае шмат мужнасці.

Кожны світанак — невялічкі іспыт. Ці застаўся чалавекам? Ці застаўся вольным?

Забаронена ўсё, уключаючы вядзенне рэпартажаў з вулічных акцый.

Забаронена хадзіць па вуліцах не ў тыя дні.

Бібікнуў, пабачыўшы аднадумцаў? Маеш рэальную перспектыву страціць пасведчанне кіроўцы.

І я вось што думаю. Тыя адтуліны, што былі раней, яны ж узнікалі не з літасці. Бо літасці савецкая сістэма не ведала. А гэтыя… Яны проста пераносілі ўсё з ранейшых, больш таталітарных, але і нашмат больш прадуманых часоў.

І тыя ранейшыя дзядзечкі ў рагавых акулярах з азызлымі тварамі чамусь зыходзілі з таго, што быдлу — то бок нам з вамі — усё ж патрэбныя нейкія свісткі для выхаду эстэтычнай пáры. Яны не вялі вайны, яны збіраліся ўладарыць вечна. І рабілі так, каб тое ўладаранне было магчымым.

Менавіта таму ў СССР былі «шасцідзясятнікі». Вазнясенскі, Высоцкі, тэатр на Таганцы, Марк Захараў, Андрэй Таркоўскі, і Сахараў, і Адамовіч, і Караткевіч.

Тое, што адбываецца цяпер, — эксперымент па забароне дыхання.

На такі эксперымент не наважваліся нават вялікія стомленыя папярэднікі, якія запачаткавалі той страх, які зноўку пакліканы тут усім кіраваць.

Хіба яны былі дурнямі?

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 4 (176) | 23 красавіка 2021 | № 16 (724) Новы час

# Макар Краўцоў: «Хай воля вечна будзе з намі»

Алесь КІРКЕВІЧ, budzma.by

**Што мы ведаем пра Макара Краўцова, 120-я гадавіна з дня нараджэння якога адзначаецца сёлета, — беларускага паэта, публіцыста, перакладчыка, дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху, аўтара гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі»?**

Навошта яму былі шматлікія псеўданімы? Чаму сям'я жыла ў галечы?..

На гэтыя ды іншыя пытанні дае адказы зборнік «Макар Краўцоў (Касцевіч)», які выйшаў пад рэдакцыяй Лявона




Юрэвіча ў выдавецтве «Кнігазбор» у серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны». Кніга больш як на 200 старонак сёння з'яўляецца самым поўным апісаннем не толькі жыццёвага шляху галоўнага героя, але змяшчае і яго вершы, успаміны, літаратурную крытыку.

Сапраўднае прозвішча нашага героя — Касцевіч. Яго сям'я паходзіла з Берштаў (каля Гродна-Горадні). Псеўданім з'явіўся праз прафесію ягоных продкаў — краўцоў. Літаратуразнаўцы спрачаюцца, як пісаць правільна: «Краўцоў Макар» ці «Макар Краўцоў»? Сам аўтар выкарыстоўваў першы варыянт, дзе «Краўцоў» адказвае на пытанне «чый?».

Былі і іншыя псеўданімы: Макар, Язэп Светазар, Дзын-Дзылін, Звончык, Picolo, Smreczyński. Здаецца, звычайная практыка таго часу, калі Вацлаў Ластоўскі быў «Властам», Яўген Скурко — «Максімам Танкам» ці «Гранітам». Насамрэч праз канфлікты з «беларускай тусоўкай» Вільні 1920–1930-х Касцевіч проста быў змушаны карыстацца псеўданімамі, каб не адмовілі ў публікацыі.

## «Барыкадаю адгароджваючы Прэзыдыум»

У зборніку ёсць успаміны Краўцова пра Першы Усебеларускі з'езд у снежні 1917-га: жывыя, трывожныя, хоць ты ўкладай у кінасцэнар! «Адразу кінулася ў вочы зусім слабая арганізацыя гэткага вялікага народнага веча. Не было ніякай рэальнай збройнай сілы, якая давала б гарантыю таго, што Зьезд магчыме давясьці сваю работу да канца», — піша Макар Краўцоў, які прыехаў на з'езд акурат з фронта.

Ва ўспамінах шмат яскравых апісанняў. Як Рак-Міхайлоўскі падчас прамовы спрабаваў гаварыць па-беларуску, але ўрэшце ўсё ж збіўся на расійскую. З магілёўскай дэлегацыі, як выявілася, мовай наогул ніхто не валодаў. Жанчын на з'ездзе было ўсяго некалькі: паводле Краўцова, яны глядзеліся «сіратліва».

Краўцоў весела піша пра бальшавікоў на з'ездзе. Камісар Рэзаўскі спрабаваў зняць бел-чырвона-белы сцяг, які вісеў ля трыбуны, але яго вынеслі з залы «два здаравяцкія матросы». Бальшавікі на з'ездзе былі п'яныя. Начальнік гарнізона Крывашэін, напрыклад, выступіў з такой прамовай: «Я под видом мягких лайковых перчаток, под видом мягкой пуховой постели...».

Пасля было не да смеху. Няпраўда, што бальшавікі распусцілі з'езд з маўклівай згоды ўдзельнікаў. Краўцоў піша: «...узброеныя салдаты Рамнёва, разыходзячыся направа і налева, стараюцца ахапіць Зьезд. Дэлегаты супраціўляюцца, настаўляючы грудзі, іншыя пасярэдзіне грымяць крэсламі, барыкадаю адгароджваючы Прэзыдыум.

Калёнаю ў два рады салдаты ўціскаюцца ў сярэдзіну Зьезду. Дайшоўшы да барыкадаў, Рамнёў вымае з похвы рэвальвэр, паднімае ўгару і колькі разоў націскае цынгель... Усё бачанае апісаць немагчыма... Зьезд разганяецца пагрозаю штыхоў...».

Наступная сцэна ўжо на вуліцы начнога зімовага Менска: «На скрыжаваньні Скобелеўскай і Падгорнай (Чырвонаармейская і Маркса — аўт.) — ваякі на белых конях... Два панцырнікі грозна маўчаць. Паход разагнанага Зьезду скіроўваецца ў бок рэзыдэнцыі бальшавіцкае ўлады — будынку Камэрцыйнае Школы...

З тысячы грудзей разьлягаецца матыў хаўтурнага марша: "Вы жертвою пали в борьбе роковой...". З заміраньнем гукаў чужое трагічнае песьні гінула воля народная, сярод мяккае зімовае ночы, ахінаўшай сэрца Беларусі ценямі рабства...».

Абразкі тагачаснага Менска, дзе ўлада ўвесь час змянялася, не горшыя за апісанні Кіева з «Белай гвардыі» Міхаіла Булгакава. Некалькі момантаў:

«...Выходзячы зь "Беларускае хаткі" на рог Захараўскай вуліцы й Захараўскага завулку, мы заўважылі, што два бальшавіцкія самаходы наехалі адзін на адзін, моцна разьбіўшыся. Камісары вылезьлі з самаходаў, пайшоўшы на вакзал пехатою. Па месьце пачалася нейкая бязглуздая страляніна, якая падвечар яшчэ болей узмацнілася. Кожны абыватаь лічыў чамусьці за свой абавязак выйсьці ў браму і стрэльнуць некалькі разоў угару».

«...На падмогу справе выступіла Беларуская Вучнёўская Грамада, моцны гурток беларускае моладзі, які, стыхійна азброіўшыся, і поўніў, так сказаць, ролю Беларускае Нацыянальнае Гвардыі, вартуючы Губэрнатарскі Дом. Дзіўна было для вайсковага вока бачыць хлопцаў і дзяўчат, што атачылі рэзыдэнцыю <...>, маючы на сваіх плячах часам нават па дзьве стрэльбы. Старажы Беларускага Ураду былі маладыя, але верныя».

«...Першыя тры дні, пасьля ўваходу ў Менск немцаў, яшчэ можна было бачыць азброеных беларусаў адкрыта на вуліцы; іншы раз наўзавады праляталі па ёй беларускія коньнікі з стрэльбамі за плячыма».

## Гімн БНР ці марш Беларускай Вайсковай Камісіі?

22 кастрычніка 1919 года Пілсудскі даў дазвол на фармаванне беларускіх аддзелаў і заснаванне Беларускай Вайсковай Камісіі (БВК). Ужо праз тыдзень Макар Краўцоў апублікаваў у газеце «Беларусь» свой верш «Ваяцкі гімн», які пазней быў пакладзены на музыку хормайстрам Уладзімірам Тарэўскім:

*Мы выйдзем шчыльнымі радамі*
*На вольны родны свой прастор.*
*Хай воля вечна будзе з намі,*
*А гвалту мы дамо адпор!*

*Няхай жыве магутны, смелы*
*Наш беларускі вольны дух.*
*Штандар наш бел-чырвона-белы,*
*Пакрый сабой народны рух <...>*

Ад пачатку гэта не быў гімн БНР, а марш БВК, да якой Макар Краўцоў далучыўся ў званні падпаручніка. Там ён узначальваў асветніцкі аддзел: войску патрэбныя былі не толькі стрэльбы, але і маршы, брашуры, беларускамоўны статут...

## «Пакіньце мне спакой бяз славы...»

Пасля паразы БНР пачалася вайна інтарэсаў, у якой Макару Краўцову не знайшлося месца. У Вільні ён уладкаваўся ў «Касу хворых» — арганізацыю самапомачы, у якой рэй вялі сацыялісты. Маючы доступ да фінансаў, увесну 1923-га Краўцоў «пазычыў» адтуль пару мільёнаў польскіх марак.

Насамрэч сума была зусім невялікая з улікам інфляцыі. Звычайная кніга ў віленскай кнігарні магла каштаваць пару сотняў тысяч марак. Але факт стаў скандальным: Макара Краўцова звольнілі, а пасля нават асудзілі на кароткі арышт. Дарэчы, грошы ён, імаверна, уклаў у выданне газеты «Саха», якая выйшла ў красавіку 1923-га і рэдактарам якой ён сам і быў.

Макар Краўцоў спрабаваў уладкавацца настаўнікам у Радашковіцкую гімназію, але не ўзялі праз біяграфію — настаўнікаў зацвярджалі польскія чыноўнікі. Друкаваўся ў розных выданнях. Перакладаў Лермантава, Талстога, Гогаля, Сянкевіча, Марка Твэна. Працаваў рознарабочым, ездзіў на заробкі на Валынь...

Макар Краўцоў не далучаўся да беларускіх палітычных груповак, некаторыя лічылі яго «польскім агентам». Але яшчэ ў 1923-м у зводках паліцыі ён фігураваў як «дзеяч, вядомы як цвёрды беларускі незалежнік... па перакананнях левы». На крытыку колішніх паплечнікаў адказаў вершам «Майму Сінедрыёну»: «Пакіньце мне спакой бяз славы / Яе ад вас я не хачу — / Пішу сабе дзеля забавы / За плёткі жартам заплачу».

У зборніку «Макар Краўцоў (Касцевіч)» ёсць вельмі цёплы аповед пра памерлага ўжо Івана Луцкевіча, які для Краўцова быў адным з гуру. «Дзядзьку Івана» ён апісаў як халерыка ў добрым сэнсе, які спрабаваў паспець усё, ведаць усе навіны, пабываць на кожным мерапрыемстве ў Вільні, дзе гучала беларуская мова. «Ён заўсёды сьпяшаўся; нават будучы зусім хворым, калі я застаў яго раз у пасьцелі, ён <...> забегаў па хаце і аднатонна, перарываючы голас і кашляючы, шмат гаварыў. <...> Ён сьпяшаўся... і на той сьвет ён гэтак сама пасьпяшыў».

А вось з Антонам Луцкевічам у Макара Краўцова адносіны не склаліся. Дайшло да таго, што ў сакавіку 1922-га Луцкевіч публічна абразіў апанента, а той... выклікаў яго на дуэль. Нават даслаў секундантаў. Невядома з якой прычыны, але двубой так і не адбыўся. Варажнеча — засталася.

Праз уплыў Луцкевіча Макару Краўцову быў закрыты доступ да друку ў большасці віленскіх выданняў. Таму даводзілася выдумляць псеўданімы, сядзець без грошай. Адзін аднаго яны проста не зносілі: калі на мерапрыемстве з'яўляўся Макар Краўцоў, то Луцкевіч з жонкай падымаліся і дэманстратыўна сыходзілі.

Мабыць, калі б у 1920-х былі сацыяльныя сеткі і інтэрнэт, вайна б разгарнулася ў каментарах. Абвінавачванні выстрэльвалі б пастамі. Аналагам таго часу былі газеты-аднадзёнкі. У адной з іх у 1924-м Макар Краўцоў назваў Луцкевіча «чысцейшым аферыстам, які засыпаны бальшавіцкімі грашыма, які кідае ў народ дзікую класавую нянавісць».

Як літаратурны крытык Макар Краўцоў пісаў пра Ядвігіна Ш., Янку Купалу, Якуба Коласа, Алаізу Пашкевіч (Цётку), Алеся Гаруна, Уладзіміра Дубоўку, Уладзіміра Жылку, Канстанцыю Буйло. З апошняй атрымалася трагікамічна, бо ў 1927-м, жывучы ў Вільні, Краўцоў проста не ведаў пра яе лёс: «...Яна, пачынаючы з часоў рэвалюцыі, мелася жыць у Маскоўшчыне на станцыі Шахаўской Аляксандраўскай жалезнай дарогі. З той пары нічога ўжо больш аб ёй не чуваць! Быць можа — памёрла яна, а хутчэй — заелі яе, як і шмат іншых замужак, сямейныя клопаты і абавязкі, адрываючы адначасна ад літаратурнай творчасьці і наагул ад інтэлектуальнага жыцьця».

Макар Краўцоў заклікае мінскую інтэлігенцыю знайсці Канстанцыю Буйло, калі яна яшчэ жывая, і вярнуць да літаратуры. Калі памерла, то сабраць факты яе біяграфіі, а таксама творы, раскіданыя па газетах і календарах. Хто ж ведаў, што Канстанцыя Буйло дажыве ажно да 1986 года, перажыўшы аўтара нарыса ажно на 47 гадоў...

У 1920-м, калі рушыўся фронт, сябры БВК апынуліся ў Польшчы, а разам з імі і Макар Краўцоў. Там ён ажаніўся з этнічнай полькай Ганнай Пшыбыловіч. З ёй і пражыў да скону, але дзяцей у сям'і не было. Жонку Макар Краўцоў навучыў беларускай мове, на якой у сям'і гаварылі штодня.

Невядома, як Ганна пераносіла ўсе злыбеды, з якімі сутыкаўся Макар Краўцоў: безграшоўе, неўладкаванасць, здымныя танныя кватэры... У 1939-м, калі мужа арыштавалі, Ганну выселілі з невялічкага пакоя ў Вільні. Яна бадзялася па знаёмых у пошуку даху над галавой. Падчас Другой сусветнай вайны жонка Макара Краўцова трапіла ў канцлагер, але выжыла. Вярнулася ва ўжо савецкую Вільню, дзе і памерла ў адзіноце.

У 1939-м Макар Краўцоў, як і вялікая частка віленскіх беларусаў, меў вялікія спадзяванні на савецкую ўладу. Ён нават паспеў уладкавацца ў «Віленскую праўду», што пачала выходзіць 22 верасня 1939-га. Здавалася, вось яна — салідная легальная праца!..

А 30 верасня па Вільні пракаціліся арышты. Забралі і Макара Краўцова. Гісторык Аляксандр Горны ў зборніку адзначыў: «Яго следчая справа, калі яна ўвогуле існавала, пакуль не выяўлена. Паводле ўскосных сведчанняў, Макар Касцевіч быў закатаваны падчас допытаў у беластоцкай турме недзе ў 1939 г.».

Месца ягонага пахавання, дата смерці невядомыя.

...Па жыцці Макар Краўцоў зведаў нямала бедаў (дастаткова прачытаць аповед «Голад»). Неўладкаванасць і адсутнасць грошай сталі ягонымі хранічнымі хваробамі, вечнымі спадарожнікамі. Але наўрад ці Макар Краўцоў хацеў бы, каб яго згадвалі як дзеяча з трагічным лёсам. У сваіх нарысах ён крытыкаваў дэпрэсіўнасць Францішка Багушэвіча і хваліў эратызм лірыкі Канстанцыі Буйло. Урэшце, менавіта гэты чалавек стварыў ваяцкі марш, які сёння лічаць «Гімнам БНР» і выконваюць на спеўных сходах: узнёсла, велічна.

Хоць Макар Краўцоў пакуль не мае нават сімвалічнай магілы, затое песня ўжо стала яму найлепшым помнікам як паэту.

# Кельты не паміраюць,
## або Каб чысцела і святлела зямля

Уладзімір ЛАЙКОЎ

**Жывеш і з гадамі прыходзіш да высновы: самым справядлівым і праўдзівым гісторыкам быў, ёсць і застаецца уласна час. Бо толькі ён адзін — найбольш правільны і аб'ектыўны. Бо ніякая суб'ектыўнасць не зможа непрадузята расставіць акцэнты ісціны. І тым не менш, кожнаму з нас у меру здольнасцяў і ведаў хочацца даць сваю суб'ектыўную ацэнку людзям і падзеям. Таму не-не ды і зробіш спробу асэнсаваць жыццё са свайго пункту гледжання.**



Алег Лойка

Такім вось крыху філасофскім уступам хачу пачаць свае слова пра цудоўнага паэта, таленавітага вучонага, дабрэйшай душы чалавека Алега Лойку. Балюча і сумна было на сэрцы, калі Алег Антонавіч пакінуў гэты белы свет і нас. Мінуў першы год, другі і нарэшце трэці. І тут памяць мая скіравалася да старонак лірычнага дэтэктыва Алега Лойкі «Кельты не ўміраюць». Успомніліся радкі пра тое, што кельты «...паміраючы, не паміралі, таму што яны ніколі не ахвяравалі сабой, так як верылі, што смерць — вароты ў іншае жыццё, лепшае, чым зямное. Таму яны не паміралі, а проста сыходзілі на "перадасабленне" ў іншы свет, і гэты адыход суправаджаўся рытуаламі, друідамі, песнямі, забеспячэннем воіна тым жа баявым канём і сякерaю».

У Алега Лойкі тут заставаліся яго родныя, блізкія, сябры. І як пісаў ён сам ва ўступным слове кнігі аднаго лёсу: «Дрэва майго жыцця, ці ж адкінула ты хоць які цень — след на дарогі, якімі мне выпала ісці, ехаць, плысць, ляцець?..». Таксама як тут не ўспомніць радкі з лепшай паэтычнай кнігі творцы «Калі ў дарозе ты» (1971 г.):

*І што б я быў для чалавецтва,*
*Калі б не гэтая дарога,*
*Якая ў свет шырокі ўецца*
*Адсюль — з бацькоўскага парога...*

Паспрабую сёння, у 90-гадовы юбілей Алега Лойкі (творца нарадзіўся 1 траўня), пашукаць адказу на гэтыя лірычна-філасофскія пытанні. У паўнавартасным (паэтычным, навуковым, дакументальна-даследчыцкім) аналізе жыццёвай дарогі паэта і вучонага свае словы ўжо сказалі і, несумненна, яшчэ скажуць літаратуразнаўцы, пісьменнікі, сябры і вучні. Я ж хачу спыніцца на думках, развагах, успамінах пра сваю асабістую з ім дарогу, якой мне таксама «выпала ісці, ехаць, плысць, ляцець...». Помніце, як ад усіх нас, Лойкавых студэнтаў прамовіла, ці лепей сказаць — выдыхнула непараўнальная Яўгенія Янішчыц:

*Мы — Вашы вучні, Вашы дзеці,*
*А значыць — Ваш палёт і боль.*
*І з усяго, чаму вучылі,*
*Відаць, адчуеш праз вякі,*
*Што нават талент немагчымы*
*Без Вашай лёгкае рукі.*
*Нам прадаўжацца ў новай песні,*
*Шчырэць між зла і між бясед!*
*...Глядзіць прафесар,*
*як прадвеснік,*
*Запамінальна ўсім услед.*

Помню той першы раз, калі ўбачыў і пачуў Алега Лойку. У дзясятым класе мой любімы настаўнік беларускай мовы і літаратуры Іван Ісакавіч Рабкоў арганізаваў прагляд тэлевізійнага ўрока «Сучасная беларуская паэзія». Тады я, 17-гадовы юнак, захоплена слухаў паэтычны аповед 39-гадовага доктара філалагічных навук, паэта Алега Лойкі. А праз некалькі месяцаў, у жніўні 1970 года, ужо сам здаваў уступны іспыт па беларускай літаратуры ў БДУ. Адным з экзаменатараў быў шаноўны Алег Антонавіч. Тая шчырая, па-бацькоўску клапатлівая атмасфера мала чым нагадвала класічны экзамен. Бо наша гутарка пра «Новую зямлю» Якуба Коласа паступовa трансфармавалася ў мой маналог пра зіму-вясну 1908 года, калі народны пясняр перад мінскім астрогам некалькі месяцаў навучаў мясцовых дзетак сялян пана Гардзялкоўскага, а потым прывозіў іх на экзамен у маю родную Абчугскую, на той час царкоўна-прыходскую школу. Потым Алег Лойка ўзрадаваў мяне першай універсітэцкай адзнакай — пяцёркай. Яна і з'явілася, несумненна, шчаслівым дарункам і своеасаблівай метай лёсу. Бо потым за пяць гадоў вучобы ва ўніверсітэце па ўсіх наступных літаратурных дысцыплінах ніжэйшай адзнакі ніколі не было. Ды і мая дыпломная работа, прысвечаная паэзіі Рыгора Барадуліна, кіраўніком якой быў Алег Антонавіч, таксама была ацэнена вышэйшай адзнакай.

Ужо на першым курсе я пачаў наведваць славутае ўніверсітэцкае літаб'яднанне «Узлёт». І нават аднойчы з вялікім унутраным хваляваннем аддаў свайму настаўніку на разгляд сшытак са сваімі юнацкімі паэтычнымі спробамі. Праз нейкі час Алег Антонавіч вярнуў сшытак са сваімі шматлікімі папраўкамі і акцэнтуе ўвагу на паэтычным эцюдзе «Бабіна лета». Адным словам, пакідае мне шанец на далейшы працяг вершатворчасці. Хаця я ўжо тады разумеў, што паэта з мяне не выйдзе. Як сапраўдны настаўнік, творца, чалавек і бацька, Алег Антонавіч надзвычай далікатна падводзіць мяне да гэтай думкі.

Але ўсё астатняе свае жыццё пасля такога запамінальнага ўрока я жыву і дыхаю паэзіяй Беларусі і свету. А на ўспамін пра тое ў маёй немалой хатняй бібліятэцы месціцца шматлікія кнігі, у тым ліку і Алега Лойкі. Некаторыя з іх — з аўтографамі паэта. «Дзівасіл» («Уладзіміру Лайкову ад Алега Лойкі на першым яго курсе навучання з пажаданнямі пяцёрак і вершаў. 18.11.1970 г.»); «Янка Купала», серыя «ЖЗЛ» («Уладзіміру Лайкову ў памяць аб філфаку шчыра, Алег Лойка. Мінск, 27.04.1983 г.»); «Скрыжалі» («Уладзіміру Лайкову — удзельніку майго паэтычнага семінара на філфаку, а сёння аднаму са слаўных дырэктараў СШ Барысаўшчыны. Шчыра — Алег Лойка. 27.09.1983 г.); «Каб не плакалі ка́ні» («Леначчы Лайковай, шчасця жадаючы, Алег Лойка. Мётча, 8.12.1984 г.»); «Францыск Скарына, або Сонца Маладзіковае» («Дарагім дзецям філфака — любым Любе і Валодзю Лайковым і іх дзеткам, спадзяюся — філфакаўцам таксама. Шчыра — Алег Лойка. У вас — 8.12.1992 г.»); «Неўміручасць» («Янку Лайкову, каб радаваў вершамі бацьку, маці, мяне. Алег Лойка. 1.05.2001 г.).

Ва ўніверсітэцкім жыцці Алег Антонавіч заўсёды быў побач. Яго лекцыі і семінары, артыкулы і кнігі, вершы і само жыццё таксама — усё гэта спадабляла мяне ў тым ліку і для заснавання сваёй будучай дарогі. З тых гадоў помніцца многае. Бліжэйшым і раднейшым Алег Антонавіч заставаўся для мяне яшчэ і таму, што ў адной філфакаўскай групе я вучыўся разам з ягонай дачкой Тоняй. Якія шчырыя дзіцячыя вершы, прысвечаныя ёй, неаднойчы чытаў нам паэт! А якое гаманкое было Тоніна вяселле ў Слоніме! Хіба такое калі забываецца?!

Потым жыццёвыя гасцінцы яшчэ неаднойчы звязвалі нас з Алегам Антонавічам. Незабыўным застаецца прыезд паэта ў маю родную Мётчу ў 1984 годзе разам з Вячаславам Рагойшам, Кузьмом Хромчанкам і Анатолем Вярцінскім. Тыя снежаньскія дзень, вечар, ноч і ранак помняцца заўсёды. Асабліва — пасля вясковай лазні — доўгія, аж да самага ранку размовы пра час і пра сучаснікаў. Тады, ці не ўпершыню, я быў сведкам доўгага распаведу мінскіх гасцей пра першыя гады сталінскіх рэпрэсій, пра забойства Сяргея Міронавіча Кірава... Яшчэ не наступіла эпоха перабудовы і галоснасці. І многае ў тую ноч я адкрыў для сябе ўпершыню за трыццаць адзін год уласнага жыцця.

У будучым, ужо новым XXI стагоддзі, Алег Лойка перашле мне сваю кнігу аднаго лёсу «Дрэва жыцця» з наступным аўтографам: «Мётчынскаму Уладзіміру Лайкову. Лойка, які любіць мёд. З Лабазоўкі, 7 мая 2006 г.». Праўда, гэтую кнігу, але падпісаную Уладзіміру Маруку, сын Янка прывёз мне пачытаць крыху раней. Але і тады, калі я ўпершыню яе гартаў, і тады, калі перачытваў наноў падпісаны ўжо мне экзэмпляр, штораз вяртаўся ўспамінамі да той нашай мядоцкай сустрэчы...

Праўда, была ў нас яшчэ адна сустрэча ў Мётчы. У 1992 годзе, добрым і сапраўдным яшчэ нашым беларускім годзе. Тады я арганізоўваў для дырэктараў школ Барысаўшчыны маштабны семінар «Адраджэнне нацыянальнай школы». І менавіта Алег Антонавіч Лойка ад філалагічнага факультэта БДУ падключыў да работы семінара кафедру беларускай мовы і літаратуры. Наша нацыянальная сімволіка — бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня», што з'яўляліся ў тыя гады афіцыйнымі дзяржаўнымі атрыбутамі, адпаведна настройвалі ўдзельнікаў творчай сустрэчы на глыбокі роздум пра мінулае і будучае Айчыны.

Таксама ніколі не забываецца яшчэ адна наша, здавалася б, выпадковая сустрэча ў цэнтры Мінска, каля Купалаўскага тэатра. У прысутнасці сына Янкі я запытаўся ў Алега Антонавіча: «Як будзем жыць далей? Усё зацiхла, усё нашае роднае беларускае ў павалоцы густога і непрагляднага туману...». Мякка ўсміхнуўшыся, Алег Лойка адказаў так: «Усё будзе добра. І мова наша абавязкова будзе жыць. А туман... Туман заўсёды бывае перад добрым, цёплым і сонечным днём. Днём, калі лёгка дыхаецца, калі чысцее і святлее зямля!..».

# Сусветны дзень кніг і аўтарскага права

**Гэты святочны дзень адзначаецца 23 красавіка і быў абвешчаны на 28-й сесіі ЮНЕСКА ў 1995 годзе.**




Традыцыя ўшаноўваць кнігі з'явілася ў іспанскай Каталоніі ў пачатку XX стагоддзя. Яе ўвялі мясцовыя кнігагандляры, якія 23 красавіка 1923 года наладзілі грандыёзны кніжны кірмаш. Дату выбіралі, зыходзячы з яе значнасці для сусветнай і еўрапейскай літаратуры. Рэч у тым, што 23 красавіка — дзень смерці і памяці такіх вялікіх пісьменнікаў, як Мігель дэ Сервантэс, Уільям Шэкспір, Інка Гарсіласа дэ ла Вега. А ў 1995 годзе было прынята рашэнне аб стварэнні памятнай даты — Дня кніг і аўтарскага права (World Book and Copyright Day). З кожным годам колькасць краін, якія адзначаюць яго, павялічваецца.

Задоўга да таго, як у свеце пачалі адзначаць Дзень кніг, у Іспаніі 23 красавіка ўшаноўвалі памяць Святога Георгія. Гэты дзень носіць назву Сан-Жорзі, для іспанцаў ён — аналаг Дня Святога Валянціна. Сімваламі свята з'яўляюцца ружы і кнігі, першыя было прынята дарыць жанчынам, другія — мужчынам. І на першым кніжным кірмашы, наладжаным каталонцамі ў 1923 годзе, усе пакупнікі кніг атрымлівалі ў падарунак ружу. Гэты звычай спадабаўся жыхарам Іспаніі, і з таго часу ва ўсёй краіне традыцыя дарыць ружу пры куплі кнігі ў вызначаны дзень года захавалася да гэтага часу.

Штогод 23 красавіка аднаму з гарадоў свету на адзін год прысвойваецца ганаровае званне Сусветнай сталіцы кнігі. На працягу ўсяго года ў абраным горадзе праходзяць мерапрыемствы, накіраваныя на папулярызацыю чытання і адукацыі, а таксама на павышэнне дасведчанасці грамадзян аб асаблівасцях літаратурнай творчасці.

А што наконт аўтарскага права? Аўтарскае права — неад'емны складнік любой творчай прафесіі. Вось некалькі цікавых фактаў пра яго...

У свеце першы закон аб аўтарскім праве з'явіўся ў Англіі ў 1710 годзе. У Расійскай Імперыі гэта адбылося ў 1828-ым. У СССР паняцця «аўтарскае права» зусім не існавала. Згодна з камуністычнай ідэалогіяй усе дасягненні канкрэтных людзей належалі дзяржаве. Тэрмін дзеяння аўтарскіх правоў у сучаснай Беларусі — 70 гадоў з дня смерці аўтара. У англійскай мове ёсць слова uncopyrightable, што даслоўна можна перавесці як «не падлеглы аўтарскаму праву». Гэта самае доўгае шырока ўжываемае слова англійскай мовы, у якім ніводная літара не паўтараецца двойчы...

Марыя ЗАРБАЛІЕВА

# Фрэскі



Барыс ПЯТРОВІЧ

## Нулём стацца

як часта даводзіцца нам адчуваць сваю адзіноту ў гэтым свеце, здавалася б, нічым не выкліканую, нічым не пацверджаную, не асэнсаваную нават, але адзіноту, якую ты чуеш нутром, а не галавою, бо мозг бачыць вачыма людзей вакол, бо вушы чуюць галасы побач, больш за тое — цябе вось толькі што штурхануў нехта, адсунуў са сваёй дарогі перашкоду, якой зрабіўся ты,

так, ты стаў камусьці перашкодай, бо адчуў раптам такую невыказную самоту сваю сярод гэтых дзясяткаў людзей, чужых табе кожную папярэднюю хвіліну і кожную наступную,

але табе самотна не таму, што яны чужыя табе, сярод іх могуць быць нават даўно знаёмыя твары ці твары знаёмых, толькі ты бачыш іх і не бачыш, ты не адчуваеш іх блізкасці, роднасці, ды табе і не трэба гэта,

табе, як гэта ні дзіўна, камфортна ў тваёй адзіноце, і нічога іншага ты не жадаеш у гэты момант, у гэтыя хвіліны, і табе нават у думкі не прыходзіць паспрабаваць зразумець, чаму цяпер так самотна сярод гэтых людзей, большасць з якіх абсалютна не ведаюць адно аднога, і таму ім не адзінока ў гэтай мітусні, якая ледзь не фізічна знішчае іх,ператвараючы ў масу, у натоўп, дзе кожны ўжо не адзінка і нават не нуль, а ўвогуле нішто,

нішто, бо вылучыць яго ў гэтым... не, не ў мурашніку, не, не ў вуллі... у гэтай куламесе, катлеціне людзей, у гэтым фаршы ўжо немагчыма...

можа быць, якраз адчуваючы гэта, але не разумеючы да канца, мы і робімся такімі самотнымі і адзінокімі не на самоце і адзіноце — у лесе, у полі, у стэпе, у гарах, у пустэльні... а ў натоўпе, звычайным гарадскім натоўпе, які ператварае нас у пясчынку, пылінку, у нуль,

нікому непатрэбны нуль... а нам усё ж так хочацца нешта значыць у гэтым жыцці:

быць адзінкаю — хай і адзінокаю.

## Верабейку злавіць

Чалавек шмат што можа зрабіць голымі рукамі — напрыклад, злавіць рыбінку ці вераб'я.

Вось ідзеш ты па вуліцы — вакол птушкі спяваюць: на дрэвах ды кустах, у траве на зямлі.

Птушак шмат, а паспрабуй злавіць хоць адну — кінешся да яе, а яна — пырх!.. і ўзляціць у неба, знікне і растане ў ім, як і не было.

Ідзеш паўз рэчку — рыбы плаваюць у ёй, ты іх бачыш, як у акварыуме.

Рыбіны вялікія, а паспрабуй злаві хоць адну — кінешся на край берага, а яны — шух!.. і няма іх, вакол толькі пустая вада навылёт...

Я ведаў чалавека, які лавіў птушак без пастак, а рыбу — без нейкіх прыладаў: без сетак ці вудаў.

Лавіў голымі рукамі.

Гэтым чалавекам быў я, але даўно-даўно.

У вольным дзяцінстве, калі вакол буялі нявыцвілыя фарбы, калі навальніца была навальніцай, з маланкай і стра-ашным громам, які далятаў потым і сатрасаў навакolle; калі снег быў глыбокім і, заўважце, белым ды пухнатым — ступіш са сцяжыны і патанаеш у ім ледзь не з галавой; калі яблыкі былі вялізнымі — абедзьвюма рукамі не абхапіць; калі бацька быў высокім-высокім, а мама такой маладой ды прыгожай, калі... двухтысячны год здаваўся недасягальным...

Любы вясковы хлапчук скажа: ну ты здзівіў — злавіць рыбіну голымі рукамі ў вадзе прасцей простага, трэба толькі ваду ўскаламуціць, змуціць, і тады ачмурэлыя карасі палягуць на дно, у глей, і ты збірай іх ды выкідвай на бераг, а задыханыя шчупачкі павысоўваць з вады свае носікі і будуць вяла варушыць плаўнікамі, не ўцякаючы і не хаваючыся: бяры іх тады акуратненька пальцамі пад жабры — і ў торбу, у торбу складвай роўненька, як як паленцы.

І я так рабіў — няма тут сакрэту.

Але рыбу лавіў я рукамі і ў нескаламучанай вадзе — трэба толькі ўмець намацаць карасіка ці лінка на дне і не спалохацца, калі ён трапятнецца ў руках, а заціснуць яго, злаўчыцца і выкінуць на бераг. Не з першага разу, але ў кожнага гэта атрымаецца зусім лёгка і проста.

Сапраўды — гэта не дзіва.

Лавіў і птушак пасткамі, нават звычайнымі петлямі з нітак: раскладзеш на зямлі пятлю, накрышыш у яе і вакол хлебных крошак — і чакаеш, пакуль голуб ці верабей, закляваўшыся, уступіць ножкай-лапкай у тую пятлю, тады — шморг!.. і ён твой.

І гэта лёгка.

Злоўленых птушак я заўсёды адпускаў, а рыбу, даруйце, нёс дамоў, маме — час быў такі.

Але вось злавіць вераб'я голымі рукамі... Вольнага вераб'я, асцярожнага, палахлівага, які беражэ сваё жыццё ад любой выпадковасці, і нават калі табе падаецца, што ён бесклапотна і самазабыўна дзяўбе зярняткі, рассыпаныя на дарозе, — выпалі на ямінках-выбоінах з кузава машынаў, што адвозяць жыта ці ячмень з поля ад камбайнаў на збожжаток — гэта зусім не так: ён бачыць цябе ў кожны момант, і варта табе зрабіць крок да яго, як ён пырх!.. і ўжо на дрэве ці на плоце, ці на правадах бліжэйшага слупа... Сядзіць і цікуе, калі ты адыдзеш ад зярнятак, каб вярнуцца да іх.

А я лавіў. Верабейкаў. Голымі рукамі.

Быў такі дзень у маім жыцці, калі ўдавалася ўсё, нават гэта.

Стаяла страшная спякота, ліпень, трыццаць градусаў у цяню, а выйдзеш на голае месца — над галавой і спінай уздымаецца парок: пот выступае і адразу высыхае. Дажджу не было некалькі дзён: зямля, дрэвы, птушкі і людзі засмягла чакалі яго. Але неба не радавала іх ніводнай хмаркай, яно было чыстым-чыстым, і глыбока-глыбока сінім-сінім. Сонца раскашавала на ім, нішто не перашкаджала яму гаспадарыць над зямлёй.

Вераб'і, пэўна ж, таксама ачмурэлыя ад спякоты, купаліся ў рассыпчатым, мяккім, як пыл, пяску.

Менавіта купаліся — быццам у вадзе.

Пясок пасярод вуліцы лёгенькі, сыпучы, верабей рабіў у ім ямачку і пачынаў лапатаць крыллем, абсыпаць сябе пяском, уздымаючы над сабой і вакол сябе хмарку пылу.

Мы назіралі за гэтым купаннем з дзяўчынкай, якая мне падабалася.

Яна прыехала з далёкага горада і была зусім не падобная да дзяўчатак-суседак. Яна здавалася такой бела-кволай прыгожанькай прынцэсай з фільма-казкі ці мульціка, што нават дакрануцца да яе было шчасцем.

У цяню старой ліпы мы елі першыя спелыя вішні, якія яназбіраў для яе ў самым вільчыку дрэва, але яна адмовілася есці адна — толькі разам, сказала.

Сок вішнёвы, чырвоны, як кроў, заставаўся на пальцах, пляміў вусны, а адна нахабная кропля ўпала на яе светлую сукеначку ў дробныя кветачкі і расплылася. «Ой, што мама скажа...», — прамовіла дзяўчынка і засмяялася.

Мне дужа прыемна было чуць яе звонкі голас, асабліва смех, які разліваўся ў прасторы так, быццам дзясяткі дзіўных званочкаў раптам крануў павеў ветру. А яшчэ прыемней было сядзець побач, плячо да пляча, і адчуваць яе лёгкае дыханне ля вуха, цеплыню цела і тонкітонкі пах яго...

Верабейка купаўся, не зважаючы на нас, і, пэўна, быў у гэты момант шчаслівы не менш за мяне. Двума пальцамі я пстрыкнуў каменьчык-костачку вішні ў бок вераб'я. Ды так удала, што ён нырнуў у пылок над верабейкам і адскочыў ад ягонай шэранькай спінкі. Верабейка, заняты купаннем, нават не заўважыў, як каменьчык пакінуў блiскучую плямку сока на пёрках.

І тут дзяўчынка раптам кажа: «Злаві мне вераб'я. Зможаш?».

Злавіць? Голымі рукамі? Вось цяпер вось... Такая думка магла прыйсці ў галаву толькі гарадской дзяўчынцы.

І я, вясковы кавалер, хіба мог у просьбе той адмовіць і не паспрабаваць.

Я аддаў ёй вішні і пайшоў да вераб'я...

Ён не зважаў на мяне, заклапочаны сваім умываннем.

Канечне, я злавіў таго верабейку, інакш бы не расказваў пра тое. Падышоў, нахіліўся, прыцэліўся і ўпаў на яго... Заціснуў рукамі, ён затрапятаў у далонях — увесь-адзін, як сэрцайка, а потым заціх, і я чуў, як б'ецца ягоная душа пад маімі пальцамі.

Верабейка быў такі малы, што лёгка памясціўся ў маіх далоньках. Ён здаваўся мне спалоханым, задыханым, запыханым, бо сэрцайка ягонае білася часценька-часценька.

З прыгаршчаў маіх тырчэла толькі ягоная галоўка з шырока раскрытай дзюбкай, і вялікае вока пазірала на мяне з такім бляскам, што мне падумалася: ён плача. Галоўка верабейкі раптам заторгалася ўправа-ўлева, нібыта ў здзіўленні: як так — я над зямлёй, але не лячу.

Дзяўчынка ўзяла верабейку беражліва-лёгка, каб не сціснуць, і пагладзіла яму галоўку — ён так смешна прыцінаў шыю пры гэтым, уціскаў галаву ў плечыкі, што дзяўчынка засмяялася — шчаслівая і весела. А потым сказала вераб'ю: не бойся, і — пырх!.. адпусціла яго.

Адпусціць верабейку было лягчэй, чым злавіць.

І так прыемна.

Злавіць, каб адпусціць — гэта так здорава!.. А давай яшчэ.

І мы пайшлі з дзяўчынкай вясковай вуліцай шукаць іншых вераб'ёў, якія купаюцца ў пяску.

Іх чамусьці ў гэты дзень было шмат. Мы знаходзілі іх, я лавіў, а яна адпускала...

Сёння згадваецца тое, як найбольшае шчасце, што было ў дзяцінстве.

Дзе тая дзяўчынка цяпер? Не ведаю, вылецела яна з майго жыцця, як тыя верабейкі — пырх! і знікла недзе ў мроях, і толькі цяпер, у сувязі з гэтым успамінам, згадалася.

Мусіць, яна прыязджала яшчэ не раз у нашую вёску на летнія канікулы да бабулі і дзядулі.

Магчыма, мы хадзілі з ёй разам у лес у ягады ды грыбы, на рэчку купацца, але я не запомніў таго, і згадваецца мне толькі той адзін ліпеньскі дзень, калі мы былі разам, елі першыя вішні і лавілі верабейкаў.

Вераб'ёў-канаплянікаў не стала менш на нашых вуліцах у спякоту, і не разлюбілі яны купацца ў пяску, але болей, колькі ні спрабаваў я, злавіць хоць аднаго не мог. Верабейкі падпускалі мяне да сябе на некалькі крокаў, і як толькі я наважваўся ўпасці, каб злавіць іх, яны — пырх! і ўзляталі.

Суседскія хлопцы ды дзяўчаты толькі смяяліся з маіх спробаў і прызнаннях, што некалі я лавіў канаплянікаў голымі рукамі...

Вераб'і таксама ведаюць, калі і каму можна паддацца — хто іх зловіць і адпусціць.

Не дзеля пахвальбы, а дзеля маленькага шчасця першае закаханасці.

## Землякам дагадзіць

яны злавілі вялікую рыбіну шчупака

і прынеслі нам, каб мы засмажылі яго

для іх

а самі пасля рыбалкі пайшлі на паляванне

усе заўпарціліся: чаму гэта мы павінны смажыць гэтага шчупака

хай самі смажаць, а мы ім не служкі

было тое далёка ад Беларусі

і мы не павінны былі — не абавязаныя — падпарадкоўвацца ім, тым болей — слугаваць

але... аднак... што не зробіш для землякоў

праз паўгадзіны на стале паравала патэльня з кавалкамі смажанага шчупака — патрэсквалі, шыпелі між іх жоўтыя колцы цыбулькі

і побач стаяла пляшка гарэлкі мясцовай, зразумела

чакалі іх, землякоў

ды раптам пачуўся стрэл

потым другі, трэці...

мы выбеглі з хаты на вуліцу

над двума землякамі падымалася пара ад цяпла свежай — гарачай — крыві, што расцякалася па грудзях і спадала буйнымі кроплямі на зямлю:

вечары ў вераснёвай Карэліі ўжо халодныя

а трэці, трымаючыся за жывот, зрабіў колькі крокаў да нас і таксама ўпаў назаўсёды

кавалкі смажанага для іх шчупака мы выкінулі заўтра на першы снег

## Пасажырам спазняцца

краем вока бачу аўтобус

і людзей у вокнах — прыпалі да шыбаў

аўтобус стаіць, пасажырам няма чаго рабіць, няма куды падзець вочы, і таму ім цікавы... я і дуб, пад якім сяджу

я назіраю за небам, за хмаркамі, што па ім плывуць, разгадваю малюнкі, што паказвае мне нехта, якія ніхто, апроч мяне, не бачыць

а там, на небе разгортваецца сюжэт цікавейшы, чым бываюць на зямлі, — я гляджу фільм пра тое, што каханне можа быць шчаслівым і скончыцца не забойствам ці разыходжаннем у розныя бакі, а імкненнем зліцца, стаць адным, застаўшыся ўдвух

людзі пачалі выходзіць з аўтобуса — ім абрыдла сядзець за шклом

яны сабраліся вакол рухавіка, у якім корпаецца кіроўца, і я чую іхнія галасы, але не разбіраю словаў: пэўна, яны падказваюць кіроўцу, што і як трэба рабіць, альбо абураюцца тым, што ён выехаў у рэйс на недагледжанай машыне і цяпер не можа адладзіць яе, а яны спазняюцца да родных, якія стаміліся іх чакаць...

раз-пораз нехта адыходзіць ад гурмы пасажыраў, трымаючы руку ля вуха — ён перамаўляецца з тымі, хто яго чакае, і тады я чую асобныя словы і фразы: «А што я магу зрабіць?», «Ну не ісці ж мне пешкам...».

а што ты можаш зрабіць?.. цяпер... ты можаш назіраць за хмаркамі, як тое раблю я, і нікуды не спяшацца, скарыцца волі лёсу і максімальна скарыстаць такую рэдкую магчымасць: спыніцца ў сваёй паўсядзённай мітусні і раптам заўважыць, якое прыгожае жыццё вакол; не злавіць на ўсё і ўсіх, а спакойна ўглядзецца ў неба, далучыцца да мяне і назіраць за падзеямі, якія ніколі, ніколі не паўтараюцца

але ніхто да мяне не далучаецца

ну не стае ў вас сілаў падняць галаву, дык угледзьцеся хоць у той вунь недалёкі лясок... а не, дык проста ўдыхніце на поўныя грудзі паветра — гэтага чыстага восеньскага паветра, якое пахне разам травой і сенам, бульбоўнікам і грыбамі, першай сырасцю апалай лістоты і апошнімі расцвілымі ў гарончыках недалёкай вёскі кветкамі

але, аднак

аўтобус стаяў на шасейцы, людзі праходжваліся па ёй узад-уперад, не аддаляючыся ад аўтобуса больш чым на паўсотню метраў, раз за разам тэлефанавалі родным і адказвалі на званкі, залазілі ў інтэрнэт і свой фэйсбук, фатаграфавалі сябе на тле сапсаванага аўтобуса і адсылалі здымкі сябрам, але ніхто так і не падумаў: а што робіць той чалавек пад дубам, які сядзіць па-шукшынску, шырока расставіўшы босыя ногі ў карактаватых штанах... чаму ён, гэты чалавек, пакуль мы тут мітусімся і злуем, не зрушыўся з месца і на сантыметр?

і што, што ён там бачыць у небе?

# Арбіта беларускасці



Сяргей ПАНІЗЬНІК



Фота www.luch.by

* * *

*Суладдзе Слоў — у выплесках натхнення.*
*Назоўная ў іх вобліках смуга.*
*З раскрыленых пялёстваў праяснення*
*я сведчу, як расце радок з імгнення,*
*якому я і татка, і слуга.*
*Ад правіднення і да прамаўлення*
*за аўтара тут радасць і туга.*

* * *

*Жыву не ў доўг. Падатак мой вялікі.*
*Я аддаю за кожны вольны дых*
*Цяпло-Любоў, дзе захаплення блікі*
*і шчабятанне ласкі, верша ўсклікі…*
*Плачу і за сябе я, і за тых*
*ашчаднікаў былых і маладых, —*
*прыхілістых адно выкрувчаць бзыкі…*
*Пачую неўпападныя прыкрыкі, —*
*плачу й за іх, каб выправіўся слых*
*і пасвятлелі недаверцаў лікі.*

* * *

*Перабяру гады, — вярнуцца ў самы лепшы.*
*Няма пушчэйшых: кожны — у цане.*
*І ў новы Круг напрошваюцца вершы:*
*якія з іх пажытак праглыне?*
*Усе свіргочуць радасна і горка.*
*Каторы з іх — напразапас — вавёрка*
*схавае ў прахалодным будане?*

* * *

*У Бацькаўшчыны гонкі дым,*
*трапечуць рэкі, перакаты…*
*Не адхіляецца Гальфстрым:*
*у зыбкіх промнях — продкаў пража…*
*Для Бацькаўшчыны праца — паша*
*у існаванні векавым,*
*калі на кожнай вежы — стража.*

* * *

*Гукні — і будзеш як Атлант.*
*Прыстройся: — Я Карыятыда!*
*І рэха адшукае клад:*
*Зямля сумоўнасцю спавіта.*
*Датуль нямее Атлантыда,*
*пакуль Айчына не раскрыта,*
*пакуль Сястру не стрэне Брат:*
*— Мы — беларускасці арбіта!*

* * *

*Узважу Час, які ляціць наўстырч —*
*праз пень-калоду, праз вярыгі плёсу.*
*Узважу  Час, а з ім жыццця залозу.*
*………………………………*
*Хай млын чакае новага завозу…*
*Адно гляджу: не спатыкнуўся б кліч*
*айчыннага разгушканага лёсу.*

* * *

*Не зварухнуўся аркушык паперы.*
*І прывіды не стукаліся ў дзверы*
*ні ў паралельным свеце, ні ў тутэйшым.*
*Ніхто з сябровў не кінуўся на вершы.*
*Каб не згубіць дыханне трапяткое, —*
*агучваю не словы, не радкі —*
*завершыкі. А што гэта такое?*
*Перадаецца нешта гаваркое*
*в а ч ы м а,  разам з поціскам рукі.*

* * *

*У Бога дзве далоні — Дзень і Ноч.*
*Прыходзіць ноч, нясе далонь да лона, —*
*і я схіляю голаў для паклона,*
*каб новы дзень мой не прабег наўзбоч.*
*А дакранецца додня даланя —*
*прымаю дабраслаўленне дня…*
*Зноў радуецца сонейка карона.*

* * *

*Калі б не сонца — засень*
*вятрылася ў гняздо.*
*Калі б не ліпа — ясень,*
*калі б не я, то хто*
*пад сонца стаў, пад вецер*
*і месца на планеце*
*прытульнае агледзеў?*
*Быў родны дом з Хрыстом,*
*з яго крыжом-наследдзем,*
*з Вялікаднем-прасвеццем…*
*…Ішоў з бязвернай клеці*
*ў Яго бязмерны Дом.*

* * *

*Суніцца і заглыбіцца ў маўчанне,*
*недарабіць і тое, што б ты змог?*
*А для чаго самкнуліся случанне —*
*каб вырас мох?*
*Прыўладзіць бы замшэлае стагоддзе*
*і з лядаў павыносіць смалякі*
*ці ж не пад сілу? Гулі зноў у модзе.*
*Чые ж сынкі нядотыкі святкуюць,*
*мясцюрацца пад недалужны звон…*
*…Саміх сябе балткрэвы атакуюць*
*і на загрыўку веку маракуюць:*
*а ёсць яшчэ і Божанькі закон…*

* * *

*Я правяраю даўні след:*
*адновіць ён абрысы Краю?*
*Аблічча валадароў з манет*
*глядзяць на мой нязграбны Свет:*
*нібы наноў яго ствараю.*
*Учэпістая даўніна*
*пад ногі выварагнем прэцца.*
*Там — у атожылку — струна,*
*у кожнай рытвіне — вайна,*
*а вырва — Крывіяй завецца.*
*Ашчадна ў гэтай малацьбе*
*ствараю самаго сябе…*
*…Душа, азызлая ў пасьбе,*
*зноў на падмурак села грэцца.*

* * *

*Мне маладзік — шчытом, а ветах — чоў-*
*нам.*
*Начны дазор плыве па моры чорным,*
*аберагае сны прарочыя, каб додзень*
*усім праснутым выяўляў адвагу.*
*Ім надаваў кальчужную рубаху —*
*і не рубакам быць — стырно трымаць,*
*з начы акрутнай смела выплываць.*

* * *

*Вось тут і думай… Думанне — пакуты.*
*А што, калі не лезьці за вуглы,*
*а быць да свайго логава прыкутым,*
*прывязаным да хатняе шулы?*
*І хай там нехта лезе ў расцяробы,*
*валтузіцца за праўду для людзей…*
*А я, здаволіўшы свае вантробы,*
*успыхваю… І ўсё радзей, радзей.*
*О, думанне! Спажыва для надзей!*
*За вугал пагляджу, каб схамянуцца:*
*— Я злодзей, я замкнуўся ў сваёй будцы,*
*дзе ўжо няма надзеі для падзей.*
*Надзеі не прыходзяць без людзей.*
*…Адуманага, вы прыміце, людцы.*

* * *

*Краіна — не акраец,*
*не лустачка — пасціцца.*
*Вось я — прыдзвінскі малец:*
*на ўскрайку мне гняздзіцца?*
*Я — сын Мацерыка,*
*увесь з яго рашчыны.*
*І не ўскладзе рука*
*Крыж на мяжу Айчыны.*

* * *

*Абломак*
*дрэва…*
*Пад карою слізь…*
*Стаілася ля пня*
*суччо прыроды…*
*З-пад Пірамідаў і народаў броды…*
*Дзе ж Беларусі нашай высь і нізь?*
*Ды я не павалюся — так упруся,*
*каб Слова стала кронай Беларусі.*

* * *

*Рассунутыя дні. І я — ушыркі:*
*прастора — ад пляча і да пляча.*
*Не згасла абнадзейнасці свяча.*
*Гісторыя гнібела ад мяча,*
*а потым дакранałася скарынкі…*
*…Ляціць мой птах з надзеяй ў вачах:*
*трапечуцца — усе яго пярынкі.*
*Я берагу свой меч.*
*Вунь лыч падкапыча:*
*ахвоціцца на вольныя іскрынкі.*

* * *

*Крыжы?  Стаялі. Не было званіц*
*на лядах, расцяробах, раздарожжах…*
*Намуленыя працай агароджы*
*праходу не давалі да крыніц.*
*Намоленае сопкае святло*
*ад кожнага насельніка плыло.*
*Няма Крыжа… Каб не было заможжа, —*
*садзілі Ведзьмака на памяло.*

* * *

*Праўду я здабуду:*
*Дух мой — для работы.*
*Клянчыць я не буду:*
*— Дзе мае ільготы?*
*Хто працуе справа,*
*а хто злева вісне?*
*Вам дазвол і права:*
*дыхаць, верыць, мысліць.*
*Сам сябе прымушу*
*вылузацца з ціны.*
*…Ў нашым Іярдане*
*яшчэ будуць ксціны.*

* * *

*Мой Травень — схрон.*
*Упоравень высокіх крон,*
*дзе лета распасцёртыя абдымкі, —*
*складае вершы ён?*
*Ды не ! Сам дастае са скрынкі.*
*У Травеня я толькі паштальён.*

* * *

*Лам'ё ад весніц, ад садоў карчы.*
*Старыя хутары і сёння паляць.*
*А што пакінуў хутар мой? Ключы,*
*якімі адмыкаю сёння Памяць.*

**Пад кронай радаслоўнага дрэва**

*Вячку Целешу*

*Знікалі крыжакі з кіпучых вежаў…*
*І толькі з Вячкам зноў паўстаў пасад!*
*Натхняльніку крывіцкі рум належыў;*
*у Тэрветэ, у Сігулдзе цвіў сад.*

*О, з Вячаславам лёгка веча славіць*
*і з продкамі на гутаркі хадзіць.*
*Да скарбаў радаслоўя ён уставіць*
*кругляк —*
*і Неба скрозь Беларусь глядзіць.*

*Асветленыя Славікам аблічча*
*будзіцеляў і ваяроў зямлі.*
*З табою, draugs, мы новы дзень прыклічам,*
*каб латышы з балткрэвамі жылі*

*на Даўгаве-Дзвіне не як сатыры,*
*а як пялёстачкі твайго штрыха.*
*І хай ад Вячкі Целеша — у вырай*
*не вымкне краснасельская страха.*

*Ты з-пад яе айчыннікам адкрыўся,*
*Францішка, Янку з Янісам сустрэў,*
*Ларысе, Зосьцы верас абагрэў;*
*Максіма лік тваёй рукой спавіўся.*

*Жыццё ідзе ў падбег, а «Маю гонар!»*
*ты прамаўляеш, патрыёт, здаўна.*
*Трымціць душа!*
*А для гадоў разгону*
*ў цябе ёсць*
*радаслоўная струна!*

**3.09. 2013**

* * *

*Пераkaціўся дзень праз панадворак.*
*Яго віціна з лайбаю сплыла.*
*Вунь за жульвіцай я, калі мне сорак,*
*а, пасталелы, тут — ля памяла.*
*Пад сонца падліковы мой рахунак*
*памкнуўся — і на суку завіс.*
*На панадворку — лёсу сціплы клунак.*
*Свой яблык я пакуль што не дагрыз.*
*Задумаўся: з чаго пачну світанне,*
*што промнікам на дрэве запісаць?*
*Нямудры выбар: крыльцы запасаць,*
*на чуб Мацерыка пасласць вітанне.*

* * *

*Анёл-ахоўнік — праведнік-настаўнік.*
*Абараняе ён ад наслання*
*і ад нашэптаў сённяшніх і даўніх.*
*Калі ж пануе ў целе толькі страўнік, —*
*ён апускае крылы: ў руху звабнік…*
*І нада мною д'ябла даланя.*

* * *

*Не падганяй гадоў наплывы:*
*на ўсё свой час. І дзень імклівы*
*цябе агорне і ўзнясе.*
*Не ты адзін ля цёплай грывы:*
*імчым, шчаслівыя, мы ўсе.*
*Каб не было пустоты ў працы, —*
*не будзем у прагал вяртацца.*
*Прызванне брацтва: нараджацца*
*іскрынкамі ў жывой расе.*
*Прабудны дзень — каб не баяцца,*
*свабоднай нацыяй азваццa,*
*дзе мы — узнёслымі — усе!*

Раздзелы з аповесці



Іна СНАРСКАЯ

# Зачараваны скарб

Зоркі хістаюцца туды-сюды: то яны ўгары — на небе, то ўнізе — у вадзе, а я між імі стаю на падвясным мосце. Трохі страшна, бо ўпершыню наважылася перайсці мост з Запалоцця ў Полацк без бацькоў, але рашучасць надае смеласці. Запалоцце — ваколіца Полацка, ды яны нібы асобна, бо між двума берагамі, і каб з Запалоцця патрапіць у Полацак, трэба перайсці хуткую нараўлівую рэчачку Палату, прыток паўнаводнай Дзвіны... Калі я гляджу на нашую Палату, мне здаецца, што тата на адным беразе жыве, а матуля на іншым, такія яны непадобныя між сабой. Мама нарадзілася ў Сястронках, тата — у Варонічах, матулі — на поўнач, тату — на поўдзень. Так яны і цяпер жывуць: хоць і разам, а нібы кожны сам па сабе, хоць і блізка, ды на самой справе далёка, можа й далей за тыя сорак кіламетраў, што ад Сястронак да Вароніч....

***

Мая матуля добрая, але строгая, з ёй увесь час трэба ладзікам-ладзікам, слухацца трэба і не спрачацца. Яна ж працуе настаўніцай, звыкла да парадку, інакш вучні на галаву сядуць... Бацька лагаднейшы за маму, але ўспыльчывы, пакрыўдзіць яго дужа лёгка. Адыходзіць хутка, але калі раззлуецца, яго не пазнаць: бялее, як палатно, і біцца да мамы кідаецца... а потым у яго кроў з носу бяжыць. Да бойкі, дзякуй Богу, не даходзіць, бо з крывёю татавы лютасць і крыўда знікаюць. Ён кладзецца на канапу дагары тварам, а мама яму лёд з халадзільніка на пераносse прыкладае...

Калі тата з матуляй сварацца, яны на мяне ніякай увагі не звяртаюць, нібы мяне зусім няма, нібы я невідзімка. Чаго толькі тады ні раблю: па хаце лётаю, як куля, пласцінкі, тыя, што на 33 абароты, заводжу на 78, тады галасы ў спевакоў смешныя, пісклявыя, як у гномікаў. Скачу, танчу пад гэтыя спевы, смяюся, як шалёная... А на самой справе мне зусім не смешна, плакаць хочацца... Калі бацькі сварацца, я з паштовак на падлозе будую хаткі, а потым разбураю, раскідваю па ўсёй хаце. Можа, дзяды Марозы і Снягуркі супакояць маіх бацькоў, яны ж чараўнікі?! Аднойчы я такое прыдумала, такое... Парэзала маміны калготы і на галаву нацягнула: глядзіце, я Фантамас! Хацела бацькоў рассмяшыць, ды зноў нічога не выйшла... Калі мае бацькі сварацца, мне так сумна, што лепей бы я ў Полацк з Сястронак не прыязджала, ці паехала б да бабы Мані ў Варонічы... Ды хто мяне слухае...

***

Сёння ноччу бацькі сварацца ціхенька, каб мяне не разбудзіць, ды я ўсё роўна прачнулася. На ложак з вакна па́дае месячнае святло, сцены блішчаць срэбрам, ды мяне гэтая прыгажосць не радуе. Цераз прасвет пад дзвярыма ў бацькоўскую спальню прабіваецца штучнае святло ад начніка, і мне здаецца, што з той шчыліны да майго ложка паўзуць вужакі. Святло поўні для іх — нібы малако. Я гатовая ўцякаць, куды вочы глядзяць, хоць у Сястронкі, хоць у Варонічы, абы толькі некуды з дому... Успамінаю пра мост цераз Палату, бо ўчора абяцала сябрам перайсці яго туды-сюды і не спужацца. Паспрачалася з Галькай Заленскай і яе баратам Віталькам, што такое зраблю, праўда, у дзень, не сярод ночы, але што зробіш, калі я ўсё роўна прачнулася і не засну...

Мае сябрукі па Запалоццю называюць мяне «дзяроўня», а сябе лічаць гарадскімі. Яны размаўляюць па-руску, а я шпару на трасянцы, як усе ў Сястронках. Калі да бацькоў у Запалоцце прыязджаю, «русіць» у мяне ўсё роўна не выходзіць, так што гавару, як прывыкла... Галька з Віталькам абазвалі мяне «малой баязліўкай», калі даведаліся, што я на мост без дарослых яшчэ не хадзіла. Як такое можна сцярпець?! Пазаўчора баялася, учора баялася, а сёння пайду! Асмялела ад сваёй крыўды, злосць надае адвагі. Цяпер мне мора па калена, не тое што маленькая рэчка Палата...

***

І ўсё ж, калі па-шчырасці, мне падабаецца прыязджаць у горад, тут нават пахне не так, як у вёсцы. Можа таму, што ў Полацку шмат кветак і мятных пернікаў, якія я вельмі люблю. У Полацку возяць квас у жоўтых бочках, падобных да вагончыкаў, ёсць аўтаматы з газаванай вадой — за адну і тры капейкі. Мне падабаецца газіроўка за тры, бо яна салодкая, з сіропам... У суботу мы з татам ходзім у парк адпачынку катацца на каруселях. Я сядаю на шэрага ў яблыках коніка, а сама на ваўка пагдядаю, ён мне мілейшы, ды яго ўжо заняў тоўсты хлопчык у жоўтай панамцы. Давядзецца пачакаць, за другім заходам пакатаюся. У майго бацькі сёння добры настрой, ён жартуе і нічога для мяне не шкадуе... Але найбольш у Полацку мне падабаюцца цэрквы, яны такія велічныя, як караблі, асабліва Сафійскі сабор. Так і плыве, так і плыве... Яго нават у наша вакно відаць. Калі я была зусім маленькая, думала, што бачу Маскву.

— Мама, тата, там — Масква! — шчаслівая крычала я бацькам, мне было тры гады, толькі гаварыць навучылася...

Потым, калі падрасту, я зразумею, што Полацк для мяне нашмат лепшы за Маскву, бо родны, адзіны на ўсё жыццё...

...Калі мае бацькі сварацца, з мяне выходзіць радасць, тады я пра ўсё добрае, што ёсць у Полацку, забываюся. Мне страшна, што тата з мамай аднойчы развядуцца, як бацькі маёй сяброўкі Жанкі, і тады я застануся зусім адна...

***

Стаю на мосце, ён хістаецца туды-сюды, страшна, аж мароз




па скуры. Заўважаю, што выбегла з дому босая, у адной начной сарочцы. У жніўні ўжо ночы халодныя, дрыжу ад холаду ці са страху, але ж усё роўна перайду гэты мост...

Ну чаму дарослыя не жывуць дружна? У Галькі з Віталькам бацькі сварацца, і ў Зінкі, маёй сястронскай сяброўкі, таксама... Я б хацела ўсіх нашых бацькоў ноччу на гэты мост прывесці, каб яны на зоркі паглядзелі. Тут такая прыгажосць, што яны ўсе сказалі б «Ах!» і забыліся пра дурныя спрэчкі...

Тата мне расказваў, што святло ад зорак ідзе на Зямлю тысячы, а можа й мільёны гадоў. Бывае так, што зоркі ўжо даўно няма, а святло ад яе яшчэ ідзе, і мы яе бачым... Якімі мізэрнымі, проста камарынымі, выглядаюць нашы спрэчкі на фоне зорак, святло ад якіх ідзе няспынна, нават калі яны самі даўно пагаслі... Мая крыўда на бацькоў з гэтымі думкамі драбнее, аж пакуль не знікае зусім, нібы яе і не было. І цяпер мне ісці па мосце не страшна...

***

Іду між крыжоў, нібы сярод зорак, якія ўпалі на зямлю. Вось яны — драўляныя, металічныя і, нават, каменныя. Крыжы жывуць доўга, не тое што людзі. Вось каменны крыж урос у зямлю, зазямліўся карэннем. Ён такі стары, што дзе-нідзе зарос мохам, можа ўжо не адну сотню гадоў тут стаіць. Хто пад ім спачывае? Няма надмагілля, вянкоў і кветак, шыльдачкі з прозвішчам, гадамі нараджэння і смерці. Адзінокі каменны крыж нібы ходзіць між дрэваў і размаўляе з душамі... Як бы яму хацелася быць крыжыкам на шчаслівым вясельным ручніку, а не стаяць тут адзінока пад ветрам, дажджом і снегам. Ніхто не падыходзіць да каменнага крыжа, і толькі ідучы сцежкай да сваіх памерлых родных, калі-некалі чапляецца поглядам. Чужы крыж муляе родную памяць... Магчыма, і мой дзед Іосіф ляжыць недзе пад адзінокім невядомым крыжом, і халодна яму, і няўтульна. А можа, і крыжа няма...

Кранаюся крыжа рукой, а сэрцам прамаўляю: «Перадай прывітанне майму дзеду Ёсіпу, дзе б ён ні ляжаў. Скажы, што ўспамінаю яго, хоць і ніколі не бачыла...». Каменны крыж нешта адказвае, ды я не магу разабраць ніводнага слова. Вецер...

...Пад каржакаватым дубам спачываюць мае родныя — бацька, баба Маня, цётка Міля з дзядзькам Сцяпанам. Дуб укрывае месца пахавання зялёнымі шатамі, на галінах начуюць птушкі. Хочацца верыць, што памерлым тут не адзінока. Жалуды, лісце, старыя галінкі — жывая прысутнасць на халодным мармуры незваротнага хуткаплыннага часу...

***

Спачатку памерла мама, пасля — тата. У свае сямнаццаць гадоў брат Андрэй застаўся са старэнькай бабай Маняй у нашай кватэры на Марыненка, бо я на той час выйшла замуж і пераехала ў Палтаву. Агульнае гора нас з братам не аб'яднала, а развяло. Па брату няшчасце ўдарыла мацней: тата памёр на яго руках. Магчыма, пасля гэтага нешта сапсавалася ў яго свядомасці, зламалася, як пластмасавая лялька... А цяпер... нават на могілкі перастаў ездзіць... Мой родны, дарагі брат, мы старэем, але з кожным годам аддаляемся ўсё больш і больш. Ужо амаль не чуем адно аднаго...

...Цалую дарагія твары на помніках, стаўлю кветкі, кладу на надгробак цукеркі з пячэннем. Гэта для птушак. Няхай нясуць у свой выраі родным душам звестку, што іх памятаюць і любяць на зямлі.

— Тата, баба Маня, я была тут, я вас люблю...

Нешта трэснула над галавой. З суседняга дрэва ўспырхнула сарока. На бацькаў надгробак упала галінка з трыма жалудамі. Няўжо гэта ад яго падарунак? Ах, як тата неверагодна стракатаў сарокай! На жаль, яго здатнасць перадаваць галасы птушак засталася амаль нікім не заўважаная... Толькі не мной!

— Тата, прашу, пакажы мне сароку! — крычу цераз прорву часу і пазнаю свой дзіцячы голас. Як гэта ў бацькі непаўторна, таленавіта выходзіла! Яго сароку можна было зблытаць з сапраўднай! Чаму ж цяпер, на могілках, стракатуха-сарока зляцела з дуба моўчкі? Няўжо радасная бацькава душа ў сваім засвецці забылася птушыную мову?

...У майго бацькі поўны мех розных легенд і казак, аж дух захоплівае, калі ён нешта расказвае. Усе гэтыя за́мкі і зачараваныя скарбы, якія праваліліся пад зямлю, малюю ў сваім уяўленні, веру, што так яно і было на самой справе, у гэтых мясцінах, на роднай зямлі...

— Бачыш, Іначка, вунь тую гару за апошнімі хатамі перад самым лесам? Раней там стаяла царква, во, дык яна пад зямлю правалілася. Калі туды пайсці апоўначы і прыкласці вуха да зямлі, то можна пачуць, як галосяць званы...

— Галосяць?! Званы?! — мне цікава і жахліва адначасова. — А там моляцца па-польску, як баба Маня, ці па-руску, як баба Мура?

Тата не ведае, што адказаць на гэткае пытанне, і ніхто не ведае... Мне вельмі хочацца пачуць тыя званы, а яшчэ больш знайсці зачараваныя скарбы. Хочацца, каб мы, нарэшце, разбагацелі, каб не лічылі кожную капейку, каб бацька купіў сабе надзіманы човен, а бабуля перакрыла хату новым шыферам, каб у зліву са столі не капала, і мы не падстаўлялі міскі і тазікі...

— Зачараваны скарб проста так нікому не даецца, — працягвае тата. — Як толькі рыдлёўка ўдарыць па металічнай крышцы, скарб закопваецца глыбей у зямлю. Не дастаць... Толькі дзіцячаму чыстаму сэрцу адкрываюцца ўсе скарбы...

— Татачка, а калі мы ўжо пойдзем шукаць той скарб? Калі?!

Зноў і зноў я заводжу будзільнік на дванаццаць ночы, ды ён чамусьці не звоніць, і я бачу тыя скарбы толькі ў снах...

***

Гляджу з маста на ваду, нібы зачараваную княжну шукаю, ды бачу толькі залатыя смужкі на вадзе, толькі свае ўспаміны... Ушацка яшчэ па-летняму чароўная, вада чыстая, здаецца сонечныя праменьчыкі дастаюць да самага дна. Старадаўняя рачулка зберагла цяплынь душы не зважаючы на блізкія халады... Пераходжу мост, паварочваю на Кукшынава. З горачкі на горачку, з горачкі на горачку... Неба такое сіняе, што нагадвае мора... нібы плыву небам на чараўным плыце. Дзе яны, берагі?.. Ды марыць асабліва няма калі, трэба спяшацца, каб не спазніцца на зваротны аўтобус. Хочацца спакойна пастаяць каля бабулінай хаты... месца, дзе яна некалі была. Тут цяпер усё зарасло травой і кустамі. Прывязаная да суседская плоту, пасецца каза. Вось і ўсё. Цішыня...

Па раскідзістай ігрушы пазнаю месца, дзе некалі быў бабулін двор і сад. Вось і яблыня, якая перажыла і бабулю, і тату. Груша і яблыня памятаюць мяне тою бяляваю дзяўчынкаю, якая марыла знайсці зачараваны скарб. Прывітаннечка, мае дарагія!..

Бабуліна хата ўжо некалькі гадоў ляжыць у зямлі. Яе зснулі ў яму, закапалі. Куды падзеліся

бабуліны ручнікі, карціны, партрэты нашых блізкіх і далёкіх родзічаў? Няўжо ніхто не забраў памятныя рэчы, не пашкадаваў, не прытуліў? Андрэю і яго сям'і хата выявілася непатрэбнаю. Адрэзаў брат мінулае, як нешта цяжкое, хваравлівае… Хавалі бабуліну хату, а я нават нічога пра гэта не ведала. Прыехала неяк летам, амаль жа кожны год бываю на Радзіме, і пабачыла… пустку. Нават не развіталася.

Прытулілася да шурпатай грушы спіной, і нібы пачула галасы маіх родных. Вось яны, усе чыста, у маёй памяці. Груша ўжо такая старэзная, што не пладаносіць, а яблыня нарадзіла, зберагла свае познія яблыкі. Няўжо адчула, што сёлета прыеду? Жоўтыя, духмяныя яблыкі ўсцілаюць зямлю коўдрай, ды балюча па ёй ступаць… Нахілілася, сабрала, колькі змагла. Яблыкі ад маіх родных — самыя смачныя…

А развітанне з Варонічамі было цалкам неспадзяваным. Проста нейкае дзіва! Суседскі хлопчык на месцы, дзе раней была наша хата, знайшоў некалькі манетак 34-га і 37-га гадоў. Мабыць, яшчэ тыя, што мой дзед Іосіф падкладаў пад вуглы зрубу, калі будавалі хату. Замаўлялі на шчасце, на доўгія гады.

У 1934-м нарадзіўся мой бацька. У 1937-м расстралялі дзеда. Цяпер гэтыя манеткі са мной. Берагу…

— А часам, Іначка, зачараваны скарб сам выходзіць да людзей. Гэта бывае дужа рэдка, але ж бывае…

Я нібы чую бацькавы словы. І веру, і веру…

***

Калі я ўпершыню адчула прысутнасць Бога ў сваім жыцці? Можа тады, калі босая бегла па сястронскаму бальшаку, даўно, яшчэ да асфальту, і пыл курыў пад нагамі, падымаўся вышэй, аж да плеч, і кожная пылінка свяцілася, як маленькае сонца, а на душы было так прывольна й весела, што не думалася пра шчасце, а проста прарывалася з глыбіняў: «Слава Богу! Слава Богу!». Адкуль з'явіліся тыя словы, я не ведала. Можа, іх раней вымаўляла бабуля? Але не, яны гучалі менавіта маім голасам, гэта была я і не я, нешта большае за мяне… Радасць ува мне і была Богам…

Пасля было некалькі выпадкаў, калі захоплівала дух ад прыгажосці краявіда або нейкай кветкі — ландыша, сон-травы, званочка, рамонка. Ад дотыку да тых чараў мне чамусьці хацелася плакаць, на вочы набягалі слёзы, і тады свет выглядаў яшчэ прыгажэйшым, нібы быў прамыты першароднай чысцінёй. Я думала: «Вось Бог, Ён у красе, якую бачу…».

Калі хварэла бабуля, я ўжо ўмела маліцца. Прыціскалася ілбом да прахалоднага вакна і паўтарала словы: «Божанька, добры, міласэрны, абаронец усіх дзяцей і ўсіх старэнькіх, зрабі так, каб мая баба Мура не памёрла, а паправілася, а я Табе за гэта абяцаю не падманваць, слухацца дарослых і не хваліцца…». Я думала, што Бог — гэта міласэрднасць, Ён набліжаецца, калі некага шкадуеш усім сэрцам… У дзяцінстве Бог блізка, нават калі ты не заўсёды выконваеш абяцанні… А потым… потым мы аддаляемся ад сваёй шчырасці ў часе і прасторы, і ўсё больш не выконваем свае абяцанні. Ды ўсё роўна Ён з намі, бо шкадуе і даруе…

***

У гэты дзень я прачнулася рана, каб нават расу абагнаць. Трэба ж пабачыць, як сонейка на золку грае. Бабуля ўжо вярнулася з царквы. Пасачкі ў яе кошыку, аж свецяцца, аж зіхцяць ад радасці, так і хочацца пакаштаваць. Мы разам пяклі іх учора, і яйкі лушпіннем цыбулі фарбавалі. Ну, па-праўдзе, гэта ўсё бабуля рабіла, а я толькі дапамагала — даставала з-за печы аж залатую цыбулю, лушчыла яе, пасачкі на вышыты ручнічок ставіла. Ой, яны такія гарачыя былі, што пёкам далоні пяклі, і дыхалі… дыхалі, як жывыя. Я і цяпер адчуваю гэтую цеплыню, нібы ў далонях б'ецца нечае сэрца…

Учора я так прасілася з бабуляй да царквы, так прасілася… Але яна мяне не ўзяла, бо йшла на ўсю ноч. Сказала, што я яшчэ малая і ноч у царкве не вытрымаю.

— Пабудзь дома з дзядулем, добра паспі, а я раненька вярнуся і пакажу табе, як сонца грае…

Усю ноч мне сніліся, як па небе лётаюць цэрквы, паскі і птушкі, зіхацяць залатыя купалы, і крылы ў птушак таксама залатыя. А паскі, нібы храмы, дзе Бог жыве, таму яны дыхаюць цеплынёй і жывыя…

— Бабуля, пойдзем хутчэй на сонца глядзець! — хапаю бабулю за руку і цягну на вуліцу. Але яна не спяшаецца: спачатку падыходзіць да абраза Божай Маці, які вісіць у кутку на кухні, хрысціцца, шэпча малітвы. І я станаўлюся побач, задзіраю галаву, малюся Богу, як сама ўмею…

Хрыстос на абразе Казанскай Божай Маці яшчэ зусім немаўлятка, але ўсё бачыць і малітву кожнага з нас чуе. А Маці Божая — прыгожая і дужа сумная. Яна свайго Сына да сэрца прытуляе, і так ёй хочацца, каб маленькі Ісус быў шчаслівы… Ці ведае яна, як потым усё абернецца? Мне бабуля расказвала, што потым, калі Божанька вырасце, яму здрадзяць вучні, а людзі, якія яго раней праслаўлялі, захочуць, каб Ён памёр на крыжы… А Немаўлятка на іконе ўжо ведае пра гэты свой лёс, і Маці Божая ведае, таму такая сумная… Але сёння асаблівы дзень — Божанька ўваскрос! Гэта значыць, што смерці няма, і ўсе мы будзем жыць доўга-доўга. Гэта як дарога, якая ідзе за небакрай, і няма ёй канца…

Ікона Казанскай Божай Маці належала бацькам маёй бабулі, Данілу і Вользе, іх раскулачылі, саслалі ў Сібір, і болей пра іх бабуля нічога не ведае… Ды гэта не значыць, што дарога маіх прадзедаў абарвалася. Проста яны пайшлі за небакрай, а бабуля засталася, нарадзіла маму, дзядзьку Івана і дзядзьку Міхася, а яны — усіх нас, сясцёр і брата. І калі наша дарога таксама зойдзе за гарызонт, нашы дзеці і ўнукі будуць вось так стаяць і глядзець удалеч, думаць, што канца краю гэтай дарозе няма…

У вайну абраз Казанскай Божай Маці ўратаваў бабу Муру і маму. Калі яны хаваліся ад фашыстаў у лесе і пачынаўся абстрэл, бабуля садзіла на калені малую маму і захінала абразом, як чароўным шчытом. Аднойчы яны сядзелі ў акопе, і снарад разарваўся зусім блізка. Іх штурханула паветранай хваляй, і па абразу дзінькнуў асколак — адзін, другі… Паглядзелі пасля і пабачылі, што са зваротнага боку, які быў падшыты нейкай металічнай пласцінай, — дзве выбоіны. Так бы і абарвалася іхняе жыццё, калі б не абраз. Божанька і Божая Маці дапамаглі выжыць усяму нашаму роду…

…Калі памерла мая бабуля, я ў Палтаве адчула, што абраз кліча мяне. Забрала яго з пустой асірацелай хаты ў Сястронках, павесіла на сцяну ўжо ў сваім доме. Калі зірнула на Святыя Лікі, у першы момант нават галава закружылася: цёмныя, нібы прытрушаныя пылам часу, Ісус і Багародзіца выпраменьвалі цяпло…

***

У нашай сям'і было аж два Іваны — дзядуля і дзядзька, дзядзя Ваня, як я яго называла. Памятаю яго маладым… Дзядзя Ваня нечым нагадваў мядзведзіка — добры, нешматслоўны, як і дзядуля, трохі нязграбны. У дзядзькі былі пшанічнага колеру густыя валасы і вялікая галава, нават шапку патрэбнага памеру не проста было купіць. «Гэта таму, што дзядзя Ваня вельмі разумны, бо ведае не толькі нашу мову, а й звярыную. Ён працуе веты… вета.. словам, доктарам Айбалітам, во!» Гэта я маленькая кажу, як бы за кадрам. У маёй ранішняй свядомасці казкі спляталіся з рэчаіснасцю, і я ўяўляла свайго дзядзьку то Іванам — каровіным сынам, то Іванам Царэвічам. Каб стаць Іванам Царэвічам, дзядзьку патрэбна было пралезці праз вуха нашай каровы Малышкі. Гэта, зразумела ж, адбывалася ноччу, калі ўсе спалі. Аднойчы я прачнулася сярод ночы і пабачыла, што ў хляве гарыць святло. Хацелася пайсці паглядзець, што там адбываецца, можа б тады і пабачыла тое пераўтварэнне… Але ёсць рэчы, якія нельга пабачыць, падглядзець, бо знікнуць чары… А дзіва такі адбылося — у Малышкі нарадзілася цялё. Мой дзядзя Ваня палову ночы нашай кароўцы дапамагаў. Я не адыходзіла ад цялятка некалькі дзён, паіла соскай з бутэлькі, як маленькага, бо ў Малышкі спачатку зусім не было малака. «Гэта ад стрэсу, — патлумачыў дзядзька Іван, — бо першыя роды». Я не ведала, што такое стрэс, але гладзіла цялё па вялікай цёплай галаве з белай зорачкай на ілбе і думала: «Дык вось хто каровін сын!». Казка перацякала ў жыццё, якое было не менш цікавым…

***

Хадзіць у лазню без дарослых я баюся. А раптам Лазнік украдзе? У яго шурпатыя далоні з барадаўкамі на пальцах, сам увесь зарослы поўсцю, як мядзведзь, і валасы даўгія, да самай зямлі. Калі мы з матуляй мыемся ў лазні, я час ад часу пазіраю ў маленькае вакенца на вуліцу. Мне трохі вусцішна, а што, калі Лазніка пабачу? Пакуль мыемся, ён на прызбе сядзіць і на чараціной жалейцы грае. Толькі мы не чуем, бо нашы вушы закладзены парай, як ватай.

— Ой, мама, зноў мне ў вочы мыла залезла, ой, пячэ! Пацалуй хутчэй! — заву маму, каб не думаць пра Лазніка. Матуля цалуе мае вачаняты, і на душы становіцца весялей. Яна мые мае валасы сунічным мылам, такім пахкім, што адразу лета ўспамінаю, але пена ўжо напраўду патрапіла ў вочы, хоць я іх сумленна заплюшчвала.

— Ой, пячэ, ой, шчыпле!.. — крычу, і мама зноў цалуе мае вочы. Яна палівае мае валасы з вялікай конаўкі, і на драўляныя дошкі лазні ліецца духмяная вада. Мне ўяўляецца, што з гэтай вады на мокрай падлозе вырастаюць блакітныя кветкі — зязюльчыны слёзкі, менавіта такія, што растуць каля нашага плоту па дарозе ў лес. І вось падлога лазні — ужо не падлога, а лугавіна, а драўляныя сцены — не сцены, а жывыя дрэвы. У дрэваў вырастаюць новыя галінкі, на галінках з'яўляюцца маладыя лісцікі, па іх поўзаюць божыя кароўкі…

— Інка, ты збіраешся сёння мыцца ці не? — строгі голас матулі выхоплівае мяне з зялёных прахалодных мрояў і вяртае ў гарачую лазню. Моцныя маміны рукі падхопліваюць мяне пад пахі і садзяць на цёплы, вільготны палок. Сяджу на палку, матляю лыткамі, пакуль матуля мыецца, а потым, нібы ўспомніўшы нешта важнае, ускокваю, станаўлюся на поўны рост.

— Глядзі, мама, на колькі я за мінулы тыдзень падрасла — ужо да столі рукой дакранаюся!

…У лазню мы ходзім кожную суботу і гэта — маленькае свята для ўсёй нашай сям'і. Днём мужчыны носяць у лазню ваду, паляць печку-каменку. Вады трэба нагрэць шмат, каб на ўсіх хапіла — дзядулю, дзядзьку Міхася і дзядзьку Івана, бабулю, маму і мяне, русявую пурхаўку. Пурхаўкай мяне называе мама, бо я пурхаю, як пташка — вось я тут, а вось мяне ўжо няма, ніхто не пабачыць і не знойдзе… Мужчыны і жанчыны мыюцца асобна, па чарзе. Трэба ўсім паспець памыцца да заходу сонца, бо калі сонца зойдзе, у лазні чэрці мыюцца. Так гаворыць бабуля, але сама ніколі тых чарцей не бачыла. І яшчэ мне дзіўна, чаму неахайнага чалавека называюць брудным, як чорт, калі гэтыя рагацікі так любяць мыцца?..

Ляжу на цёплым палку на жываце, а матуля бярозавым венікам сцёбае мяне па спіне, нажанятах, па гладзенькай далікатнай дупцы — трохі мацней, каб добра адчула бярозавую пяшчоту. Мне не балюча, толькі трохі ласкотна, я смяюся, брыкаюся нагамі. Мама дадае пары, выплюхвае куфаль вады на гарачае каменне, яно сычыць, як вужака, і я проста захлынаюся ад гарачыні, глытаю пар і не магу праглынуць, моцна закашліваюся. Мама пужаецца, падхоплівае мяне на рукі, і, загарнуўшы ў белую прасціну, выносіць у прылазнік. Ох, нарэшце жаданая прахалода… Дыхаецца лёгка, нібыта толькі што на свет нарадзілася. Я абдымаю маму за шыю і раптам пытаю:

— Мама, а калі я нарадзілася, ты моцна радавалася?

— Канечне, моцна. Я вельмі цябе чакала, — адказвае мама, і яе прыгожыя карыя вочы становяцца вільготнымі.

— Чаму ты плачаш, мама, чаму? — Вяду пальчыкамі па дужках яе прыгожых броваў, адкідваю прыліплыя да смуглявага твару цёмныя валасы…

— Я не плачу, дачушка, проста мыла ў вочы трапіла…

Цалую матуліны вочы, як яна цалавала раней мае, але мыльнай вады на вуснах не адчуваю. Вочы салёныя на смак, і я разумею, што гэта напраўду слёзы. Няўжо мама плача ад таго, што ёй балюча ўспамінаць маё нараджэнне?..

— Я плачу ад радасці, што ты, дачушка, вырасла такой вялікай, што, стоячы на палку, можаш дакрануцца да самай столі…

Праз некалькі гадоў, калі я падрасла і пайшла ў школу, мама расказала, што, аказваецца, я магла і не нарадзіцца, што дактары, праз нейкую сур'ёзную хваробу, забаранілі ёй мець дзяцей, што я нарадзілася хваравітай і ў два гады перанесла запаленне лёгкіх… Таму матуля заўсёды хвалявалася за маё здароўе і жыццё…

…Калі б я магла сёння хоць на імгненне перанесціся ў лазню свайго дзяцінства, якое б гэта было шчасце!… Выціраю далонькай маленькае запацелае вакенца і… раптам бачу зарослы кудлатай поўсцю твар Лазніка. «Не заплюшчвай вочы, Іначка, не пужайся, проста падміргні яму, нібы свайму добраму знаёмаму», — я нібы чую ўпэўнены і зацішны матулін голас…

Смешны, зусім не страшны Лазнік усміхаецца мне ў адказ.



Фота Сержука Сыса



Фота www.depositphotos.com

# Памяць маёй эпохі



Веслаў КАЗАНЕЦКІ
(1939–1989)

## На суд праўды

*Памяць — гэта мучыцель,*
*трымае старонкі былых газет,*
*і словы з прамоваў жывуць,*
*пярэчаць сабе наўзаем,*
*і стосы кніг спапялёных*
*знаходзяць у ёй паратунак.*
*Памяць маёй эпохі —*
*палітычны злачынца.*
*Трымае дзяржаўцаў на слове,*
*не дазваляе аддаць*
*кесарава кесару.*
*Слова «не» — патыхае здрадай,*
*у слове «так» — схаваная*
*згода на ўсё.*
*Маўчанне —*
*прытулак для прыбылых*
*з краіны спадлелых слоў і тостаў,*
*як падробныя грошы.*
*Усё — рулетка, стаўка ў якой — жыццё.*
*Таму малюся да Праўды,*
*каб не дазволіла мне*
*адрачыся яе*
*ад страху ў часе іспыту,*
*калі дабярэцца да мяне*
*з апошніх сіл*
*і будзе шукаць аховы-схову*
*ад пагоні.*

## А ты замалы

*Аддаляешся ад Анёлаў у цемру,*
*што адсвечвае лакам на лімузінах.*
*І бярэш тую маску.*
*Азоранае неба бачыш*
*толькі ў лужынах вуліц.*
*Шукаеш кахання не там,*
*дзе спрабаваў яго забіць:*
*у вачах жанчыны,*
*што страціла надзею*
*і прамаўляе да тваіх сыноў:*
*«Мае любыя хлопцы…».*
*А яны растуць,*
*як плесня,*
*як плесня…*
*Анёлы ўсё бачаць…*
*А ты яшчэ замалы,*
*каб паверыць*
*ці страціць веру.*

***

*Галубы гарадскія*
*не прыносяць навін.*
*І прагульваюцца з асцярогай.*
*Ад людзей панабраліся*
*боязі й страху.*
*Уцякаюць ажно*
*па-над дахі дамоў,*
*але там ні крышынкі*
*не маюць хлеба.*
*І толькі пасмы дыму*
*чапляюцца*
*за іх дзюбы.*
*І не да разблытвання вузлоў*
*для маладое людское пароды.*
*За стол бяседны сядаюць лёкаі,*
*прыслужнікі й віжы.*
*Памерлых, як лісце асенняе,*
*змятае са сцежак вецер.*
*Маўчанне вітае над местам.*
*А за бяседным сталом —*
*тосты, танцы, смех.*

## Маёй роднай мове

*Маю родную мову*
*літарка да літаркі*
*прыбіваюць да транспарантаў.*

*Літара «І -і», як палец*
*з кропкай адарванага пазногця.*
*Літара «Б–В» — як профіль зняважанага твару.*
*Літара «У–Ū» — абезгалоўленыя ногі.*

*Літара да літары —*
*паўтараецца*
*ўкрыжаванне.*

*Працуюць спакойна:*
*па колькі цвікоў у губах,*
*удар малатком і —*
*перакур.*

*Адсочваюць здзек гэты*
*хціівыя вочы Пілата.*

*А суд паэзіі маўчыць.*
*Ды жыццё — яно шчодрае,*
*мая любая.*
*Нам пакінула смех праз слёзы.*

## Момант

*Раскіданыя па падлозе газеты —*
*След крылатых*
*драпежнікаў-птахаў,*
*Што мкнулі праз твой пакой.*

*Ці не чарада арлоў*
*вярталася ў родны край*
*Або згаладалых ястрабаў хмара?*

*Калі ж даладуеш газеты,*
*Наткнешся на птушаня.*

*Пакінулі птахі яго,*
*Каб прамовіла да цябе*
*На мове тваёй.*

*Калі ж птушаня будзе мёртвае…*
*Ты — спазніўся.*

## За шторамі вокнаў

*Мая эпоха выкінула мяне з краю паэзіі. Прывяла пад канвоем на могільнік слоў, каб не забываў, што пасярод людзей і словы таксама смертныя.*
*Іду паміж магіл. Дзе-нідзе кволае святло трымаецца да позняй ночы. За ваконнымі шторамі слова яшчэ спрабуе ўваскрасіц-ца. Схіляецца да разгорнутых кніг і шукае там сябе.*
*Магільшчыкі слоў шнуруюць па чатырох, па пяцёх. Страляюць па яшчэ асветленых вокнах.*
*Калі ж замаўкаюць праклёны і стрэлы, і смех далакопаў, — падбіраю з зямлі аскепкі шкла*
*і штукую*
*з іх*
*вітражы.*

## Заплакаў я, пане Адаме

*Замовіў малітву тваёй Марылі.*
*І перад магілай у Беняконях*
*стаяў, сумотны, нямала часу*
*і ўсё ўглядаўся ў выяву крыжа.*
*На кветкі свежыя на магіле —*
*жанчына паклала іх*
*сталага веку,*
*у шэрай хусціне,*
*не новай сукенцы.*
*А потым, пане Адаме,*
*я доўга глядзеў*
*на парэшткі касцёла,*
*стаяў і глядзеў*
*на астовы святыні —*
*твая там малілася шчыра*
*Марыля.*
*Ды здзерцы святыняў*
*не згледзелі звона*
*на вежы высокай.*
*А звон той маўчаў.*
*Я думаў пра Польшчу,*
*што ўзнесла касцёл той,*
*І пра Літву, Айчыну тваю.*
*Нявернікі гвалцілі*
*нашу зямлю,*
*Каменне кідалі ў выявы святых;*
*Няма алтароў, толькі шрамы*
*На сценах муроў.*
*…………………………*
*Апёрся чалом на халодную цэглу сцяны*
*Паабок ад замкнёнай брамы святыні.*
*…………………………*
*Заплакаў я, пане Адаме.*

***

*Не гаворым больш пра Бога.*
*Правяраем купоны таталізатара.*
*Просім нашых анёлаў-ахоўнікаў*
*пра істотны выйгрыш.*
*А насамрэч верым*
*толькі існым аўто,*
*якія і ёсць анёлы нашага веку.*
*Іх дух мацуецца*
*сілай механічных коней,*
*пераносіць нас*
*з месца на месца*
*і лічыць кіламетры*
*як дробныя*
*грахі*
*на дарозе.*

***

*Шукаю свайго месца ў чарзе,*
*пачатак якой недзе за даляглядам.*
*Людзі стаяць самотна,*
*размовы абмяжоўваюцца*
*развагамі пра надвор'е.*
*Чакаю заходу сонца.*
*Пад покрывам цемры*
*праслізну ў чаргу*
*на два чалавекі бліжэй,*
*чым стаяў стагоддзі.*

***

*Вялікая статыстыка*
*месціць маё цела*
*ў агульнай масе матэрыі.*
*Мая адсутнасць*
*будзе зведзена да нуля.*
*Калі б зрушыў*
*гэтага нуля з месца,*
*упадабаўся б Сізіфу.*

## З'яднаныя навечна: дзень, горад і маё цела

*Мая смяротнасць*
*падаецца мне ласкай,*
*калі паперкі з прамовамі*
*сыплюцца зверху.*
*Хацеў бы пражыць свае гады*
*ў любові і праўдзе.*
*Не смейцеся!*
*Хацеў бы*
*паставіць дом*
*з чулых учынкаў.*
*Зімой саграваць яго дабрынёю,*
*а ўлетку зацяняць крыламі*
*нябесных птахаў.*
*Жыццё на каленях — не жыццё.*
*Можа, з часам, вернецца любоў*
*і ўсё будзе цяжэйшае,*
*чым раней,*
*але толькі яна ведае*
*пра існасць чалавека.*

## Стаяць насупроць

*Стаяць насупроць:*
*Малпа і голая (чыстая) Праўда.*
*Голая Малпа замардавала чалавека.*
*Б'е Праўду*
*Скрываўленай даланёю ў твар.*
*І крычыць:*
*«Пасаромся, голая Праўда,*
*твая шчака закрывавілася.*
*Пасаромся сваёй галізны».*
*Глядзіць на голую Праўду,*
*смяецца і кпіць.*
*«Чаго маўчыш, Праўда? —*
*запытвае Бог справядлівы. —*
*Аднойчы я ўжо за цябе памёр.*
*Ці ж баялася стрэлаў у патыліцу?»*
*Голая Малпа аздобіла*
*адну сваю руку пярсцёнкам*
*з брыльянтамі,*
*другую ўсунула ў брацкую магілу.*
*І крычыць: «Глядзі, Праўда!*
*Гэта не людскія парэшткі,*
*гэта толькі белыя плямы».*
*Голая Малпа*
*спрабуе забіць Праўду.*
*Але яе ўдары гінуць*
*у празрыстым нутры Праўды,*
*як у бермудскім трохкутніку.*
*Голая Малпа*
*шукае Праўды менш чыстай.*
*Прагнула б апрануць яе*
*ў бліскучы лакейскі фрак.*
*Спрабуе падкупіць Праўду.*
*Моры і кантыненты*
*ператварае ў гару банкнотаў.*
*Чырвонае золата*
*рассыпае перад Праўдай.*
*«Гэта толькі пытанне цаны», —*
*пацяшаецца голая Малпа*
*і памнажае срэбнікі.*

**Пераклад з польскай Міколы Аляхновіча**

# Развагі на вясковай лаўцы



Васіль ГІГЕВІЧ

## Улада

Ранішняе каляровае сонца, неба — нерукатворны цуд, і на іх, як і на агонь, можна глядзець бясконца. Адчуваеш малітоўную сціпласць у бязмерным прыгажосці.

Але так адчуваеш сябе раніцай, а днём у людным горадзе, на рабоце святочнасць разліваецца, а то і знікае зусім, душа поўніцца клопатамі, машынамі, абавязкамі, — нечым дробязным, побытавым, без чаго не абысціся.

І тады ўзыход сонца, аблокі над галавою ды і сама зямля становяцца звыклымі, як звыклым стае ў лесе глыток паветра. Новыя пачуцці і жаданні становяцца важней за каляровыя аблокі, за птушак, што рыбамі снуюць над галавой.

Гэты дзіўны перакос мыслення, незаўважна і таямніча, праяўляецца ў пачуцці Улады, калі чалавеку думаецца, што ён уладарыць не толькі лёсам бліжніх, але і небам, птушкамі, дажджамі і туманамі, усёй зямлёю…

Маё, маё…

Чалавек у сквапнасці не ведае межаў.

Рабы, жывыя наложніцы, якіх клалі ў магілы Уладароў, золата, коней, тэракотавыя арміі — усё чалавек хоча забраць з сабою.

Кажуць, калі Ельцын стаў кіраўніком краіны, у кабінеце, раскінуўшы рукі над картай Расіі, ён выдыхнуў: «Маё»…

Магчыма, гэта чарговая народная байка, але яна перадае сутнасць таямнічасці Улады не толькі магутных імператараў, дыктатараў, фюрэраў усіх масцей, але і кожнага з нас.

Улада прапітвае нас з маленства, з першага глытка паветра. І гэтая Улада іншымі словамі называецца прагаю жыцця. Не начальства, не фюрэры, не палітыкі, а прага жыцця змушаюць нас шаптаць «мая жонка, мой муж, мае дзеці, мая кватэра, мая машына, мая пасада, мае грошы»…

Пачуццё Улады аплятае нас ніткаю павуціння, яно складае Слодыч існавання.

Мы сарамліва хаваем яе ў душы – калі чарговы раз апладзіруем фюрэру, калі ён з трыбуны паблажліва махае нам рукою і дорыць аскалепкі Улады: пасады, званні, грошы… Мы па-быдлячы апраўдваем сябе, што не мы калечым, сільнічаем у аўтазаках нявінных дзяўчынак і маладых хлопцаў, не мы, а яна, Улада, камандзірствуе намі, а мы — нявінныя суддзі ў мантыях і паслухмяныя служкі яе. (Вобраз калектыўнага безаблічнага «мы» паказаны ў фантастычным рамане Яўгена Замяціна «Мы», які быў надрукаваны 100 гадоў таму.)

У салодкім і грэшным павуцінні Улады мы забываем пра ранішняе сонца, пра неба, пра росныя туманы над ціхімі рачулкамі.

І не ведаем, як вырвацца з гэтай павуцінністасці, бо нават у каханкі, у блізкіх інтымных пацалунках са здзіўленнем усведамляем, што поўнага яднання не адбываецца, мы аддзелены адно ад аднаго таямнічым загадкавым «Маё».

Таямнічасць Улады — у Сістэме.

Сістэма належыць не чалавеку, не Уладару дзяржавы, імперыі, арміі, Сістэма — больш магутная і загадкавая сіла, схаваная ў прыродзе чалавечай.

Мо і пагэтаму людзі гаварылі ды і цяпер гавораць, што Улада даецца ад Бога. Магчыма з гэтай жа прычыны Уладары (каралі, фюрэры, дыктатары, кіраўнікі мільённых армій), імкнучыся надаць сабе незямную сілу над людзьмі, аб'яўляюць сябе намеснікамі Бога, чапляюць на галавы кароны, садзяцца ў пазалочаныя крэслы, бяруць у рукі жэзлы, апранаюць мантыі, акружаюць сябе браніраванымі лімузінамі, безліччу ахоўнікаў і прыслужнікаў.

Адкуль Улада сыходзіць?

Дзе карані яе жывучасці?

Чаму яна гэтак неабходная людзям?

Ёсць безліч тлумачэнняў Улады, яе законнасці і нават неабходнасці для чалавека, чалавецтва і цывілізацыі.

Думаецца пра калектыўны розум, пра наасферу, пра цыклы сонечнай актыўнасці, пра пасіянарнасць, пра Боскасць… Урэшце змушаны пагадзіцца, што розумам нельга растлумачыць Уладу адным ці двума сказамі.

Як і нельга розумам растлумачыць жыццё.

Найбольш вобразнае параўнанне Сістэмы з Уладаю — саранча. Канечне, гэта грубае параўнанне, можна зрабіць іншыя параўнанні: пчол, шэршняў…

Як і саранча, Сістэма зменлівая ў часе, як і саранча, Сістэма з часам набывае новыя якасці, мяняючыся фізічна, Сістэма фарміруецца ў групы, арміі, дзяржавы.

Гэтак жа, як і ціхія конікі нечакана ператвараюцца ў крылатых пражорлівых насякомых, гэтак жа цэлыя народы нечакана з міралюбівага насельніцтва ператвараюцца ў арганізаваную Сістэму. І вось, стаўшы на крыло, яны плывуць у паветры мангольскімі ордамі…

І гэтак паўтараецца з веку ў век.

Міралюбівая, прыстойная, разумная Германія за некалькі гадоў таксама нечакана падымаецца на крыло і зацямняе Еўрапейскі кантынент…

З'яўляюцца крыжастыя танкі, самалёты, грукацяць па асфальце абцасы шчаслівых у нязведанні свайго будучага салдатаў. Паляцца разумныя кнігі, будуюцца крэматорыі.

Што гэта? Калектыўнае вар'яцтва?

Выпраўляючыся на чарговую бойню, людзі радуюцца, спяваюць песні, пускаюцца ў скокі…

Сістэма ўступае ў дзеянні, і чалавек ператвараецца ў частку Сістэмы.

Людзі мяняюцца эмацыянальна і духоўна.

Прыклады — уся цывілізацыя, ад паганскіх Багоў, ад Рымскіх кагорт да нашых дзён.

Структуры Сістэмы падобныя, як кроплі вады: жорсткасць да чалавека, канцлагеры і зэкі, салдаты ва ўніформе, істэрычныя мітынгі і заклікі.

Чалавек у Сістэме губляе сваю адметнасць, эмацыйны свет абмяжоўваецца лозунгамі «Хайль», «Слава». Знікаюць культура, мастацтва, музыка.

Узнікаюць лозунгі: «Няма чалавека, і няма праблемы…»

Гэты лозунг, дарэчы, актуальны для многіх і сёння, калі Уладары Сістэмы плануюць скараціць чыпамі і вірусамі чалавецтва з 7 мільярдаў да 500 мільёнаў.

Сістэма, якой бы магутнай не была і не ёсць сёння, сама сябе паядае…

Духоўны свет чалавека, свет нябачны і таямнічы, поўны загадак. І адна з іх — любоў…

У нас, беларусаў, паняцце любові і кахання розныя. Калі каханне асацыіруецца з чалавекам, з яго інтымнасцю, то любоў — паняцце ўсеабдымнае, шматмернае. Любоў пранізвае ўсё жывое, пад словам любоў людзі разумеюць і адчуваюць магутныя токі, што сыходзяць на іх з Космасу, з Зямлі, як з суцэльнага жывога арганізма.

Спачуванне, сумленне, шкадоба, сум, радасць, жарты, парадаксальнасць — безліч пачуццяў поўніць чалавека радасцю і прыгажосцю. І гэты вечны ў сваёй прыгажосці свет змушае зразумець марнасць Уладароў Сістэмы скарыць чалавека.

Скарыць чалавека нельга. І не таму, што ён — Боскае стварэнне, а хоць бы і таму, што вышэй чалавека, вышэй ягонай таямнічасці і велічы няма нічога і нікога. Пагэтаму Уладары Сістэмы тут бяссільныя, ім толькі і застаецца — далучацца да вечна схаладнелых у пяску тэракотавых служкаў, якія каторае тысячагоддзе берагуць спакой часовых Уладароў Сістэмы.

**Мы па-быдлячы апраўдваем сябе, што не мы калечым, сільнічаем у аўтазаках нявінных дзяўчынак і маладых хлопцаў, не мы, а яна, Улада, камандзірствуе намі, а мы — нявінныя суддзі ў мантыях і паслухмяныя служкі яе**

## Вёска

Вёска стаіць за пятнаццаць кіламетраў ад горада.

Два рады хат, крытых шыферам. Ля асфальтаванай дарогі бялеюць домікі — для прыезджых.

У дзевяностых, калі разваліваліся калгасы, маладым хвацкім хлопцам прапанавалі зямлю. Бяры тэхніку, разжывайся.

Хлопцы паверылі, уцягнуліся ў работу.

Але ж і чыноўнікі не спалі ў шапку, кумекалі. Як бы заваліць рабацяг. Прыдумалі. Планы севазваротаў, планы пасеваў. Штогод зямля мянялася, угноеная ішла ў чужыя рукі, няўдобіца — рабацягам…

Пакруцілі хлопцы галовамі, заспявалі дружна: «Гары яно гарам такое каханне».

На гэтым паход хлопцаў у самастойнасць скончыўся. Тэхніка распаўзлася па дварах.

Пачаўся новы круцёж.

Але ж гэта хлопцаў не цікавіла: досыць, наеліся…

А было ж і жаданне, і сіла. І меры былі…

Цяпер працуюць хто дзе: на ферме, на мехдвары ля шэсніцы, у горадзе, дзе больш плоцяць, на пілараме.

Лес аж гудзе, у дзве змены пілы звіняць. Лес гоняць за мяжу на валюту.

Перад вайною гэтак жа за валюту прадавалі кувалды і накавальні.

Валюта і тады, і цяпер цэніцца.

Фермы не прыватызаваныя, на іх робяць як мясцовыя, так і прыезджыя з пасёлка.

А так — усё харашо, прыўкрасная маркіза, – так любіў гаварыць Караткевіч. Ён любіў жыццё, любіў усё «прыўкраснае».

Ля пенсіянерак жывуць і кормяцца мужчыны — яшчэ маладыя, гадоў да сарака. Многія маюць сваіх дзяцей. Але дзеці тыя ў вёсцы ля жанчын жывуць, яны жывуць з мацяркамі ў горадзе ці ў іншых пасёлках. Мужчыны разведзеныя. На работу не ўладкоўваюцца, туляюцца на вёсцы.

Такога раней не было – каб здаровы мужчына, ды яшчэ халасцяк, без работы тупаўся…

Але ж цяпер гэта – нармальна, цяпер можна ляжаць перад тэлевізарам, а то яшчэ — самая мода — пстрыкаць праграмамі ў інтэрнэце.

Цяпер заводзіць гаспадарку (свінні, каровы, гусі, качкі) – каму гэта трэба? Нявыгадна…

На ўсю вёску — з пасёлкам недзе 400 двароў — засталося пару кароў, і тыя — у маладых рабацяшчых хлопцаў, якія ад світання да змяркання снуюць ля двара, ля трусоў, ля цялят у загончыку. У такіх яшчэ цепліцца надзея, што выкруцяцца ад глабалізацыі і грашавітасці.

Хоць травы́ — заваліся, не тое, што раней — за межы біліся… Здзічэла зямля — яна трэба?

Грашавітасць, разлік вынулі з вёскі душу. Як сусед кажа: «Цяпер за тое, каб курыца дарогу перайшла — плаці».

Жыццё віруе і цепліцца ля магазіна. Людзі бяруць «на павер», «на вексель» гарэлку і прадукты.

Так званае культурнае жыццё цячэ ля рускамоўнага тэлевізара, ля канцэртаў, ля фільмаў, ля палітыкаў, як ля блізкіх родзічаў, ад якіх не адчэпішся.

Як і ў гарадах, выкідваюцца з кватэр кнігі, — яны сталі непатрэбнымі.

Ад старога традыцыйнага жыцця ў вёсцы засталіся песні і прыпеўкі. Засталася чыста беларуская гаворка. Прыпеўкі ў асноўным з народнага побыту і, канечне ж, пра каханне. Іх безліч. Шмат «брахлівых». Калі жанчыны, успамінаючы маладосць, разгуляюцца, пускаюцца ў скокі, памахваючы рукамі, тады ўжо — трымайся за бакі ад смеху, заслухвайся.

Шкада, што прыпеўкі ніхто не запісвае і не друкуе, хоць сярод жанчын ёсць сапраўдныя таленты.

Таленавітасць парой праяўляецца ў тым, што ў «брахлівых» прыпеўках няма грубасці, брыдкаслоўя, ёсць мяжа, якую нельга пераступіць, калі і спяваецца пра каханне, то ў інтымнасці намёкамі, ледзь-ледзь… І ў гэтай недаказнасці ёсць свая паэтычнасць.

Спяваюць: «Дробны дожджык марасіў, а ён ціхонечка прасіў…».

Усё. Больш ні слова…

## Голем

Быў хворы, і мне прыснілася…

Штосьці падобнае да труны. Прыгледзеўся, — то была не труна, і нават не саркафаг егіпецкі, а аграмаднейшы каўчэг, у які па адной пары зямных стварэнняў пасялілі і ў воды акіянскія адпусцілі.

Але ніякіх стварэнняў у каўчэгу не бачыў. Бачыў твар белы: шчыльна самкнутыя вусны, белыя нябожчыцкія шчокі, нос прадаўгаваты і яшчэ — заплюшчаныя вочы. Ён быў нерухомы пада мною ўнізе, у аграмадным доўгім каўчэгу. Здавалася, ён спаў. А так і было: ён спаў…

Чыстая празрыстая вада залівала каўчэг — спадысподу зацякала і тонкім слоем залівала твар, усё бясконцае і даўжэзнае: белую шыю, доўгія скрыжаваныя на аголеных грудзях рукі, жывот, ногі…

Перада мною быў не чалавек, а хтосьці, з кім ніколі не сутыкаўся. Мо то была істота, пра якую пісаў у дзённіку Чэхаў: незямная, касмічная, яна ўяўляла зуб у целе велікана…

Ні здзіўлення, ні жаху не было.

Не спытаў, адкуль цякла вада, што залівала спакойны твар.

Не спытаў, хто стварыў істоту: людзі, машыны, ці — хтосьці іншы…

Мабыць, трызніў, і таму ўсё пераплялося ў свядомасці. Нейкім мазком мільганулі некалі уражлівыя малюнкі Гойі, — пачварыстыя стварэнні аплыталі мастака…

І тут жа, побач, узнік дзень сённяшні: мітынгі, закрачаныя, тупалобыя, як танкі, аўтазакі, якія наязджалі на дзяўчат і хлопцаў, фігуркі людзей у чорных камуфляжыстых касцюмах…

І ўсё гэта, мініяцюрнае, ліліпуцістае аплятала, душыла і крышыла бязмернае цела.

Цела крывавіла — знізу, ад ног, ад жывата вада ружавела…

Але твар мармурова-чысты заставаўся спакойны і прыгожы, толькі заплюшчаныя вочы трывожылі: што ж пачне рабіць нечалавечая істота, калі хлыне з каўчэга вада і ва ўсёй велічы яна падымецца нада мною?

# Такі, як неба

## Светлай памяці Аляксандра Львовіча Ільіна



Алена ІГНАЦЮК

**...Мой муж памёр 9 лістапада 2020 года ад каронавіруса, ён быў матэматыкам і вядомым краязнаўцам. Напісала вершы, прысвечаныя ягонай памяці. Надрукуйце, калі ласка, з нагоды Яго юбілею — 65-годдзя (нарадзіўся 26 красавіка 1956-га)...**

* * *

*Ты шлеш лісты мне з таго свету —*
*без запісаў, аўтографа —*
*перадаеш кур’еру...*
*А я прымаю з’яву гэту...*
*І ў нашае расстанне мала веру.*
*І ты такі далёкі, асаблівы...*
*Як позірк пераняў у Бога.*
*У нашым садзе ўжо паспелі слівы.*
*І яблыкаў так многа...*
*Як успеніцца віно,*
*то вып’ю за тваю нябесную прастору...*
*А ты ўсё шлеш лісты,*
*без запісаў,*
*аўтографа,*
*паўторам...*

* * *

*Злітуйся над Любым!*
*Злітуйся над Любым!*
*Божанька! — Малю!*
*Зберажы ад мукі,*
*захавай ад згубы...*
*Я яго шчаслівым, радасным люблю.*
*З ім вакол Святыя, каб прасіць у Бога*
*міласэрнай волі — адпусціць грахі...*
*І Айцы ўсіх цэркваў...*
*І Яўхім, Марыя...*
*І апостал Павел!*
*За яго — Вякі!*
*Вольна і міжвольна,*
*ён грашыў са мною.*
*Уладар Нябёсаў! Адпусці грахі!*
*Сёння я адчула, гэтаю зімою...*
*Тваё прывітанне...*
*снегам...*
*ад рукі.*

* * *

*Так злучылі свае рукі —*
*бы ў букет... Па Першамайскай —*
*цудзім-блудзім... Дзень без скрухі.*
*Мы прастор шукаем райскі.*
*Ты ў раі знайшоўся першы.*
*Я ж у зблытаныя тыдні,*
*на зямлі — тут, пішу вершы —*
*асвяжыць іх хочуць ліўні.*
*І твой з Неба адгалосак:*
*з-за аблокаў словы-сказы*
*ўсё ляцяць — у сто палосак:*
*Мы былі! Мы будзем разам!*

* * *

*Усё такое ж... Ты павер!*
*І гэты Пінск, і дрэвы, людзі...*
*Зноў ад цябе нясе кур’ер*
*з Нябёсаў ліст... Што з намі будзе?*
*Я недзе тыдзень без цябе.*
*Мне твой часопіс — піктаграмай...*
*Як голуб зернейка дзяўбе,*
*збіраю літары... За рамай...*
*Партрэтны ты — і з барадой,*
*блакіцяць шкельцы акуляраў...*
*А я жыву... Жыву табой!*
*І пра тваё вяртанне мару.*

* * *

*Сярод памерлых і жывых*
*стаю напрыканцы дарогі.*
*Дзень разгарнуўся ў чарнавік.*
*Штось крэслю, крэслю да знямогі...*

*Бо ўсё было не так са мной:*
*І я цябе не ўратавала.*
*Смерць уявілася маной:*
*За мной прыйшла — цябе забрала.*

*Ты побач, побач... Ля жывых.*
*І Неба дыхае табою!*
*У белых высях чую крык.*
*Мо ты буслом — за чарадою...*

*Такі прыгожы, тонкі лёт...*
*То над магільнікам, над храмам...*
*Дзень распачаўся ў Новы год*
*прыгодай з “Гістарычнай Брамы”.*

* * *

*Ты да мяне вярнуўся — і такі...*
*Як быццам табе зноўку нарадзіцца:*
*шкарпэткай новенькай з нагі...*
*адной — зляцець, з другой — згубіцца.*

*Ці можна гэткую гульню прыняць?*
*Ці Неба гэтага хацела?*
*Рэінкарнацыя — і раніцаю ў “5”–*
*анёлам ты — вярнуўся ТОНКАЦЕЛА.*

*Бліскуча так ты дорыш мне*
*альбом пра*
*ЧАЛАВЕЦТВА ЛЕПШЫЯ НАДЗЕІ.*
*Я напішу раман, як толькі год міне.*
*Тваім вяртаннем упрыгожу дзеі:*

*То матэматык ты,*
*а то паэт,*
*Вось... пілігрым — спыніўся ля парога...*
*Няўжо чмялём — на бэзавы букет?*
*Ці Гаспадар, уратаваны Богам...*

*Адчула, што ад левага пляча*
*расце крыло, нямее цела...*
*Як певень трэцім разам пракрычаў...*
*Не здрадзіла табе. У Неба паляцела.*

* * *

*А ты праводзіш дзіўныя заняткі*
*на Небе сёмым —*
*вучні-аняляткі.*
*Прыгожа мовіш ім аб тонкасці Сусвету,*
*хоць і не Бог...*
*Няўжо збіраешся вучыць мяне —*
*шукаеш ля аранжавых аблок?*
*Я ж на зямлі! Ты памыліўся —*
*як дзень мой невыразна паўтарыўся:*
*і захварэў, і занямог...*
*Прашу, дапамажы! З дазволу Серафіма...*
*Я нават слоўнік мовы — той —*
*анёлавай — купіла б,*
*каб зведаць твой урок...*
*Ты мовіш мне аб тонкасці Сусвету,*
*хоць і не Бог...*

* * *

*У памадзе цела, вочы,*
*нават позірк мой сірочы...*
*Рассыпаецца, як пудра...*
*Ці кудлаціцца, як футра...*
*То памада... Нібы вата,*
*так — як рвецца мая страта*
*на шматкі...*

*Цёмная — як кроў у вене,*
*як парык на манекене —*
*на мне гэткая памада.*
*І за што такая плата? —*
*Што жыву я небагата:*
*адзін двор і адна хата?*
*А цябе няма са мною.*
*Мне б з часінай векавою*
*да цябе так прытуліцца...*



Фота www.chitalnya.ru

*Можна ў госці напрасіцца:*
*зняць валёнкі на парозе*
*той сядзібы, што ў блакіце...*
*Ай, Аблокі, нам дарыце*
*салад-смак для пацалункаў,*
*каб сціралася малюнкам,*
*дзіў-памада з нашых вуснаў...*
*да бясконцасці...*

* * *

*Далёкі — ты.*
*У згадках — я?*
*Ты Небам ад мяне схаваны.*
*А я, як фея з лугаўя,*
*бягу на голас твой... пазнаны...*
*За даляглядам... Расце туман...*
*Уявай лесвіца — у Неба.*
*Пайду па ёй. Дзесь пішуць план*
*бліскуча-кучаравым снегам...*
*анёлы... Каб мацнеў твой лёт...*
*Пасрэбрыш крылы — і да Бога*
*ты даляціш праз тыдзень, год...*
*Як ты, я дыхаю глыбока...*

*Я на зямлі.*
*Тут, без цябе...*
*З табою ў марах сустракалася.*
*А ты прасіў: “Жыві ў сяўбе...”.*
*Мае ўсе слёзы адсмяяліся?*

* * *

*Шле прывітанне котка-Ева*
*табе —*
*у Неба.*
*А вусікі — антэны...*
*Эфірныя знаходзяць хвалі.*
*Я чую голас: “Будуць змены...”.*
*І гэтак мовіш ты...*
*з касмічнай далі?*
*А голас твой прыціх.*
*Ды муркае штосьць Ева —*
*так тонка і знаёма,*
*бы напевам...*
*І ёй запляскалі аблокі.*
*А я пра змены думаю...*
*Візіт твой недалёкі...*

* * *

*Жыццё пасля Жыцця —*
*і Падаўжэнне.*
*Ты ў космасе. Чакаю адкрыцця*
*тваіх тэорый новых і рашэнняў.*
*Для духаў — мною варыцца куцця.*

*Ты вышынёй абраны...*
*На ўзроўні Бога.*
*Нібы віно, цягуча п’еш блакіт,*
*прыпамінаючы мяне...*
*Спатканняў было многа...*
*У космасе тваім не значыцца “кавід”.*

* * *

*Хвалі — высока і гнутка... Да Неба!*
*Бягуць-набягаюць... Адна за другой...*
*Ты ведай, Каханы,*
*я маю патрэбу*
*на беразе гэтым сустрэцца з табой.*

*Хай мора стыхіяй мне вочы не засціць.*
*І сонечным ранкам я ўбачу цябе —*
*анёлам — у сінім і вернутым шчасці.*
*А вусны твае — у Хрыстовым віне.*

*Тры тыдні з табою на пляжы гуляю.*
*Зайздросціць французскі бульвар.*
*Мо лётаць навучыш? Надзею я маю...*
*З крыла... серабрынкай*
*пазначыш мой твар.*

* * *

*У смерць тваю паверыць не магу...*
*Жыву — як на бягу,*
*цябе ўсё даганяю...*
*Схапіла знервавана за руку...*
*Кажу, што ты са мной —*
*з Зямнога раю...*
*Табе для супакою —*
*росы траў,*
*сны лотацяў балот*
*і лёгкасць маёй мары...*
*Тваё каханне да мяне —*
*ніхто не скраў.*
*Ты побач... Хоць...*
*слязінку не прыбраў...*
*Так свеціцца на твары...*

*Я кожную хвіліну, бы спыніўся міг,*
*цябе, Каханы, адчуваю:*
*Пайшоў ты ў госці*
*да бацькоў старых?*
*Гасцінцы прынясеш мне*
*з хутарскога раю?*
*Наканавана нам бязмежна вандраваць.*
*Сабрала ўжо ў валізку дзіва-рэчы.*
*Ды шчокі штосьць нястрымана гараць...*
*Як успамін аб пацалунках*
*з даўняй нашай стрэчы.*

* * *

*Я адпускаю цябе ад сябе.*

*Голубам белым у Неба ляці!*
*Сімвалам Духа Святога,*
*як на карціне Герарда...* — Свяці!*
*Так устаноўлена Богам.*

*Я адпускаю цябе, каб прасіць*
*выявіць вобраз такі ў багамаза:*
*табе на іконе лекарам быць,*
*як Рафаэль**.*
*Мне б ты ранкі памазаў...*

*Так! Адпускаю цябе... — Закажу*
*я аркестровы канцэрт. У твой гонар!*
*Усе папрыходзяць, каму я служу...*
*Алегарычныя — Фаўна-Флора...*

*Я адпускаю... І ў даляглядзе...*
*Ты — у сузор’і Вялікай Мядзведзіцы —*
*ходзіш між зорак па срэбным канаце...*
*Вечнасць ніяк на цябе не нагледзіцца.*

* Давід Герард (1460–1523) — нідэрландскі жывапісец, майстар перадачы асвятлення.
** Рафаэль — арханёл, вядомы як анёл ацалення.

* * *

*Ведаеш, Любы! Я — букіністка.*
*Кнігі табе пасылаю ў Нябёсы.*
*Іх абвіваю тонкім батыстам —*
*з колерам*
*яркай вясновай мімозы.*

*Ты Сведэнборга прасіў:*
*“Пра нябёсы..., свет духаў..., пра пекла”.*
*Тэкст пасылаю на адрас: Абшары.*
*Нібы струменіцца Неба вадой,*
*што да межаў дабегла...*
*Ціха ступаю на край сваёй мары...*
*Не памыліцца б...*
*Можна дзівіцца,*
*як пінчукі твае новыя кнігі купляюць,*
*старонкі гартаюць —*
*бы не з паперы яны —*
*з нейкай квантава-струннай тканіны...*
*Так Космас*
*спраўляе*
*твае Імяніны...*

*Анёлы да крамы маёй даляцелі.*
*Буклет пра Русецкіх набыць захацелі.*
*Хочуць за кнігі твае заплаціць*
*вінаградам...*
*Дзіўная плата?*
*А вінаградзінкі — гэта манеты?*
*Ты пераслаў*
*са сваёй невыказнай планеты.*

# Празаік савецка-польскага памежжа

Антон ШАРАНКЕВІЧ

**1 красавіка — 120-я гадавіна з дня нараджэння слыннага прадстаўніка польска-беларускай літаратуры Сяргея Пясецкага. Час прыгадаць лёс і найлепшыя творы пісьменніка, кантрабандыста і разведчыка.**



Сяргей Пясецкі

Сяргей Пясецкі нарадзіўся ў мястэчку Ляхавічы. Будучы пісьменнік быў пазашлюбным сынам збяднелага шляхціца Міхаіла Пясецкага і сялянкі Клаўдзіі Кулаковіч. Бацька мала цікавіўся сынам, і яго выхоўвала мачыха Філамена Грушэўская. У сям'і ўсе размаўлялі па-руску. Яшчэ ў падлеткавым узросце Сяргей трапіў у турму праз бойку ў школе, паводле іншых крыніц — за спробу ўзброенага нападу на інспектара гімназіі. Тэрмін аказаўся кароткім, бо свабоду прынесла рэвалюцыя 1917 года. Так Сяргей Пясецкі апынуўся ў Маскве.

Стаўшы сведкам крывавых рэвалюцыйных падзей, Пясецкі на ўсё жыццё ўзненавідзеў ідэалогію бальшавікоў. Вярнуўшыся праз ахопленую тэрорам і анархіяй краіну ў Мінск, Сяргей трапіў у мясцовае крымінальнае кола. На той час Мінск быў сапраўднай крымінальнай сталіцай. Праз тое, што нівоадная ўлада, якая прыходзіла ў горад у перыяд 1918–1920 гадоў, не паспявала ўсталяваць свае законы, у сталіцу сцягнуліся крымінальныя элементы з Масквы, Вільні, Варшавы, Кіева і Адэсы.

Тры яго кнігі «Яблычак», «Гляну ў аконца», «Ніхто дабром не дасць збаўлення» атрымалі свае назвы паводле песняў, якія спявалі ў крымінальных колах таго часу. У іх апісаныя падзеі 1918–1919 гадоў, калі ў прыфрантавы горад з усіх куткоў былой Расійскай імперыі пачалі сцякацца бандыты, махляры і прастытуткі ў пошуках лёгкага заробку. У вір падзей і жыццё горада знітаванае лірычнае жыццё галоўнага героя — злачынцы Аліка Барана. Пульс падзей трымае чытача ад першага да апошняга радка трылогіі.

Праз нейкі час С. Пясецкі далучыўся да шэрагаў беларускай паўстанцкай арганізацыі «Зялёны дуб». Калі атрад будзе разбіты, наступным фармаваннем стане Літоўска-Беларуская дывізія, якая ў той час удзельнічала ў польска-бальшавіцкай вайне. Пасля вайны дваццацігадовы юнак апынуўся на польскім баку мяжы. Без грошай, прафесіі і сям'і. Тады ён трапіў на вока агентам II-га аддзела польскага генштаба, які займаўся разведкай. Дзякуючы таму, што Пясецкі добра валодаў рускай і беларускай мовамі, ён без ваганняў прымае іх прапанову аб супрацоўніцтве...

Веды, атрыманыя ў мінскіх злачынцаў, Пясецкаму вельмі спатрэбіліся. Яму давяралі перавод грошай для дзейнасці агентаў на ўсходзе. Кіраўніцтва разведкі плаціла няшмат, таму Пясецкі заняўся кантрабандай, якая прыносіла значна большы даход. Падтрымліваючы кантакты з савецкімі афіцэрамі, Сяргей даволі часта спажываў какаін для іх вярбоўкі. Праз гэта развілася залежнасць, і яго «вызвалілі» ад разведкі.

Памежжа жыло асаблівым жыццём. Тут квітнела кантрабанда, а неафіцыйнай сталіцай гэтага віру падзей стала мястэчка Ракаў. Сотні людзей займаліся тым, што перапраўлялі па абодва бакі мяжы разнастайныя тавары. Стаўшы кантрабандыстам, Пясецкі мог 30 разоў за месяц незаконна перасячы мяжу. Часцей за ўсё гэта адбывалася ўначы. Мінаючы памежныя перашкоды і пасткі, кантрабандысты за ноч праходзілі шлях ад Ракава да Мінска і назад.

Першы выдадзены твор Сяргея Пясецкага — «Каханак Вялікай Мядзведзіцы» — аўтабіяграфічны раман, які расказвае пра насычанае жыццё кантрабандыстаў з Ракава. Асабістыя перажыванні, характэрныя героі, каларытныя апісанні і начныя памежныя прыгоды пад пільным наглядам Вялікай Мядзведзіцы...

Пад уздзеяннем наркотыкаў Пясецкі здзейсніў напад з рэвальверам на двух яўрэйскіх гандляроў. Пазней з паплечнікам ён нападзе на пасажыраў вузкакалейкі. Паліцыя, абапіраючыся на данос каханкі паплечніка, арыштуе іх у Вільні. У 1926 годзе суд прыгаворвае Пясецкага да смяротнага пакарання, але яго ўратавала мінулае разведчыка, таму вырак змянілі на 15 гадоў турмы.

Напачатку Пясецкі адбываў пакаранне ў Лідзе, пасля чаго быў этапаваны ў самую жорсткую вязніцу Польшчы — «Святы крыж», дзе праз два гады захварэў на сухоты. Неаднаразова Пясецкі арганізоўваў бунты і ўтрымліваўся ў адзіночцы за свае паводзіны ў турме.

У турэмнай бібліятэцы Пясецкі пачынае вывучаць літаратурную польскую мову. Выпадкова яму трапіў абрывак газеты з аб'явай пра літаратурны конкурс. Маючы велізарны жыццёва-прыгодніцкі вопыт, вязень вырашыў удзельнічаць у конкурсе. Пясецкаму нават выдалі чысты сшытак. «Лепш няхай піша, чым арганізоўвае чарговы бунт». Даволі хутка з'явілася аўтабіяграфічная аповесць «Пяты этап», героямі якой былі кантрабандысты і разведчыкі. Але турэмная цэнзура не дазволіла даслаць яе на конкурс. Тое ж было і з другой аповесцю «Дарога да сцяны».

Толькі трэці твор — «Каханак Вялікай Мядзведзіцы» — трапіў да чытачоў. Ён змяніў лёс аўтара. У 1937 годзе кніга была выдадзеная і даволі хутка стала бэстсэлерам. Яе перавыдавалі некалькі разоў, а таксама пераклалі на замежныя мовы. Калі чытачы даведаліся, што аўтар знаходзіцца ў турме, была разгорнутая шырокая грамадская кампанія за вызваленне пісьменніка.

У жніўні 1937 года ён выйшаў на волю.

Праз некалькі гадоў пачаліся размовы пра намінаванне Сяргея Пясецкага на Нобелеўскую прэмію, але выбухнула вайна. У 1942 годзе ён ажаніўся з Ядвігай Вашкевіч, прыняўшы каталіцтва. У 1944 годзе ў іх нарадзіўся сын Уладзіслаў. Падчас Другой сусветнай вайны Пясецкі быў байцом Арміі Краёвай і ўваходзіў у шэрагі асобнай групы Віленскай акругі. Далучэнне Заходняй Беларусі да БССР і падзеі вайны на тэрыторыі Беларусі таксама знайшлі месца ў творчасці аўтара.

Сяргей Пясецкі пачаў працу над гэтым раманам у 1946 годзе, але выдадзены твор быў толькі ў 1957-м. Раман напісаны ў форме дзённіка афіцэра Чырвонай арміі Міхаіла Зубава, які трапіў у Заходнюю Беларусь падчас «вызвалення» ў верасні 1939 года. Па кнізе можна прасачыць лёс і паводзіны афіцэра, які трапіў у вір ваенных дзеянняў.

Пасля вайны Пясецкі перабраўся ў Італію, адтуль эміграваў у Англію, дзе працягваў творчую дзейнасць. Нягледзячы на тое, што яго раманы перакладаліся на розныя мовы і выдаваліся ў розных краінах, пісьменнік жыў небагата, бо выдавецтвы не вельмі рупіліся пра перасылку аўтару ганарараў.

Сяргей Пясецкі памёр ад раку 12 верасня 1964 года. Ён пахаваны ўдалечыні ад Беларусі, у якой нарадзіўся, — у горадзе Гастынгс у Вялікабрытаніі.

На жаль, толькі цяпер яго творы пачалі актыўна перакладаць на беларускую мову, і беларускі чытач мае магчымасць азнаёміцца з прыгодніцкімі раманамі аўтара з Ляхавіч. Але лепш позна, чым ніколі.

# Беларуская кніга мёртвых

Віктар МАРЦІНОВІЧ

**Уладзімір Арлоў, «Імёны свабоды» / Прага: Радыё Свабода**

Маштаб пісьменніка вымяраецца тэмамі, да якіх ён звяртаецца.

Асабліва ў такія часы, як сёння.

Бо вельмі проста забыць, што галоўнае цяпер — не крыўда, не роспач, не помста, а памяць. Ёсць некалькі сталейшых пісьменнікаў, за творчасцю якіх я пільна сачу. Адзін з іх — Уладзімір Арлоў.

Даведаўшыся пра тое, што ўвосень мінулага года Арлоў скончыў чацвёртае выданне «Імёнаў свабоды», я вырашыў прачытаць навінку ўважліва, а не гартаючы па сваіх улюбёных біяграфіях (я так рабіў з мінулымі «Імёнамі»).

І цяпер, скончыўшы чытаць, скажу, што гэта бадай самая важная для майго ўнутранага адчування роднай краіны выказванне.

Вялікую кнігу ў рукі трэба браць не для таго, каб уцяміць, што адбываецца (ці не адбываецца) на вуліцах і ў тваім сэрцы цяпер. А для таго, каб пабачыць, адкуль гэта пачалося і, галоўнае, як і чым скончыцца.

І так, толькі цяпер я зразумеў, чаму творца такога ўзроўню вырашыў укласці свой талент у нешта, што на першы погляд выглядае як біяграфічны даведнік па героях апошніх 250 гадоў.

Дык вось, у кніжцы 366 прытаганістаў. Па колькасці дзён у высакосным годзе.

«Імёны» можна менавіта так і чытаць: па адным героі, у ложку, нанач. Каб гарантаваць сабе бессань і ўпэўніцца, што запомніш.

Першы — Тадэвуш Рэйтан, дата смерці — 8.8.1780, месца пахавання — вёска Грушаўка. Апошняя — Надзея Дземідовіч, дата смерці — 3.3.2020, месца пахавання — Калодзішчы. У «Імёнах» усё выбудавана вакол смерці.

Пайменная пераклічка ў той чарзе, што стаяла ў Вечнасць з XVIII стагоддзя і да нашых дзён.

Менавіта таму сапраўдная, а не храналагічная, замыкальніца гэтай кнігі — Аўгіння Дзянісава, адзіная, хто выпадае са стройнай храналогіі. І выпадае таму, што была бабцяй аўтара і, як ён сам піша, «упершыню пазнаёміла мяне, смігадовага, зь сьмерцю». Перад тым паспела навучыць Арлова вальнадумству, каментуючы па вясковай завядзёнцы савецкія навіны: «Дагонім, дагонім... — казала бабуля на бясконцае зьвяганьне пра неабходнасьць дагнаць і перагнаць Амэрыку. — Босым бегчы лягчэй. А як перагонім — голымі сракамі засьвецім».

Паміж апошняй датай у кнізе і Тадэвушам Рэйтанам — 364 імені.

І тут пачынаецца самае цікавае. Бо які бы крутым і абазнаным ні быў той ці іншы герой, яму адпушчаныя дзве старонкі.

Дзве!

Часцей за ўсё — з дрэварытам ці фотаздымкам.

І ў гэтым адчуваецца сапраўдная, наканаваная, справядлівасць: наша месца ў народнай памяці — абмежаванае. І ні ў кога не будзе часу калупацца ў нюансах. То адразу пра галоўнае...

Жыццё аднаго чалавека ніколі не змяшчаецца ў кнігу, нават у збор твораў. А паспрабуй змясціць яго ў дзве старонкі. Паспрабуй распавесці пра, напрыклад, Максіма Багдановіча, пра тых, каго ён кахаў, пра тых, хто не кахалі яго, пра вандроўку ў Вільню і зачараванне беларушчынай, пра тое, як вучыў родную мову па «Нашай ніве» ў Расіі, пра сухоты, пра Ялту — на дзвюх старонках!

Прыкладна на тым месцы, калі набліжаешся да ночы расстраляных паэтаў, разумееш, што сам гэты фармат цалкам па-постмадэрнісцку пачынае вызначаць тэмп і напружанне зместу.

І знойку: калі старонак — 811, а імёнаў — толькі 366, дык каго абіраць? Па якім прынцыпе? Як вызначаць важнасць і ўнёсак у лёсы Айчыны каліноўцаў? Бо на просты пералік усіх удзельнікаў паўстання не хапіла б і 811 старонак. То трэба абіраць галоўных. І як іх абіраць, калі для кожнага тое паўстанне было падзеяй, што перакамячыла лёс, а часцяком — прывяла да смерці?

Ты сочыш за тым, як Аўтар ператвараецца ў Рэдактара (чалавека, што прыбірае лішкі і пакідае асноўнае), і не можаш адарвацца.

Каміла Марцінкевіч (піяністка, кампазітарка, удзельніца паўстання Каліноўскага) у гэтай кнізе ёсць, а яе знакамітага бацькі, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, таксама ўдзельніка паўстання, — няма.

Не стае месца.

Не стае памяці.

Не стае старонак.

І як жа прагнае, калі побач з імёнамі, якія праходзіў у школе — Францішак Багушэвіч, Напалеон Орда, Валенці Ванькові̂ч, — бачыш сваіх добрых знаёмцаў: Пятра Марцава. Уладзіслава Ахроменку.

Барыс Кіт, Міхал Анемпадыстаў, Васіль Сёмуха, Пятро Васючэнка, Хведар Нюнька, — усе гэтыя сучаснікі прыраўнаныя тут да сваіх знакамітых папярэднікаў. Вітаўт Мартыненка = Сяргей Палуян — ці гэта не найлепшая ўзнагарода за годна пражытае жыццё?

Так павялося апошнім часам, што самыя галоўныя кнігі пра беларусаў і для беларусаў у апошні год немагчыма ці амаль немагчыма набыць.

Але якія часы, такія і рашэнні. Я спампаваў «Імёны Свабоды» і чытаў іх у электронным выглядзе. Спасылку даваць не буду: каму патрэбна — знойдзе.

Веды вымагаюць высілкаў.

Прачытайце гэтую кнігу хаця б для таго, каб упэўніцца, што праз 366 розных лёсаў сам Час распавядае нам адну і тую ж гісторыю.

Часткай якой мы ўсе з'яўляемся.

# Людміла Сіманёнак: «Будзем заставацца на баку дабра»

## Пра творчасць, тэатр лялек, сям'ю і ціск за членства «не ў тым» Саюзе пісьменнікаў

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**З паэткай Людмілай Сіманёнак мы гутарым пасля паказу новага спектакля «Ох і залатая табакерка», што ідзе на сцэне Тэатральна-відовішчнай установы «Беларускі тэатр "Лялька"» ў Віцебску. Для спадарыні Людмілы, як загадчыцы літаратурна-драматычнай часткі, «Лялька» — гэта цэлы сусвет, дзе дабро абавязкова перамагае зло.**

***— Спадарыня Людміла, як вырашылі звязаць жыццё з тэатрам — і ці адразу атрымалася ў яго «ўліцца»?***

— У мяне не было іншых варыянтаў. Тэатр — гэта тое месца, у якім ты або адразу пачынаеш працаваць напоўніцу, або сыходзіш. Яшчэ ў студэнцкія гады



захаплялася тэатрам: хадзіла на ўсе спектаклі ў драматычны тэатр імя Якуба Коласа, на сустрэчы, тэатральныя марафоны, сябравала з акцёрамі... Нейкія п'есы ды інсцэніроўкі пісала для самадзейных калектываў. У «Ляльку» прыйшла ў 35 гадоў: гэта ўсё ж такі пазнавата для кіраўніка літаратурна-драматычнай часткі, бо ў цябе сфармаваўся зусім іншы кругагляд. Але з таго часу вось ужо дзесяць гадоў хаджу з квадратнымі вачыма проста ад канцэнтрацыі творчых людзей на невялікую прастору. Не ведаю, як нашы акцёры граюць адразу некалькі роляў, тузаюць лялькі за вяровачкі і не збіваюць адзін аднаго пры выступах... Як яны выдаюць такія эмоцыі, якія перадаюцца гледачам? Хочацца адпавядаць гэтай атмасферы і прынесці нешта сваё, каб артыстам было хоць крыху прасцей.

***— Ці складана працаваць у творчым калектыве?***

— Ёсць свае асаблівасці. Працаваць тут цікава. А калі цікава тое, што робіш, то на цяжкасцях не канцэнтруешся.

***— Чаму Вы паступалі менавіта на факультэт беларускай мовы і літаратуры?***

— Скажу шчыра: я збіралася паступаць на факультэт прыкладной матэматыкі. Але калі вучылася ў 10 класе, памёр геніяльны настаўнік фізікі Віктар Сікора, які працаваў у нашай пастаўскай школе. Мае мары, мякка кажучы, накрыліся. Я вучылася ў матэматычным класе, перамагала ў алімпіядах. І калі быў моцны настаўнік фізікі, паступленне было рэальнае. Але пасля мне стала цікавай беларуская мова, гэта быў усё ж такі 1992 год... Тады я ўжо пісала вершы, а ў Паставах было цікавае літаратурнае аб'яднанне, якое ўзначальваў несправядліва забыты пісьменнік Алесь Касцень. Ён быў адзін з заснавальнікаў полацкага аб'яднання «Калоссе». Тады было адчуванне, што Беларусі спатрэбяцца людзі, якія добра будуць валодаць беларускай мовай.

***— Адчувалася тады адраджэнне Беларусі?***

— Так. Менавіта гэтым адраджэннем Алесь Касцень мяне і натхніў. Хоць дакументы на падрыхтоўчыя курсы я падавала на матэматычны факультэт, але ў выніку пайшла на факультэт беларускай філалогіі ў Віцебску. Гэта быў першы набор на спецыяльнасць, таму патрабаваўся высокі бал пры паступленні. У нас на курсе вучыліся моцныя студэнты, былі цёплыя стасункі паміж студэнтамі і выкладчыкамі. Нас намагаліся вучыць так, каб мы маглі навучаць іншых. Увесь час выкладчыкі ладзілі для нас цікавыя і пазнавальныя сустрэчы з пісьменнікамі, археолагамі, тэатральнымі дзеячамі. Былі і студэнты, якія падчас навучання ўжо былі сур'ёзнымі навукоўцамі.

***— А дзе працавалі пасля сканчэння ўніверсітэта?***

— Я адпрацавала два тыдні памочнікам педагога-арганізатара ў 8-й гімназіі Віцебска. Там мяне сустрэў Міхаіл Волкаў, геніяльны выкладчык матэматыкі, які ўзгадаў, што я ствярала нармальную канкурэнцыю яго хлопцам на алімпіядах, і дапамог уладкавацца ў лужаснянскую гімназію, дзе я была настаўніцай беларускай мовы і літаратуры. Пасля перайшла ў краязнаўчы аддзел абласнога аб'яднання па арганізацыі пазашкольнай работы, дзе працавала пад кіраўніцтвам вельмі цікавага чалавека Алега Куржалава, які арганізаваў школьнае краязнаўства на Віцебшчыне,




прычым арганізаваў яго на высокім узроўні. Ім была створана цэлая сетка краязнаўства. Там і адпрацавала каля дзесяці гадоў.

***— А чаму сышлі?***

— Пачаўся ціск на гэты аддзел як на паслядоўны праваднік беларушчыны. Было відаць, што нічога добрага там ужо не будзе. А пасля сяброўка, якая адпрацавала пятнаццаць гадоў на пасадзе загадчыка літаратурнай часткі ў тэатры «Лялька», змяніла сферу дзейнасці і прапанавала на сваю пасаду мяне. Праз паўгода майго былога начальніка, які не дапрацаваў да пенсіі два гады, знялі і цалкам «аптымізавалі» аддзел. Алег Васільевіч, чалавек без шкодных звычак, які ніколі сур'ёзна не хварэў, праз некалькі гадоў пайшоў з жыцця ад анкалогіі. Ён гэтага не перажыў...

***— Чула, што самі Вы публікаваннем уласных вершаў ніколі не займаліся...***

— Сапраўды, так. Першы зборнік выйшаў дзякуючы фундацыі газеты «Выбар», якую Барыс Хамайда выдаваў у Віцебску. Там на працягу некалькіх гадоў падчас студэнцтва я выконвала тэхнічную работу, у асноўным, на энтузіязме. У рэдакцыю прыходзілі вельмі цікавыя людзі. Там я пазнаёмілася з мастаком Алесем Пушкіным, паэтам Славамірам Адамовічам, Уладзімірам Плешчанкам (у 1990 годзе стварыў у Віцебску, разам з Барысам Хамайдам, Уладзімірам Падголам, Сяргеем Навумчыкам, клуб «За дэмакратычныя выбары» і газету «Выбар». — Рэд.)... І тады ў Хамайды была нейкая магчымасць выдаць кнігу маіх вершаў невялікім накладам. Укладала яе я, вярстаў мой будучы муж, а мастацкае аздабленне рабіў Алесь Пушкін. «Разгорнуты Сусвет» выйшаў дзякуючы Мікалаю Прыгодзічу, які сябраваў з маімі бацькамі. Выхад зборніка «Забыты шлях» — ініцыятыва Леры Сом... Сама я ніколі не выдавала кнігі. Дый я не ўмею гэтага рабіць...

***— Таму ўпарта не хочаце лічыць сябе паэткай?***

— Я хутчэй «калялітаратурная дама», як казаў Караткевіч (смяецца).

***— Мне падаецца, што да сваіх вершаў Вы ставіцеся неяк несур'ёзна...***

— Я мяркую, што мая творчасць — гэта салонная жаночая лірыка... Яна патрэбная ў цёплай кампаніі. Напрыклад, пару гадоў таму мае вершы ўпрыгожылі пленэр, які арганізаваў Алесь Пушкін. Да кожнай карціны я пісала асобны верш. Мастакі пасля распавядалі, што вершы аказаліся сугучнымі таму, што яны хацелі сказаць сваёй творчасцю. Мае вершы — салонныя, на манер Ніны Мацяш, Яўгеніі Янішчыц... Я не лічу патрэбным «насіцца» з імі і прасіць, каб іх недзе надрукавалі.

***— Як сышліся з будучым мужам?***

— З Сержуком Серабро мы пазнаёміліся ў рэдакцыі газеты «Выбар». А сышліся, напэўна, на глебе агульных інтарэсаў і «падышлі» адно да аднаго характарамі. Мы не раздражняем адно аднаго ў побыце, а гэта, напэўна, самае галоўнае.

***— Калі з'явіўся сын, што памянялася ў жыцці?***

— Дадалося шчасця, адказнасці дадалося... Што ў Беларусі добра, дык гэта працягль дэкрэтны адпачынак (смяецца). Пасля доўгіх гадоў працы я стала заўважаць, як узыходзіць сонца і як яно сядае... Пачынаеш ведаць, дзе ў горадзе качкі плаваюць, а дзе — лебедзі, дзе можна катоў пакарміць і якія неверагодныя бабулі жывуць у суседнім двары... Для мяне адкрыўся новы пласт жыцця, якога я раней не ведала. У дэкрэтным адпачынку я правіла свае творы, якія раней нараджаліся ў галаве, пісала прозу. Пасля, калі выйшла на працу, тое, што акумулявалася за гэты час, дало свой плён.

***— Якім чынам пішаце цяпер?***

— Няма асаблівa часу на ўласную творчасць. На працы цяпер раблю пераклад новай п'есы эстонскай пісьменніцы Айно Першк. Здаецца, што праца не дужа складаная. Але энергіі не хапае, бо ўвечары час трэба прысвяціць і сыну.

***— Пэўны перыяд Вы ўзначальвалі Віцебскае абласное аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў. Чым запомнілася гэтая дзейнасць?***

— Я добра ведала працу Франца Сіўко і ў нечым яму дапамагала, калі ён быў старшынёй нашага Віцебскага абласнога аддзялення Саюза. А калі ён канчаткова вырашыў, што здыме з сябе гэтыя абавязкі, то часова перадаў іх мне. Але тады я ўжо зацяжарыла, стала працаваць у «Лялцы», дзе быў шасцідзённы працоўны дзень... Цяжка было выконваць яшчэ і грамадскія абавязкі. І калі «знайшлася» Анастасія Лазебная, я была шчаслівая перакласці гэтую ношу ў яе рукі. Добрым кіраўніком такой арганізацыі быць цяжка, а ў Віцебску — пагатоў. Наколькі я ведаю, у Мінску няма такога жорсткага ціску на пісьменнікаў, якія з'яўляюцца сябрамі Саюза беларускіх пісьменнікаў. Тут суполку дзяржаўнай пісьменніцкай арганізацыі (навастворанага Саюза пісьменнікаў Беларусі) узначальвае асоба, якая не грэбуе тэлефанаваць начальству і пытаць, чаму не звальняюць чалавека: ён жа не ў тым Саюзе! Калі я ўладкоўвалася ў тэатр, падобныя пытанні таксама ўзнікалі.

***— Ці даводзілася апраўдвацца за тое, што не «ў тым Саюзе?»***

— Ніколі нават і ў галаву не прыходзіла гэта рабіць.

***— А працу ў тэатры не баіцеся страціць?***

— Баюся. Бо такой працы, напэўна, я нідзе больш не знайду. Нідзе мне не будзе так цікава і камфортна, як тут. Але разумею, што ў нашай сённяшняй сітуацыі гэта вельмі рэальна — і трэба быць гатовай да ўсяго.

***— Як апошнія грамадска-палітычныя падзеі адбіліся на тэатры?***

— Спрабуем рабіць выгляд, што мы — «у доміку» і тое, што сёння адбываецца ў краіне, нас нібыта не тычыцца. Але зразумела, што гэта датычыцца кожнага. Наш тэатр існуе 35 гадоў, ён — адзіны беларускамоўны тэатр лялек у краіне.

Мы не падымаем сацыяльныя тэмы наўпрост. Беларускі тэатр «Лялька» аддае перавагу філасофскаму асэнсаванню свету. Безумоўна, не хацелася б, каб гэтае беларускае асяроддзе было раптам зруйнавана. Але так можа здарыцца. Тэатр лялек — гэта тэатр не столькі пра побыт, колькі пра душу, пра вечнае, пра тое, што не мінаецца. У гэта вечнае ўваходзіць паняцце дабра і зла. Кажуць, што нельга дзяліць жыццё на чорнае і белае. Але ў гісторыі бываюць моманты, калі дабро і зло вельмі матэрыялізуюцца і персаніфікуюцца. Наш тэатр у любым выпадку будзе заставацца на баку дабра. Спадзяюся, што ён будзе жыць, пакуль будзе патрэбны гледачам.

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by



Інтэр'еры сядзібных дамоў

# «Гэта ўсё патрэбна для беларусаў»

« Працяг. Пачатак на стар. 6




Гаспадыня сядзібы Юлія Бука

##Ператрус, ІЧУ і падсадная ў камеры

— Дзеці заўсёды ведалі, што робіцца ў сям'і, развозілі са мной улёткі. Але ў нас быў такі закон: вам не сорамна за мяне, мне не сорамна за вас, — гаворыць Юлія Бука. — Мой старэйшы, Лёша, хадзіў у школу з доўгімі валасамі, ён быў металіст, ездзіў на канцэрты. У школе казалі, што лепш бы ён пастрыгся, але ён добра вучыўся, валасы былі чыстыя, сабраныя ў хвосцік. Сярэдні, Данік, хадзіў у глыбоцкую гімназію з іракезам, я яго сама галіла. Настаўніца казала: «Завяду цябе ў цырульню і не пабаюся тваёй мамы». Таму дзецям заўжды даводзілася за нешта змагацца: за сваю прычоску, за погляды, за мову.

Малодшая Аляксандра — не выключэнне. Гэта танклявая дзяўчына з моцным характарам і цвёрдымі перакананнямі. Алеся вучыцца на філолага ў Полацкім дзяржаўным універсітэце. 11 сакавіка яна паўдзельнічала ў флэшмобе салідарнасці са зняволенымі студэнтамі: знялася з паплечнікамі ў ролiку, дзе пагалілася нагала. З чатырох удзельнікаў відэа толькі Алеся і яшчэ адна дзяўчына не хавалі сваіх аблічча і імёнаў. Увечары 26 сакавіка ў інтэрнаце, дзе жыве студэнтка, прайшоўператрус, забралі тэхніку, а саму дзяўчыну затрымалі на трое сутак. Цяпер яна дома, але застаецца падазраванай па артыкуле 369 Крымінальнага кодэкса.

— Пасля вобшуку мне сказалі, што ў іх такая практыка ў Полацку і Наваполацку — яны збіраюць сліну, каб рабіць базу даных, замест адбіткаў пальцаў. Я сказала, што нічога даваць не буду. Да таго ж у іх з сабой не было ніякіх прыладаў для гэтага. Але мне сказалі, што трэба праехаць на гутарку ў пастарунак. Я спытала, ці мяне вернуць, ці брацъ з сабой нейкія рэчы. Мне сказалі, што адпусцяць, — распавядае Аляксандра.

У міліцыі яе прывялі ў кабінет, дзе сядзелі трое супрацоўнікаў. Дзяўчына папрасіла паперку і ручку, каб пазначыць іх прозвішчы, але ёй нічога не далі. Адмовіліся і паведаміць яе працэсуальны статус, толькі да гэтага падчасператрусу сказалі, што яна падазраваная, але справу не назвалі. У міліцыі ў яе запытваліся, як даўно яна ходзіць з бел-чырвона-белым сцягам, потым казалі, што яна сведка. Алеся патрабавала званок і адваката, але ў адказ пачула, што яна пераглядзела амерыканскіх фільмаў, і ў Беларусі так не бывае. Тады дзяўчына адмовілася размаўляць. На яе крычалі матам, пагражалі, спрабавалі ціснуць праз сям'ю і сяброў.

У выніку перад дзяўчынай разгарнулі Крымінальны кодэкс і пачалі даказваць, што патрабаванне здаць сліну — законнае, а калі яна адмовіцца, ёй прыпішуць супраціў. Тады Алеся ўсё ж здала сліну. Таксама ёй удалося патэлефанаваць маці і сказаць, што яе затрымалі.

Дзяўчыну адвезлі ў ІЧУ, а на наступны дзень міліцыянт спрабаваў з ёй «пагутарыць», аднак Алеся адмовілася размаўляць з ім без адваката.

— Ён сказаў: калі не хочаш па-добраму, будзем па-благому. Ёсць 22 ці 21 крымінальная справа, па якіх мяне можна саджаць кожны раз на трое сутак. Я сказала — ну, значыць, будзем па-благому.

Спрабавалі на дзяўчыну ціснуць і фізічна: ёй сказалі, што тым, хто пад следствам, ежу перадаваць нельга, толькі прадметы першай неабходнасці. Але на просьбу Алесі забяспечыць ёй веганскае харчаванне ёй прынеслі на абед усе стравы з мясам. Зняволеная адмовілася ад ежы.

Пасля няўдалай гутаркі з міліцыянтам Алесю вывелі і неўзабаве перавялі з камеры, дзе яна сядзела з некалькімі жанчынамі, у іншую, на дваіх. Там ужо сядзела жанчына, якая прадставілася Людмілай Уладзіміраўнай Леўчанка і сказала, што яна — выкладчыца БДУ, і яны бастуюць.

— Я пачала пытацца, што яна выкладае, а яна кажа: розныя прадметы — замежную мову, хімію, фізіку... У яе былі праблемы ў тэрміналогіі, я адразу яе раскусіла. Ёй, відаць, сказалі, што я люблю жывёлак, і яна мне распавяла, што жыве ў 4-пакаёвай кватэры, і ў яе там ледзь не заапарк, хіба што сланятаў не было. Потым казала, што займаецца спортам, трыятлонам, нечым яшчэ. А я паведаміла, што займаюся тайскім боксам.

Пасля гэтага, гаворыць Алеся, сукамерніца трошкі сціхла, але дзіўныя пытанні ад яе не скончыліся. Яна спрабавала выпытваць пра сям'ю, пра тое, ці падпісаная дзяўчына на прызнаны экстрэмісцкім тэлеграм-канал, а таксама пра яе стаўленне да Качанавай.

У камеры была яшчэ адна забаўная сітуацыя.

— Нам прынеслі кнігі — Пушкіна, а таксама савецкі зборнік казак народаў сацыялістычных краін. Сярод іх была літоўская казка на рускай мове, называлася «Тры зернейкі». І там было падкрэслена слова «петушок», а збоку прыпісана «в вашей камере». Не ведаю, ці тычылася гэта мяне, але яны, напэўна, ведалі, што я выберу гэтую кнігу, бо там на вокладцы — хлопец у вышыванцы, дзяўчына ў какошніку, такое ўсё народнае. А яшчэ на чорнай камеры быў белы магнiцік, на якім было напісана ручкай «шасцёрка».

На тое, што Алесіна сукамерніца — так званая «качка», паказвала яшчэ тое, што ў яе матрас быў скручаны не па правілах, а на заўвагу назіральніка яна адказала: «Мне дазволена». Па вызваленні, калі Алеся распавядала пра гэтую жанчыну дзяўчатам, якія намагаліся перадаць ёй перадачу, яны зазначылі, што бачылі кабету, што спрабавала прайсці ў ІЧУ і называла сябе «міліцыянерам пад прыкрыццём».

Алесю збіралася сустракаць, пэўна, паў-Полацка, таму дзяўчыну выпусцілі з ІЧУ раней за тэрмін. Але ў выніку яе ўсё роўна знайшлі мясцовыя актывісты і зладзілі ёй цёплую сустрэчу, дзяўчына ім вельмі ўдзячная.

— Я дзякую ўсім і нават не ўяўляю, якая сетка людзей яшчэ была за тымі, каго я бачыла, — гаворыць Алеся.

Яна зазначае, што перажыты ёй досвед аказаўся не такім страшным, і ўпэўненая, што беларускі народ пераможа, сведчанне таму — агромністая хваля салідарнасці, якая накрыла яе пасля вызвалення.

— Як бы цяжка ні было, гэта ўсё патрэбна для беларусаў, бо мы былі ўсе замкнёныя, сядзелі ў сабе са сваім хутаранствам, думалі нешта пра суседа, а потым ён аказваецца тым, хто можа табе дапамагчы.



Дом аграсядзібы «Родны кут»

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### Узбекістан. А дзе дэльфіны?

Агенцтва па кіраванні дзяржактывамі Узбекістана арганізавала прэс-тур для азнаямлення журналістаў з аб'ектамі, выстаўленымі на продаж. У паездку запісаліся многія, паколькі ключавым яе момантам стала наведванне элітнай зоны адпачынку «Сіджак».

Гэты аб'ект вядомы як віла Гульнары Карымавай — дачкі экс-прэзідэнта Карымава, якая пасварылася з бацькам яшчэ калі той быў пры ўладзе. Калі прэзідэнтам стаў Шаўкат Мірзіёеў Гульнара атрымала 13 гадоў зняволення за мноства злачынстваў. Яе ўласнасць, у тым ліку аб'ект «Сіджак», пра раскошу якога хадзілі легенды, канфіскавалі.

На самай справе, рэзідэнцыя Гульнары аказалася значна больш сціплай, чым чакалі журналісты. Перш за ўсё, там няма дэльфінарыя, пра які хадзілі чуткі. Але ўсё роўна маштабы раскошы ўражваюць. Комплекс абкружаны з трох бакоў ахоўным участкам плошчай 35 гектараў, занятым фруктовымі садамі. Плошча самой зоны адпачынку ўнутры другога перыметра складае 5,4 гектара, будынкі займаюць 5016,1 квадратных метра. На тэрыторыі комплексу размешчаныя гасцініца, некалькі басейнаў, амфітэатр пад адкрытым небам, VIP-катэдж і гэтак далей. Дачка прэзідэнта жыла нядрэнна.

**Паводле ўзбекскіх СМІ**

### УКРАІНА. Ці возьме Пуцін Львоў?

Нечаканы медыяэфект аказала абвастрэнне сітуацыі ў Данбасе на палітычныя працэсы ў Заходняй Украіне. Мэр Львова Андрэй Садовы на фоне трывожных навінаў з Усходу папрасіў амбасадара ЗША дапамагчы яму арганізаваць… «абарону горада ад расійскай агрэсіі».

Сваёй заявай мэр выклікаў гучны скандал. Нацыяналісты абвінавацілі бургамістра ў тым, што ён заваліў працу тэрытарыяльнай абароны і цяпер спадзяецца толькі на Злучаныя Штаты. Некаторыя каментатары наогул заклікаюць судзіць Садовага за тое, што той прызнае: лінія фронту можа знаходзіцца пад Львовам. «Гэта азначае: мясцовыя чыноўнікі на поўным сур'ёзе лічаць, што Пуцін можа дайсці да Львова. Вось дзе здрада, вось дзе здраднікі і панікёры. Настолькі не верыць ва ўкраінскую армію — гэта нават па ватных мерках перабор», — пішуць апаненты Садовага. Выснова: рабіць піяр на патрыятызме трэба асцярожна.

**Паводле ўкраінскіх СМІ**

### ФРАНЦЫЯ. Новы Напалеон

Французскі прэзідэнт Эмануэль Макрон вырашыў адзначыць на самым высокім афіцыйным узроўні двухсотгоддзе з дня смерці Напалеона, які пайшоў з жыцця 5 траўня 1821 года на востраве Святой Алены. Пры гэтым французскі гарант ігнаруе галасы праціўнікаў. Апошнія лічаць, што культ Напалеона, які пры жыцці быў дыктатарам і мілітарыстам, не вельмі моцна адпавядае духу дэмакратыі.

Такая ўпартасць Макрона нарэшце святкавання юбілею дала брытанскім кансерватыўным назіральнікам падставу зрабіць нечаканае рэзюмэ. Французскі прэзідэнт, на іх думку, відавочна вырашыў пераймаць стыль імператара. Такі трэнд пагражае не толькі інстытутам дэмакратыі ў Францыі, але і брытанскаму суверэнітэту. Парыж, у рэчышчы напалеонаўскай традыцыі, маўляў, будзе дамагацца кантролю над Брытаніяй, і перш за ўсё пастараецца вярнуць Альбіён у склад Еўрасаюза. Вось такая версія, якую можна спісаць на доўгую і часам экстравагантную канкурэнцыю французаў і брытанцаў.

**Паводле брытанскіх СМІ**

### ШАТЛАНДЫЯ. Бонусы незалежнасці




Калі шатландцы прагаласуюць за незалежнасць краю на рэферэндуме, яны атрымаюць дадатковы бонус — чатырохдзённы працоўны тыдзень. Пра гэта гаворыцца ў выбарчай праграме Шатландскай нацыянальнай партыі (SNP), якую прадставілі ў мінулую нядзелю. Па словах лідара SNP Ніколы Стэрджэна, калапсу гаспадаркі новы графік працы не выкліча, паколькі край будзе абсалютна аўтаномны ад Вестмінстэра. Праўда, каб хадзіць на працу толькі 4 дні на тыдзень, трэба зрабіць як мінімум дзве рэчы. Па-першае, прагаласаваць 6 траўня за нацыяналістаў, якія ў выпадку перамогі прызначаць дату рэферэндуму. Другі крок — падтрымаць на рэферэндуме праект незалежнай Шатландыі. Зрэшты, магчыма гэтых двух крокаў будзе недастаткова. Лондан днямі зноў заявіў, што не прызнае вынікі такога галасавання.

**Паводле брытанскай прэсы**



Фота www.nbcnews.com

# Таямніцы аднаго замаху

Алег НОВІКАЎ

**У беларускую палітычную дыскусію нечакана ўварвалася тэма замаху на егіпецкага прэзідэнта Анвара Садата. Што гэта за гісторыя і чаму вакол яе дасюль так шмат няяснага?**

Усё, што адбылося з Садатам, у тым ліку даводзіць патрэбу сачыць за вагой. Менавіта з-за свайго вялікага пуза егіпецкі прэзідэнт адмовіўся адзяваць бронекамізэльку перад тым, як адправіцца на парад 6 кастрычніка 1981 года ў Каіры. Анвар Садат вырашыў абысціся без яе, бо вырашыў, што бронікамізэлька, якую яму прапанавала жонка, надавала постаці прэзідэнта трошкі камічны выгляд.

Магчыма, ён аргументаваў гэта таксама дадатковымі фактамі. На трыбуне Садат па статусе павінен быў быць аточаны чатырма шэрагамі жаўнераў і васьмю ахоўнікамі. Армейскі парад планаваўся бяспечным з-за правілаў, якія забаранялі яго ўдзельнікам мець баявую зброю.

З іншага боку, учынак Садата ўсё ж можна лічыць авантурай. На той момант ён ужо паспеў нажыць сабе хеўру смяротных ворагаў. Галоўным чынам, за кошт дыялогу з Ізраілем і мірнымі дамовамі, якія ў Кэмп-Дэвідзе ў 1978-м падпісаў з прэм'ер-міністрам Ізраіля Менахемам Бегінам — дарэчы, выхадцам з беларускага Брэста.

Шматлікім арабам такі фліртз сіяністамі не спадабаўся. Крытыка была настолькі моцнай, што Егіпет нават выключылі з Арабскай лігі (аналаг арабскага СНД). Яшчэ далей пайшлі розныя радыкальныя ісламісцкія фарміраванні, якія адчувалі, што ім здрадзілі. Ісламісты адкрыта пачалі заклікаць да звяржэння егіпецкага прэзідэнта і да рэформы сістэмы кіравання на карысць тэакратыі. Хутка з'явіліся ў Егіпце і аматары індывідуальнага тэрору, у тым ліку сярод прадстаўнікоў кліру. Адзін з іх выдаў фетву, якая ўхваляла забойства прэзідэнта.

«Расхістваць лодку» ў краіне ісламістам дапамагала левая апазіцыя, якая арыентавалася на суседнія прамаскоўскія Сірыю і Лівію. Ліхаманіла і сілавы апарат, частка якога нават паспрабавала арганізаваць у чэрвені 1981-га путч. Мерапрыемства закончылася правалам, што стала пралогам для маштабнага хапуна. Толькі ў верасні таго года было арыштавана больш за паўтары тысячы чалавек, уключаючы нават лідараў праваслаўных коптаў. Пры гэтым абсалютна выпадкова пад каток рэпрэсій не трапіла невялікая група жаўнераў-ісламістаў пад кіраўніцтвам лейтэнанта Халіда Ісламбулі. Пазней гэтая група і адыграла вялікую ролю ў забойстве Садата.

Замах на прэзідэнта падчас парада 6 кастрычніка быў фрагментам больш шырокага плану захопу ўлады ў краіне. Адразу пасля навіны пра смерць гаранта запускаўся ланцуг акцый, якія ўключаў забойства галоўных кіраўнікоў краіны, захопы штаба арміі і офіса дзяржаўнай бяспекі, будынку тэлефоннай станцыі і, натуральна, офісы радыё і тэлебачання. Адсюль арганізатары перавароту збіраліся падзяліцца з суайчыннікамі навіной пра пачатак ісламскай рэвалюцыі, якая, у сваю чаргу, павінна была справакаваць шырокае народнае паўстанне.

Спачатку ўсё ішло па плану канспіратараў. Па ходзе параду грузавік-цягач, у якім знаходзіўся атрад змоўшчыкаў са зброяй, параўняўся з трыбунай прэзідэнта. Ісламбулі прымусіў кіроўцу спыніцца, а сам рушыў да Садата. Той устаў, каб прыняць салют, мяркуючы, што гэта частка шоу. «Шоу» сапраўды пачалося — Ісламбулі пачаў кідаць гранаты, у той час як яго паплечнікі ў грузавіку без разбору стралялі па трыбуне.

Праз сорак секунд пасля пачатку абстрэлу Анвар Садат ужо ляжаў, нашпігаваны кулямі. Пазней яго даставілі ў вайсковы шпіталь на верталёце. Але прэзідэнт памёр, так і не прыйшоўшы ў прытомнасць. Жыццёвы шлях уплывовага арабскага палітыка перапыніўся на 63-м годзе.

У сваю чаргу, у ісламістаў нешта пайшло не так. Ніякіх выступаў і захопаў адміністрацыйных будынкаў (за выключэннем пары месяцаў) смерць «Фараона» (так называлі Садата) не выклікала. Спецслужбы дастаткова хутка арыштавалі арганізатараў замаху, якіх з часам чакала смяротная кара.

Такая развязка дае падставы казаць, што ісламісты маглі быць «сляпым інструментам» у руках больш сур'ёзных сілаў, зацікаўленых выключна ў ліквідацыі Анвара Садата. Напрыклад, імі маглі маніпуляваць нейкія разведкі іншых арабскіх дзяржаў.

Некаторыя даследчыкі схільныя сцвярджаць, што да забойства Садата маглі быць датычныя вышэйшыя асобы егіпецкага кіраўніцтва, аж да самога віцэ-прэзідэнта Мубарака, які застаўся жывым і пасля доўгія трыццаць гадоў жалезнай рукой кіраваў Егіптам. Прынамсі, вельмі падазроная лёгкасць, з якой змоўшчыкі здолелі расправіцца з прэзідэнтам. Чаму падчас замаху бяздзейнічалі целаахоўнікі? Паводле статуту, яны павінны былі адкрыць агонь — аднак ніхто гэтага не зрабіў. Звяртаюць увагу, што чамусьці параненага Садата дастаткова доўга везлі ў шпіталь, што магло стаць вырашальным фактарам.

Як бачым, пытанняў дасюль хапае. Як, дарэчы, і ў справе пра спробу дзяржаўнага перавароту, аўтары якога, быццам, захапляліся, як мы бачым, вельмі спрэчным з пункту гледжання вынікаў замахам на Анвара Садата.

# Гаага па-афрыканску

Алег НОВІКАЎ

**Экс-прэзідэнту Буркіна-Фасо Блэзу Кампаорэ 14 красавіка прад'яўлена абвінавачанне ў забойстве.**


Фота www.rfi.fr

Буркіна-Фасо — гэта былая Верхняя Вольта. У 1984 годзе краіна стала называцца Буркіна-Фасо, што перакладаецца з мясцовага дыялекту як «радзіма сумленных людзей». Такая паэтычна-пафасная назва краіны не выпадковая, паколькі яе прыдумаў не хто іншы, як Тама Санкара — тагачасны прэзідэнт, якога за свае рамантычна-рэвалюцыйныя погляды яшчэ пры жыцці называлі «афрыканскім Чэ Гевара».

Стыль Тама Санкара лепш за ўсё ілюструе тое, як у яго часы быў арганізаваны побыт прэзідэнта. Ён жыў на 450 долараў у месяц — аклад армейскага капітана, а прэзідэнцкі заробак у памеры 2000 долараў пералічваў у сіроцкі фонд. Быў прададзены ўвесь урадавы аўтапарк, які складаўся з «Мерседэсаў». Замест іх для патрэбаў міністраў былі набытыя машыны маркі «Рэно 5» — самыя танныя на той момант аўтамабілі ў краіне. Больш за тое, Санкара забараніў чыноўнікам карыстацца асабістымі шафёрамі і лётаць першым класам. Клеркі таксама павінны былі замяніць дарагія заходнія гарнітуры на традыцыйную вопратку, пашытую мясцовымі вытворцамі. Адным з першых новаўвядзенняў яго ўрада стала абнародаванне даходаў усіх дзяржаўных чыноўнікаў.

Урадавая праграма Тама Санкара ўключала комплекс мер па фарсіраванай мадэрнізацыі эканомікі і сацыяльнай сферы, эмансіпацыю жанчын і разрыў з архаічнымі традыцыямі, барацьбу з прывілеямі чыноўнікаў. Не дзіўна, што такі радыкалізм хутка прывёў да фарміравання ў асяроддзі арміі і вертыкалі ўнутранай апазіцыі, нефармальным каардынатарам якой стаў Блэз Кампаорэ — калісьці, дарэчы, аднадумец Санкара і нават другі чалавек у яго камандзе.

15 кастрычніка 1987 года Блэз Кампаорэ ўзначаліў чарговы дзяржаўны пераварот, падчас якога прэзідэнт Тама Санкара і група яго паплечнікаў былі забітыя пры штурме прэзідэнцкага палаца. Сам Кампаорэ адразу абвясціў сябе новым кіраўніком дзяржавы і ўрада, дэвізам якога стаў лозунг пра выпраўленне перакосаў рэвалюцыі.

На справе гэта значыла адыход ад сацыялістычных пражэктаў на карысць звычайнай афрыканскай перыферыйнай дыктатуры, якая пад ціскам патронаў з заходніх сталіц мусіла імітаваць нейкі дэмакратычны працэс. У 1991 годзе ў краіне прайшоў рэферэндум, па выніках якога была прынятая новая Канстытуцыя. Новы Асноўны закон уводзіў два 7-гадовыя прэзідэнцкія тэрміны. 1 снежня таго ж года адбыліся прэзідэнцкія выбары, перамогу на якіх атрымаў адзіны кандыдат. Гэтым кандыдатам, зразумела, быў дзеючы прэзідэнт, які набраў 86% галасоў. Апазіцыя тыя выбары байкатавала.

Наступныя прэзідэнцкія выбары 1998 года нагадвалі дэжа-вю. Гарант быў дзяржурна пераабраны, набраўшы 87,5% галасоў на фоне байкоту выбараў з боку вядучых апазіцыйных партый.

У 2000 годзе Кампаорэ нечакана пагадзіўся на лібералізацыю — у Канстытуцыю была ўнесена папраўка пра скарачэнне прэзідэнцкага тэрміна з 7 да 5 гадоў. Як стала зразумела пазней, рэформа спатрэбілася выключна для таго, каб стварыць прававы казус, і дазволіць Кампаорэ балатавацца ў чарговы раз. Вынік — у 2005 годзе Кампаорэ быў пераабраны з 80% галасоў падтрымкі.

Такую порцыю галасоў атрымаў ён і на выбарах у 2010-м. Аднак гэтым разам у сістэме выявіўся дэфект. На наступны дзень пасля «элегантнай перамогі» выбухнулі хваляванні вайскоўцаў, прычым не дзе-небудзь, а ў казарме прэзідэнцкага палка, размешчанай непасрэдна ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы ў сталіцы краіны. З улікам таго, што патрабаванні жаўнераў былі выключна матэрыяльнага характару, выступ неяк лакалізавалі, хаця шмат цывільных, якія падтрымалі жаўнераў, былі забітыя.

Прэзідэнт не пачуў сігналу, і ў кастрычніку 2014 года быў ухвалены праект новай рэдакцыі Канстытуцыі, згодна з якой колькасць магчымых прэзідэнцкіх тэрмінаў меркавалася павялічыць з двух да трох. Законапраект аб унясенні змяненняў у Канстытуцыю быў адпраўлены на разгляд Нацыянальнай асамблеі, якая магла ўхваліць папраўкі без правядзення рэферэндуму.

Напярэдадні пасяджэння Асамблеі акцыі грамадзянскага непадпарадкавання ў сталіцы і іншых буйных гарадах перараслі ў масавыя беспарадкі і сутыкненні з паліцыяй. Напалоханы ўрад абвясціў пра адкліканне законапраекта, аднак пратэсную хвалю спыніць было немагчыма. Адначасова захісталася сілавая вертыкаль. 30 кастрычніка кіраўнік Генштаба абвясціў пра роспуск урада і парламента, увядзенне надзвычайнага становішча і правядзенне дэмакратычных выбараў. Пад ціскам ваенных, якія імкнуліся захаваць кантроль над сітуацыяй, Кампаорэ пагадзіўся датэрмінова сысці ў адстаўку і хуценька падаўся ў эміграцыю.

Ці не адразу пасля падзення старога парадку пачалі гучаць заклікі, каб пакараць экс-гаранта хаця б завочна. Судовыя працэсы сапраўды праз нейкі час пачаліся, аднак адвакаты Кампаорэ елі свой хлеб недарма. Так, у 2016-м яны дамагліся, каб Вярхоўны Суд зняў з яго абвінавачанні ў дзяржаўнай здрадзе. Пасля затармазілася расследаванне па абвінавачанні ў санкцыі на сілавое падаўленне акцый пратэсту ў кастрычніку 2014 года (у выніку сілавых дзеянняў загінулі 24 чалавекі, больш за 600 атрымалі раненні). Цяпер пачынаецца справа за забойства Тама Санкара. 14 красавіка былому прэзідэнту Буркіна-Фасо прад'яўлена абвінавачанне на гэты конт.

Гэта, натуральна, не азначае аўтаматычнага пакарання для Кампаорэ, які, калі верыць інтэрнэту, знаходзіцца ў суседняй рэспубліцы Кот-д'Івуар. Не кажучы пра тое, што шмат хто з жыхароў Буркіна-Фасо даўно забыўся пра мінулае, пераключыўся на новыя фішкі, і ўвогуле нярэдка лічыць, што ўрад штучна ўздымае тэму адказнасці Кампаорэ, каб адводзіць увагу ад сваіх хібаў. Аднак дасюль у краіне хапае і тых, хто патрабуе справядлівасці. А некаторыя з іх, як піша прэса, увогуле лічаць, што судзіць трэба ўсіх, хто з 1987 па 2014 гады хоць нейкім чынам працаваў на рэжым.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Садыр Жапараў

Падаецца, кіраўнік Кыргызстана пераплюнуў аднаго вядомага палітыка, які прапаноўваў лячыцца ад каронавіруса трактарам і хакеем.

Усё пачалося з таго, што міністр аховы здароўя і сацыяльнага развіцця раптам заявіў, што ў Кыргызстане для барацьбы з эпідэміяй Жапараў вырашыў выкарыстоўваць расліну пад назвай «ісык-кульскі корань». Больш за тое, паводле слоў міністра, вытворчасць настойкі на базе кораня ўжо паставілі на прамысловую аснову. Каламутную вадкасць разлівалі ў літровыя бутэлькі ў адным з памяшканняў рэзідэнцыі Жапарава. Новаму зеллю міністр прыпісаў чароўныя ўласцівасці: яно, нібыта, лечыць не толькі ад вірусу, але і раку страўніка.

Адукаваная частка насельніцтва жахнулася: «ісык-кульскі корань» (лац. Aconítum soongáricum) — наймацнейшы яд. Лічыцца, што ён небяспечны для жыцця нават пры вонкавым ужыванні. Супраць кораня няма нават антыдоту.

Не дзіўна, што выбухнуў скандал. Дэпутаты парламента Кыргызстана выказалі недавер міністру аховы здароўя, абвінаваціўшы яго і прэзідэнта ў... знахарстве (!). Садыр Жапараў, калі сутыкнуўся з крытыкай, выдаліў з сацыяльных сетак свае публікацыі пра эфектыўнае лячэнне вірусу народнымі сродкамі. Між тым, эксперты не выключаюць, што за інфармацыяй пра цуда-корань хаваецца жаданне ўладаў адцягнуць увагу грамадства ад актуальных праблемаў, якія новае кіраўніцтва краіны вырашыць банальна не ў стане.

### Олівер Доўдэн



Міністр спорту Вялікабрытаніі заявіў, што ўрад лічыць футбол «нацыянальным здабыткам». Сыходзячы з гэтага, кабінет міністраў Яе Вялікасці будзе супрацiўляцца планам прафесіяналізацыі гэтага віду спорту. Гаворка ідзе пра праект стварэння так званай «Суперлігі» з самых лепшых і заможных клубаў Еўропы, што азначае паніжэнне статусу нацыянальных турніраў і іх дэградацыю.

Каб не дапусціць «Суперлігі», Доўдэн заклікаў правесці пазачарговае пасяджэнне парламента для прыняцця экстранага заканадаўства. У прыватнасці, урад збіраецца прыняць правілы, згодна з якімі прыватным уладальнікам будзе забаронена аднаасобна кіраваць клубамі. Прэм'ер-міністр Джонсан раней нават дапусціў магчымасць, што брытанскія афіцыйныя органы перастануць выдаваць дазвол на працу ў Вялікабрытаніі замежнаму персаналу і гульцам клубаў, якія вырашаць падацца ў «Суперлігу».

Напэўна, гэта самы забаўны пункт у прамовах брытанскага ўраду, паколькі многія ўладальнікі клубаў (напрыклад, расійскі алігарх Раман Абрамовіч, уладальнік клуба Chelsea) фінансавалі выбарчыя кампаніі партыі Джонсана. Таму многія баяцца, што чыноўнікі, а таксама кіраўніцтва FIFA і UEFA, пойдуць на кампраміс з вялікім бізнесам. У гэтым плане некаторыя левыя партыі ў Еўропе ўжо заклікаюць фанатаў вынесці пратэст супраць «Суперлігі» на вуліцу.

### Сяргей Шайгу



З'явіліся дадатковыя аргументы на карысць версіі, што менавіта міністр абароны Расіі зменіць Пуціна на пасадзе прэзідэнта РФ. Такі прагноз грунтуецца на тым, што адбываецца ўнутры Расійскай Кампартыі (КПРФ), дзе заўсёды існаваў моцны прапуцінскі блок. Апошнім часам яго прадстаўнікі ўзмацнілі супрацоўніцтва з кланам Шайгу.

Пра гэта кажа і прызначэнне на пасаду часовага выканаўцы абавязкаў губернатара Ульянаўскай вобласці Аляксея Рускіх, якога пралабіравалі групы Зюганава і Шайгу. Да таго ж КПРФ перайшла ледзь не да адкрытых дыфірамбаў на адрас міністра абароны. Так, днямі намеснік старшыні ЦК КПРФ Уладзімір Кашын заявіў, што «генерал арміі Герой Расіі Шайгу смела і рашуча, не лічачыся з умоўнасцямі, адрадзіў з руін армію і флот. Бачым Шайгу ў якасці буйнога дзяржаўнага дзеяча».

Тое, што сістэмны лагер кампартыі стаў дрэйфаваць у бок Шайгу, як мінімум з'яўляецца яшчэ адным пацвярджэннем, што цяпер міністр абароны ў прэзідэнцкім рэйтынгу пераемнікаў — на адной з першых пазіцый, піша прэса.

Зрэшты, не будзем забывацца, што ў кампартыі апошнім часам сфарміравалася радыкальная фракцыя (Рашкін, Лебучанка, Марахаеў), якая бачыць будучыню КПРФ у адзіным антыпуцінскім фронце. Напрыканцы гэтага тыдня на чарговым з'ездзе партыі паміж згаданымі вышэй фракцыямі чакаецца шалёная бойка. Калі верыць Жырыноўскаму, усё можа скончыцца нават адстаўкай Зюганава.

# Таямніца Ірмы Яўнзем

Ніна СТУЖЫНСКАЯ

**Калі запаволіць на пару хвілін хаду ля дома №29 па вуліцы Карла Маркса, можна заўважыць шыльду, якая паведамляе, што вядомая савецкая спявачка Ірма Яўнзем вучылася ў жаночай Марыінскай гімназіі, якая знаходзілася ў гэтым будынку з 1899 года і да пачатку Першай сусветнай вайны.**



Цудоўны голас, мужны характар, на першы погляд, бліскучая сцэнічная кар'ера. Яе навучэнкамі былі Жанна Бічэўская і Ала Пугачова. Ірма, латышка па паходжанні, нарадзілася ў Мінску ў верасні 1897 года. Як сведчыць рамантычная сямейная гісторыя, бацькі Ірмы апынуліся ў беларускай сталіцы, каб пабрацца шлюбам, які быў немагчымы на радзіме. Няроўны саюз маладых людзей не віталі дзядуля і бабуля па маці Ірмы.

Шлях да славы і прызнання Ірмы Яўнзем у Савецкім Саюзе быў вельмі няпросты, і толькі вонкава выглядаў узорна: удзельнічала ў камуністычным агітцягніку на франтах Грамадзянскай вайны, аб'ездзіла краіну з народнай песняй, спявала ледзь не на ўсіх мовах народаў СССР. Рэпертуар быў насычаны песнямі з новага калгаснага фальклору, якія выдаваліся за народныя. Як і многія творчыя людзі той эпохі, Ірма Пятроўна аддала належнае ўслаўленню «двух сокалаў» — Леніна і Сталіна. Біяграфія спявачкі пакідае ўражанне, што яна ўвесь час мусіла сведчыць пра сваю звышлаяльнасць да ўлады, падкрэсліваць сваю савецкасць і адданасць савецкай дзяржаве.

Падчас вялікага канцэртнага турнэ ў 1926–1927 гадах Ірма пісала дзённік. У Харбіне 20 лютага 1926 года пасля канцэрта ў чыгуначным калектыве савецкіх спецыялістаў яна пакінула наступны запіс: «Які жах... Ва ўсе газеты дасланы ананімныя лісты за подпісам "ахвяра" пра тое, што я быццам "чэкістка", служыла ў ЧК, у Кіеве, Харкаве, і што маё мінулае — крывавая стужка. Як цяжка, калі кідаюць неабгрунтаваныя абвінавачанні». Беспадстаўнае абвінавачанне, хутчэй за ўсё, выклікала яе латышскае прозвішча. Як вядома, у тагачасных спецслужбах латышоў хапала. Тым не менш, спявачка адзначае грандыёзны поспех, які мелі яе выступленні. Немцы прапаноўвалі кантракты ў Заходняй Еўропе і Амерыцы. З гонарам піша яна пра канцэрт у прысутнасці імператарскай сям'і ў Японіі.

У аўтабіяграфічных зацемках спявачка не забывала падкрэсліваць факт свайго знаёмства з Міхаілам Фрунзэ, начальнікам Мінскай гарадской міліцыі, згадвала знаёмства з «правільнымі людзьмі», сяброўства з жонкамі чэкістаў. У трагічныя для Латвіі дні лета 1940 года адбыліся гастролі Ірмы Яўнзем у Рызе. Цыганскія рамансы, песні ў яе выкананні суправаджалі першыя крокі савецкага акупацыйнага рэжыму, які замацоўваўся турботамі Андрэя Вышынскага, пракурора-ката, жахлівага сімвала той эпохі.

У 1932 годзе Яўнзем атрымала званне заслужанай артысткі РСФСР, а ў 1957-м — народнай артысткі РСФСР. Народнай артысткай СССР Ірма Яўнзем так і не стала. Якая сямейная таямніца не дазволіла спявачцы дасягнуць вяршыні савецкага афіцыйнага прызнання?

Адчувалася, што было нешта ў біяграфіі Ірмы Яўнзем, што ўвесь час карэктавала яе паводзіны, уплывала на творчасць. Толькі пасля перабудовы ў выказваннях дачкі спявачкі (пляменніцы, насамрэч) прамільгнула, што «ў 1921 годзе здарылася трагедыя — бацьку (Ірмы. — **Аўт.**) расстралялі за неіснуючую сувязь з падпольнымі арганізацыямі Барыса Савінкава. Яўнзем вымушана была вярнуцца дамоў (у Мінск. — **Аўт.**) разам з мужам». Дачка паведаміла таксама пра некаторыя абставіны гібелі Пятра Яўнзема. «У 1921 годзе мой дзед быў расстраляны быццам за дапамогу ад'ютанту Савенкова (Савінкава. — **Аўт.**). У гэты час Ірма Пятроўна адсутнічала ў Мінску, яна была на гастролях... Як я чула ад маці, сутнасць была ў тым, што малады ад'ютант Савенкова некалькі разоў быў у доме майго дзеда, паколькі заляцаўся да яго малодшай дачкі — Эльфы (Эльфрыды. — **Аўт.**)».

Наступствы візітаў таямнічага "ад'ютанта" для сям'і былі жахлівыя. Сёстры трапілі ў ЧК. Эльфрыда звар'яцела. Доўгі час у біяграфічных зацемках спявачка пісала, што ў пачатку 1920-х гадоў голад і нястача прымусілі яе і сясцёр вандраваць па беларускіх вёсках і абменьваць свае рэчы на прадукты. Гэта праўда, як і тое, што маладыя жанчыны з'ехалі далей ад Мінска, дзе чэкісты праводзілі масавыя арышты контррэвалюцыянераў. У беларускай сталіцы пачалася аперацыя па ліквідацыі антысавецкага падполля, савінкаўскай і зялёнадубскай агентуры.

Вымушаныя вандроўкі мелі і добры вынік. Будучая зорка сабрала каля 100 беларускіх песень, заслуга яе перад беларускай культурай у поўнай ступені не ацэнена і сёння.

Палітычнае і культурнае жыццё ў сталіцы савецкай Беларусі ў 1921 годзе, яшчэ не заціснутае ў рэпрэсіўныя абцугі, віравала ў адкрытую і ўпотайку. Савецкая ўлада была слабая, яе хісткае становішча давала надзею палітычнай апазіцыі на хуткія змены.

Вельмі актыўным быў падпольны рух супраць новай улады. Лясная партызанская вайна, што разгарнулася на беларускіх тэрыторыях, суправаджалася стварэннем шырокай падпольнай сеткі ў гарадах і мястэчках. Цэнтры ўзброенай апазіцыі — Беларуская сялянская партыя «Зялёны дуб» з атаманам Дзергачом (сапр. Адамовіч) на чале і яго хаўруснік Народны саюз абароны радзімы і свабоды (далей — НСАРС, Саюз) пад кіраўніцтвам Барыса Савінкава — знаходзіліся за мяжой. У Мінску дзейнічала агентура антысавецкіх арганізацый.

У сваю чаргу, чэкісты правялі аперацыю «Крот», мэтай якой была ліквідацыя ў Беларусі контррэвалюцыйных камітэтаў. Агульная зводка ЧК Беларусі за тэрмін са жніўня па верасень 1921 года пад назвай «Крот», падрыхтаваная для маскоўскага кіраўніцтва, засведчыла, што выкрыццё ўзброенай апазіцыі ў Мінску і Мінскай губерні стала магчымым толькі пасля тэлеграмы гомельскіх чэкістаў з інфармацыяй пра явачныя кватэры Саюза ў Мінску. У мэтах праверкі на кватэры, пазначаныя ў тэлеграме, спачатку былі накіраваны сексоты. З Гомеля ў Мінск прыехалі аператыўнік Уладзімір Марчанка з палатняным (каб абгарнуць цела) пасведчаннем НСАРС і савінкавец-здраднік Іосіф Зянкевіч. Апошні павінен быў прадставіць чэкіста мінскім калегам як новага сябра.

У гомельскім спісе былі пазначаныя кватэры мінскіх актывістаў савінкаўскай арганізацыі. Да сваіх землякоў — латышоў Яўнземаў — у студзені завітаў Эдуард Аперпут, легендарны правакатар, якому прысвечаны цэлы тузін літаратурных твораў, герой фільмаў пра шпіёнаў і доблесных чэкістаў. У гэты час ён падтрымліваў Савінкава, займаў адну з кіруючых пасад у Заходнім (Гомельскім) камітэце Народнага саюза. Але пасля арышту лёгка быў перавербаваны чэкістамі (ці адразу быў агентам-кратом з пэўным заданнем) і адыграў адну з галоўных роляў у разгроме мінскіх антысавецкіх структур. Чалавек без сумлення, ідэйных перакананняў, з хісткай мараллю. З вялікай верагоднасцю можна казаць, што менавіта гэты лавелас і сноб зайшоў у нядобры час у гасцінны дом Яўнземаў.

Гаспадары явачнай кватэры, — Яўнзем Пётр Іванавіч, 44-гадовы бухгалтар, лютэранін, і яго жонка Эвеліна, бацькі 4-х дачок — Ірмгарды, Флярэнцыны, Эвеліны і Эльфрыды. Пётр Яўнзем паходзіў з вёскі Ландзіны Унгермуйжскай воласці Дзвінскага павету (цяпер Латвія). Адрас, які пазначаны быў у чэкісцкай тэлеграме з Гомеля, дзе пражывала сям'я, — Мінск, Новакаломенскі (на сямейных фота пазначаны Каломенскі) завулак, 3, кватэра 1 (цяпер вуліца Свярдлова). Анкета падследнага паведамляе, што Пётр Іванавіч меў сярэднюю адукацыю, валодаў сталярным майстэрствам, не цураўся грамадскай дзейнасці. У той час Пётр Іванавіч займаў пасаду казначэя Мінскай губернскага земскага камітэта дапамогі хворым і параненым байцам.



Ірма Яўнзем сярод працоўных завода Марці



Ірма Яўнзем праводзіла заняткі ў сваёй кватэры

Яўнзем быў арыштаваны за контррэвалюцыйную дзейнасць, прыналежнасць да Саюза па так званай «Справе 48». Самыя розныя людзі з багата якіх куткоў Беларусі трапілі ў гэтую злавесную лічбу «48». Агенты Народнага саюза з Бабруйска, арыштаваныя ў сакавіку 1921 года (ці не з іх затрымання пачалася раскрутка савінкаўскага клубку?), свае людзі з памежжа на Мазыршчыне, Случчыне, дзяўчаты з канцылярый розных савецкіх устаноў і тэрарысты, якія чакалі сігналу на паўстанне, фігуруюць у спісах з прыпіскай «справа П. Яўнзема».

Турэмны сшытак П. Яўнзема пачаў запаўняцца 6 чэрвеня 1921 года. Пэўны тэрмін перад ДОПРам (Дом грамадска-прымусовай працы — мінская турма, сёння Валадарка), ён знаходзіўся ў падвалах ЧК. Адтуль яго перавялі з прыпіскай: «Трымаць асобна, у ізаляцыі», тым самым яму адводзілася роля аднаго з важных чальцоў арганізацыі. Разам з бацькам была арыштаваная 20-гадовая Эвеліна.

Справа Эльфрыды ў турэмным фондзе адсутнічае. Па заканчэнні следства яна звярталася да каменданта турмы з просьбай аб сустрэчы з Эвелінай. Просьба была задаволена. Пра што гаварылі сёстры перад расстрэлам бацькі? Невядома. Трагедыя паклала пачатак многім сямейным цяжкавырашальным праблемам.

Па справе Пятра Яўнзема праходзілі і іншыя людзі з такім прозвішчам — 33-гадовы Яўнзем Юльян Карлавіч, магчыма, сваяк, паходжаннем з Рэчыцкага павета, жыхар Мінска і, што цікава, справавод адной з дзяржаўных устаноў. У першай дзясятцы асуджаных да расстрэлу пасля Яўнземаў — мінская сям'я Мезенаў, чатыры сястры і брат.

26 жніўня 1921 года Яўнземы былі вернутыя ў ЧК. Хутчэй за ўсё, у гэты час Пётр Яўнзем быў расстраляны разам з астатнімі фігурантамі справы. ЧК даслала ў турму распараджэнне выкрасліць іх са спісаў вязняў. Можна меркаваць, што Эвеліна нейкі час адбывала пакаранне ў Мінскім канцлагеры, які быў адкрыты ў сакавіку 1921 года з мэтай утрымання нелаяльных да савецкай улады людзей і выкарыстання іх у якасці таннай працоўнай сілы.

30-я гады прынеслі Яўнземам новыя выпрабаванні. У 1933-м за мяжу збег муж Эвеліны. Трэба было чакаць непрыемных наступстваў. Сям'я і так не знікала з поля зроку НКУС. Ірма Пятроўна ўдачарыла пляменніцу, дачку Эвеліны, пры жывой маці. Гэта быў крок, каб прадухіліць бяду. У 1937 годзе памерла маці. Трагічна склаўся лёс яшчэ адной сястры — Флоры (Фларэнціны). На пачатку снежня 1940 года пасля выкліку ў Ленінградскае КДБ яна была знойдзена ў сябе дома ў пятлі з перарэзанымі венамі.

Можа быць, таму Ірму Яўнзем так кранала несправядлівыя абвінавачванні ў супрацы з ЧК?

# Яшчэ раз пра зборную,
## альбо прычым тут «карлікі» з Люксембургу

Сяргей КАЙКО

**Футбольны чэмпіянат краіны працягваецца. І ўжо ў ролі самага зацікаўленага гледача — Георгій Кандрацьеў. Менавіта яго, нагадаем, прызначылі трэнерам замест звольненага Міхаіла Мархеля, праўда, з прыпіскай «выконваючы абавязкі». Спецыяліст старанна аналізуе гатоўнасць футбалістаў да чэрвеньскіх таварыскіх гульняў.**




Фота Reuters

**31.08.2017. Люксембург – Беларусь – 1:0: «аматары» мацней за прафесіяналаў**

Пакуль тое цягнецца, НЧ прапануе радыкальнае вырашэнне трэнерскага пытання ў нацыянальнай камандзе. З цудоўным разуменнем, што наверсе да гэтай ідэі не прыслухаюцца — аднак з надзеяй на здаровы глузд недзе ў светлай будучыні, якая аднойчы надыдзе.

### Пасяўная і ўборачная

Ідэя зусім простая ў сваім адчаі. Хопіць называць зборную галоўнай камандай краіны і аддаваць ёй лепшае — увагу, сілы, рэсурсы. Уся яна, са сваімі сціплымі магчымасцямі і свайёй сённяшнай занядбанасцю, мусіць быць засунутая ў доўгую шуфляду. Да лепшых часоў. Набліжаць гэтыя часы — вось першасная задача футбольнага менеджменту. Яго галоўная місія, якую нельга праваліць.

Сучасны беларускі футбол — гэта містычны сусвет з парушанымі прычынна-выніковымі сувязямі. Дзіцяча-юнацкі тут сектар спустошаны, моцныя гульцы не гадуюцца, маладзёжная зборная дэградавала... Але ад зборнай нацыянальнай кожны раз патрабуюць прарыву ў турнірныя эмпірэі, але заплюшчваюць вочы на поўную адсутнасць перадумоў.

Гэта калі б у сельскай гаспадарцы чакалі рэкордных ураджаяў, забыўшыся на пасяўную. І вельмі здзіўляліся, што на палетках анічога не ўзышло.

Футбол, вядома, не калгас, але таксама цыклічная з'ява са сваёй аграноміяй. Не заб'е нападаючы зборнай рашаючы гол за выхад на чэмпіянат Еўропы, калі гэтаму нападаючаму не надалі належнай увагі на папярэдніх этапах саспявання. Не навучылі, не выхавалі, не адабралі як лепшага сярод іншых у канкурэнтным асяроддзі. Не вырасце на раллі бухматае каліва, калі тую раллю не даглядзець-угнаіць, а тое каліва не акружыць клопатам і ўвагай.

Ці разумеюць айчынныя футбольныя стратэгі гэтыя сярмяжныя ісціны? Канешне, разумеюць. Больш за тое: самі ж іх актыўна дэкларуюць на разнастайных нарадах, самі ж іх прапагандуюць у шматлікіх інтэрв'ю. Аднак потым стартуе сезон — і ўсе памкненні нашых упраўленцаў адразу ж засяроджваюцца на галоўным. На выніках дарослай каманды, якая ёсць вокладкай, фасадам і сэнсам жыцця. Якая б'ецца за ўраджай пасярод неабсяжнай цаліны.

Справа тут, вядома, не толькі ў зборнай. Клубы тут ці не ў першую чаргу гоняцца за імгненнымі асаладамі. Накіроўваюць фінансаванне на камплектацыю, марнуюць грошы на дарагіх легіянераў, зладжваюць «гонкі бюджэтаў», каб перахапіць у канкурэнтаў забіўнога цэнтрфорварда ці рэактыўнага латэраля. Дзіцяча-юнацкія нівы ў гэты самы час спаквала зарастаюць пустазеллем.

Справа не ў зборнай — аднак зборная тут чамусьці ніяк не можа зрабіцца яскравым пазітыўным прыкладам. Дык, магчыма, цяпер — самы час? Усё роўна ж сітуацыя такая, што страчваць няма чаго — акрамя 89-й пазіцыі сусветнага рэйтынгу. А калі так, то варта кардынальна змяніць прыярытэты. І нарэшце ўсур'ёз заняцца не ўборачнай, а менавіта пасяўной.

### Што пасееш, тое і пажнеш

Як гэта можа выглядаць? Ды ўсё проста. Па-першае, трэба не на словах, а на справе скіраваць высілкі на мацаванне падмурку — дзіцяча-юнацкага футбола. Сюды ўкладаць рэсурсы і таленты — на прынцыпах творчай матывацыі. Сюды дадаць грошай, бо капейкавыя заробкі дзіцячых трэнераў ёсць шматгадовай радзімай плямай айчыннай гульні нумар адзін. Тут укараніць сучасныя прагрэсіўныя метадыкі, якія не грэх пазычыць (часткова гэта ўжо робіцца) дзе-небудзь на Захадзе.

І галоўнае — займацца гэтым кірункам не паводле рэштакавага прынцыпу, а сапраўды рупліва і дбайна. Як сваёй асноўнай, самай ключавай задачай. Маючы тое самае народнае разуменне: што пасееш, тое і пажнеш. Маючы на ўвазе, што спяшацца не трэба — цішэй едзеш, далей будзеш. Гадаванне племя маладога не трывае мітусні.

Па-другое — як згадана вышэй — досыць ужо патрабаваць ад нацыянальнай зборнай нейкіх касмічных дасягненняў. Ёй у новай рэальнасці застанецца адно — гуляць і атрымліваць задавальненне. Займаць тыя свае апошнія ці перадапошнія месцы ў адборачных турнірах, да якіх заўзятары ўжо прывыклі. Не засмучацца з гэтай нагоды, бо футбол — гульня справядлівая, і яе не падманеш. І — чакаць. Чакаць, пакуль узгадуюцца новыя пакаленні — і гучна пагрукаюцца ў дзверы зборнай.

І вось у гэтым сэнсе зусім другасна выглядае пытанне, хто стане наступным галоўным трэнерам нацыянальнай каманды. Ды без розніцы, калі па вялікім рахунку. Абы, як кажуць, добры быў чалавек. З базавым наборам якасцяў — ведамі, досведам, харызмай. Ну і, безумоўна, са здольнасцю стварыць у зборнай лёгкую, пазітыўную, добразычлівую атмасферу. На такую ролю і кандыдаты знойдуцца хутка, бо яна адпавядае патрабаванням часу. Гэта не на Марс ляцець на старым пепелацы, як загадвалі раней. Гэта — проста гуляць у сваю моц, пакінуўшы ўсе спрадвечныя мары пра цуд.

Ніякае гэта не вынаходніцтва, канешне, — рухацца ў такім плыткім рэчышчы. Гэтак робяць і іншыя, хто ці зайшоў у тупік, ці толькі набірае галавакружную вышыню.

### «Карлікі», якія выраслі

Выразны прыклад тут — зборная Люксембурга. Каманда невялікага Вялікага Герцагства, якую мы яшчэ гадоў пятнаццаць таму грэбліва называлі футбольным карлікам. Называлі-называлі — ды даназываліся да таго, што тыя «люксы»-аматары ўжо колькі разоў начысцілі лыч ганарыстым беларускім прафесіяналам. Асабліва эпічна — восенню 2007-га ў Гомелі, калі ўторкнулі пераможны мяч напрыканцы матчу. З таго часу беларускія заўзятары ведаюць імя Альфонса Левека — гаспадара аднаго з люксембургскіх бараў, які пагульваў у футбік у вольны час ды аднойчы забіў гол і праславіўся ў далёкай Беларусі.

Люксембуржцы ў футболе ніколі нікуды не спяшаліся. Хаця б маглі — праз сваю багатую эканоміку — уключыць нейкі фарсаж і ўзяць на сябе абавязацельствы накшталт «пяцігодку за тры гады». Але не. Свой дом яны паволі выбудоўвалі ад падмурку, своечасова зразумеўшы, што без спрытнай моладзі будучыні няма.

Наконт нацыянальнай зборнай не замарочваліся — гуляе сабе і гуляе, прайграе і прайграе. Так і мусіць быць, бо такі ўзровень. Гэта не нагода засмучацца, падымаць вэрхал і тым больш усчынаць трэнерскую чахарду.

Вы здзівіцеся, але за 35 гадоў — з 1985-га і дагэтуль — са зборнай Люксембурга працавалі ўсяго... чатыры галоўныя трэнеры. Гі Элерс — шэсць гадоў, Люк Хольц — больш за дзесяць, а рэкардсмен-«доўгажыхар» Філіп Поль трымаў стырно ажно шаснаццаць сезонаў. За ўвесь гэты час яго каманда здолела перамагчы толькі тройчы — і ніхто не заклікаў галоўнага да адстаўкі праз такія кепскія вынікі.

На чале беларускай нацыянальнай каманды за чвэрць веку засвяціліся дзесяць трэнераў — прытым што некаторыя паспелі папрацаваць і па два разы. Так бы мовіць, адчуйце розніцу.

І вось яна — розніца. Мы штогод дэкларуем недасягальна амбітныя мэты, ганяемся за міражамі, а па факце прайграем бельгійцам 0:8 і не бачым прасвету. Карпатлівыя люксембуржцы за гэты час напрацавалі сістэму — і іх дзіцяча-юнацкі футбол пачаў генераваць таленты еўрапейскага ўзроўню ў дастатковай колькасці. І гэта нягледзячы на тое, што насельніцтва ў тым герцагстве — як у нашым Гомелі.

І цяпер за Люксембург ужо не гуляюць бармэны, цырульнікі і студэнты. Цяпер там спрэс прафесіяналы, якіх ахвотна запрашаюць да сябе салідныя еўрапейскія клубы. Іспанскі «Расінг», бельгійскі «Стандард», нямецкі «Майнц», нідэрландская «Спарта», швейцарскі «Янг Бойз», кіеўскае «Дынама»...

Адпаведна, палепшыліся і вынікі. Перамога зборнай — гэта больш не дзіва ў самай маленькай краіне Бенілюкса. Нават у бягучым адборы, які толькі-толькі распачаўся, люксембуржцы ўжо нарабілі грукату. Перамаглі ў Дубліне ірландцаў, пацягалі за чуб партугальцаў, якія вырataваліся толькі дзякуючы голу зорнага Крышціяну Раналду...

У іх усё толькі пачынаецца. Яны пасеялі і чакаюць жніва. Мы таксама чакаем — хіба з мора надвор'я.

### Чэмпіянат Беларусі

**ТУР 5.** 16.04. СПАДАРОЖНІК (Рэчыца) — ІСЛАЧ (Мінскі раён) — 1:5 (490; Халадзінскі, 68 — Ануфрыеў, 13, Юсаў, 35, 78, Патоцкі, 39, Камароўскі, 58). ВІЦЕБСК — СЛУЦК — 0:0 (906; На 88-й хвіліне Жуліа Сэзар (Віцебск) не рэалізаваў пенальці (міма варот)).

17.04. ТАРПЕДА-БЕЛАЗ (Жодзіна) — ДЫНАМА (Брэст) — 0:2 (960; Сядзько, 16, Шасцюк, 51). НЁМАН (Гродна) — МІНСК — 0:2 (850; Лопес, 33, Багамольскі, 61). БАТЭ (Барысаў) — ЭНЕРГЕТЫК-БДУ (Мінск) — 2:1 (2600; Драгун, 21, 23 — В.Васільеў, 30, з пенальці). ШАХЦЁР (Салігорск) — СЛАВІЯ (Мазыр) — 4:1 (1000; Кендыш, 44, Дарбо, 55, 81, Дзябелка, 93+ — Тыманюк, 61).

18.04. ДЫНАМА (Мінск) — ГОМЕЛЬ — 1:2 (2171; По, 1 — Гомза, 46+, Пабудзей, 58). РУХ (Брэст) — СМАРГОНЬ — 5:0 (345; Лапцеў, 1, 9, 65, Савіцкі, 25, Садоўскі, 82).

23.04. Смаргонь — Спадарожнік, Славія — Слуцк. 24.04. Дынама Бр. — Віцебск, Іслач — БАТЭ, Энергетык-БДУ — Нёман, Мінск — Дынама Мн. 25.04. Шахцёр — Рух, Гомель — Тарпеда-БелАЗ.

| | | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Шахцёр | 5 | 5 | 0 | 0 | 14-2 | 15 |
| 2. | Дынама Бр. | 5 | 3 | 2 | 0 | 8-1 | 11 |
| 3. | БАТЭ | 5 | 3 | 2 | 0 | 10-5 | 11 |
| 4. | Гомель | 5 | 3 | 1 | 1 | 9-5 | 10 |
| 5. | Рух | 5 | 2 | 3 | 0 | 9-3 | 9 |
| 6. | Іслач | 5 | 3 | 0 | 2 | 8-6 | 9 |
| 7. | Дынама Мн. | 5 | 2 | 2 | 1 | 6-3 | 8 |
| 8. | Мінск | 5 | 2 | 2 | 1 | 7-5 | 8 |
| 9. | Тарпеда-БелАЗ | 5 | 2 | 0 | 3 | 2-7 | 6 |
| 10. | Віцебск | 5 | 1 | 3 | 1 | 2-1 | 6 |
| 11. | Слуцк | 5 | 1 | 2 | 2 | 3-5 | 5 |
| 12. | Энергетык-БДУ | 5 | 1 | 1 | 3 | 5-5 | 4 |
| 13. | Спадарожнік | 5 | 1 | 0 | 4 | 2-12 | 3 |
| 14. | Нёман | 5 | 0 | 2 | 3 | 1-6 | 2 |
| 15. | Славія | 5 | 0 | 1 | 4 | 2-9 | 1 |
| 16. | Смаргонь | 5 | 0 | 1 | 4 | 1-14 | 1 |

## ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

**Працягваем расказваць пра вязняў, дні народзіны якіх прыпадаюць на красавік. Павіншуйце іх паштоўкай ці тэлеграмай або адпраўце грашовы перавод да свята. А яшчэ ў вас ёсць магчымасць даслаць віншаванне ў рэдакцыю, а мы яго надрукуем.**

### 25 красавіка

31 год споўніцца **Кіры Баяранка.** Яна валанцёрка з Мінска. Шмат дапамагала вязням і



іх родным. Была затрыманая 10 лютага 2021 года і змешчаная пад варту. На Кіру завялі крымінальную справу па арт. 342 КК.

Адрас для лістоў: СІЗА–1. 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2.

Сваё 24-годдзе сустрэне **Павел Шпетны** — жыхар Брэста. Быў затрыманы 2 сакавіка ў межах крымінальнай справы, заведзенай на актывістаў анархісцкага руху з Брэсцкай вобласці. Хлопцу прад'яўлена абвінавачанне па арт. 342 КК і па ч. 2 арт. 285 КК.

Адрас для лістоў: СІЗА–1. 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2.

### 26 красавіка

33 гады спаўняецца **Зміцеру Казлову** — блогеру ютуб-канала «Шэры Кот». Скончыў 4 курсы Горацкай сельскагаспадарчай



акадэміі. Вучыўся на агранома. Блогерствам захапіўся ў 2017 годзе, калі шмат людзей выказвалі незадаволенасць «дармаедскім» дэкрэтам. Быў затрыманы 10 чэрвеня разам з актывістамі «Еўрапейскай Беларусі». На наступны дзень ён быў асуджаны на 20 сутак арышту і, адпаведна, мусіў выйсці на волю 30 чэрвеня. Але ён застаўся за кратамі. У гэты ж дзень стала вядома, што ён цяпер — новы фігурант справы па ч. 1 арт. 342 КК.

Лісты да Змітра і ад яго ідуць марудна і даходзяць не ўсе. У лісце ад 13 красавіка ён напісаў: «Пішу ўжо з Магілёва, нас чамусьці будуць судзіць менавіта тут». Гэта быў 11-ы ліст ад Змітра ў рэдакцыю, але да нас дайшло толькі тры.

Адрас для лістоў: 212011. СІЗА–4, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99 А.

Свой 21-шы дзень народзінаў сустрэне за кратамі **Якаў Шафарэнка** — жыхар Брэста,



фігурант крымінальнай справы, распачатай па ч. 2 арт. 293 КК. Якаў знаходзіцца пад вартай з 20 снежня 2020 года.

Адрас для лістоў: СІЗА–7. 224030, Брэст, вул. Савецкіх памежнікаў, 37.

41 год споўніцца **Уладзіміру Цыгановічу** — блогеру, аўтару youtube-канала MozgON. Ён быў затрыманы 9 чэрвеня для адбыцця 15-суткавага арышту, вынесенага яшчэ ў сакавіку 2020 года. 15 чэрвеня чарговы суд пакараў яго дадатковымі 15 суткамі. 26 чэрвеня праваабаронцам стала вядома, што Уладзіміра Цыгановіча перавялі ў СІЗА–1 па вул. Валадарскага. Ён знаходзіцца ў статусе абвінавачанага па «справе Ціханоўскага» (арт. 342 КК РБ). У лютым стала вядома, што Цы-



гановічу прад'явілі яшчэ адно абвінавачанне — па арт. 13 ч. 2 арт. 293 КК.

Днямі ў рэдакцыю НЧ прыйшоў ліст ад Уладзіміра і іншых насельнікаў камеры 66. Дзе яны пішуць: «Увогуле трымаемся моцна. Па закладзенай класікамі традыцыі, пішам вершы».

Адрас для лістоў: СІЗА–1. 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2.

Сваё 18-годдзе сустрэне **Давід Збаранскі.** Ён быў затрыманы 30 лістапада, адразу пасля таго, як вярнуўся з Любліну, дзе навучаўся на факультэце турызму. Супраць яго была распачата крымінальная справа за ўдзел у масавых беспарадках у Брэсце 10 жніўня. Прад'яўлена абвінавачанне па ч. 2 арт. 293 КК РБ.



Адрас для лістоў: СІЗА–7. 224030, Брэст, вул. Савецкіх памежнікаў, 37.

### 27 красавіка

34-ты дзень нараджэння сустрэне **Міхаіл Ефімовіч** — жы-



хар Гродна, намеснік дырэктара ТАА «ЕКС Поток». Ён асуджаны на 2,5 года пазбаўлення волі па арт. 364 КК. Таксама па гэтай крымінальнай справе асуджаны Міхаіл Юдзін, Вадзім Хіжнякоў і Андрэй Севяртока. Пакуль што ўтрымліваецца ў СІЗА.

Адрас для лістоў: СІЗА–1. 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2.

### 29 красавіка

43 гады спаўняецца **Аляксею Чарвінскаму.** Ён быў затрыманы 30 жніўня 2020 года ў Мінску падчас нядзельнай акцыі пратэсту. Аляксея абвінавацілі па арт. 364 КК. 27 лістапада суддзя суда Ленінскага раёна Мінска Марына Запаснік пакарала Аляксея Чарвінскага 4 гадамі пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Адрас для лістоў: Следчая турма №8. 222163, Жодзіна, вул. Савецкая, 22А.

Таксама 43 гады споўніцца **Івану Канявегу,** дырэктару кан-



цэртнай агенцы Horse&Vega. Ён пад вартай з 17 снежня. 4 лютага асуджаны на 3 гады пазбаўлення волі за тое, што спрабаваў спыніць машыну ДАІ, каб не дапусціць наезду на людзей.

Адрас для лістоў: Следчая турма №8, 222163, Жодзіна, вул. Савецкая, 22А.

32-годдзе за кратамі сустрэне **Рыгор Гунько** — фігурант «пін-



скай справы». Рыгор Гунько быў затрыманы ноччу 10 жніўня і змешчаны пад варту. Яму было прад'яўлена абвінавачанне па ч. 2 арт. 293 КК РБ.

Адрас для лістоў: СІЗА–7. 224030, Брэст, вул. Савецкіх памежнікаў, 37.

### 30 красавіка

37 гадоў споўніцца **Аляксандру Шабаліну** — сябру ініцыятыўнай групы Святланы Ціханоўскай у Гомелі. 7 чэрвеня быў затрыманы ля свайго пад'езду і дастаўлены ў РАУС Цэнтральнага раёна. Аляксандр раніцай меўся ехаць на пікет па зборы подпісаў. У 11.30, калі ён выйшаў з пад'езда, да яго падышлі некалькі супрацоўнікаў міліцыі і ўручылі яму позву, дзе ён выклікаўся ў якасці сведкі па нейкай крымінальнай справе. У РАУСе Навабеліцкага раёна ён быў апытаны па дзвюх крымінальных справах, па якіх ён нічога і нікога не ведаў.

Яму прад'яўленае абвінавачанне па ч. 1 арт. 293 КК.

Адрас для лістоў: СІЗА–3. 246003, Гомель, вул. Кніжная, 1А.

***Зычым усім палітвязням здароўя, волі і сустрэчы ў новай Беларусі!***

# «Я бліжэй, чым ты думаеш»

Дзяніс Гуцін, адміністратар тэлеграм-канала «Кіроўцы 97», быў затрыманы 22 верасня. Яго абвінавачваюць па арт. 342 КК, ч. 1.2. Суд над Дзянісам мусіў адбыцца 13 красавіка, аднак за дзень да гэтага пасяджэнне раптоўна адмянілі па невядомых прычынах.

У Дзяніса на волі — жонка і трое дзяцей, два з якіх — блізняткі. Малодшае дзіця мае групу інваліднасці. Жонка Аляксандра не змагла атрымаць дазвол на спатканне з мужам, каб абмеркаваць аперацыю, якую трэба зрабіць на вочы сына.

Дзянісу 1 траўня споўніцца 31 год. Лісты ад жонкі Дзяніс не атрымлівае ўжо месяц, таму Аляксандра не ўпэўненая, ці дойдуць яе віншаванні. Праз газету «Новы Час», якую Дзяніс атрымлівае, Аляксандра перадае мужу шчырыя словы віншавання і падтрымкі:

«Родны мой, вось набліжаецца твой дзень народзінаў... Не так даўно быў верасень — і мы думалі, як будзем святкаваць мае народзіны, а цяпер наступіў ужо і твой дзень... Каханы, упершыню за столькі гадоў у гэты дзень мы не будзем разам, аднак ведай: ты — наша ўсё, мы — адно... Мы ж Гуцiны! Каханы мой, дзякуй табе за 11 гадоў нашага сямейнага жыцця і за нашых неверагодных дзяцей! У твой дзень, хай і ў мільённы раз, я хачу сказаць табе, што кахаю цябе і табой ганаруся. Цябе мне паслаў лёс. І я не магу выказаць словамі, якая ж я шчаслівая быць тваёй жонкай! Ты стаў для мяне сябрам, братам і самым каханым і смелым мужчынам.

Родны мой, хачу пажадаць табе трываласці, бо мы праходзім праз цяжкі перыяд нашага жыцця. Здароўя, каб ты пражыў яшчэ шмат гадоў. Жадаю табе не падаць духам і не сумнявацца ў сваіх сілах, а ўпэўнена і смела крочыць да сваіх мар.

Глебушка жадае табе хутчэй вярнуцца дадому, Ульяшка — каб усе цябе любілі і паважалі. Маркусік зычыць табе хутчэй усіх нас пабачыць. Мы ўсе цябе вельмі любім і чакаем. Я бліжэй, чым ты думаеш. З нецярпеннем чакаю цябе дома.

P.S. Сябры вельмі чакаюць, калі змогуць пакарміць з табой качак».

Адрас для лістоў: СІЗА–1, 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №675

Падпісана да друку 22.04.2021. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.